# ЗЯНОН

# ДАРОГА

(Вершы і фатаграфіі )

Варшава — Вільня
„Беларускія Ведамасьці"
Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве
2007 г.

# ЁН, ЗЯНОН

Перагарнулася апошняя старонка манускрыпта „Дарога”, вяртаюся да пачатку...

Недзе ў сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя, каля будынку, дзе месьцілася тады выдавецтва „Мастацкая літаратура”, аднойчы, калі сустрэліся, Зянон пачаў чытаць мне верш, які, згадваю, клікаў навальніцу і дождж, каб змыць з аблічча зямлі бруд. Па інтанацыі, зь якой верш чытаўся, і па сэнсавых акцэнтах, яму ўласьцівых, я здагадваўся, хто аўтар верша, аднак, калі запытаўся, мой суразмоўца ўхіліўся ад адказу, зазначыўшы, што імя аўтара невядомае і мне нічога не скажа.

Зянон не прыналежыў і не прыналежыць да гільдыі паэтаў і нават цяпер уголас і да канца не прызнаецца, што піша вершы. Ён уваходзіць у паэзію, выходзячы зь яе.

Яго вершы маюць асаблівы кшталт, і ў папярэдняй кнізе, што выйшла ў 2000-м годзе, у „Глёрыя Патрыя”, і ў гэтай сумяшчаюцца з фатаграфіямі, як бы дапаўняючыся адно адным ці служачы адно аднаму кантэкстам і тлумачэньнем, і тое, што зьбіраюць фатаграфіі, вершы аддаюць. Адасобленыя ад фатаграфіяў і разасобленыя самыя, яны фрагмэнты нечага, але разам утвараюць анталогію, у якой шмат прысутнасці і адзін аўтар. Яны як рэаліі фатаграфіі, укладзенай у праяўнік: праяўленыя, дапасоўваюцца да папярэдніх і самы чакаюць, што вытлумачацца наступныя. І колькі б іх ні сабралася пад вокладкай, для анталогіі іх ніколі не досыць.

Два асноўныя формаўтваральныя пачаткі ўласьцівыя таму, што творыць Зянон: адзін ідзе ад японскай паэзіі, ад „найвялікшага фатографа” Басё, другі — ад айчыннага фальклору, ад песьні. І ў абодвух выпадках адбываецца пэўная трансфармацыя; у першым — хайку становяцца трацінамі, танка — пятрынамі, а то і наогул кароткімі і ня дужа кароткімі вершамі, у другім — самы скрышталізаваныя пастулаты творчага крэда перацякаюць у рытм і ў мэлёдыю, як, растаючы, перацякае лёд у плынь Гаўі.

Кніга мае сваю адмысловую архітэктоніку: яна распадзелена на разьдзелы і спарадкавана ў цыклы, жанравыя і зьместавыя, разгорнутыя і толькі пазначаныя, іх шмат, і, як ракурсамі імі заўсёднае мінулае зьядноўваецца з заўсёдным цяперашнім, тое, што адбылося, з тым, што адбываецца, і, як у ракурсах, у іх рэчаіснасьць, зьдзіўляючыся, распазнае сябе.

Зянон умее складаць вершы, а тое, што ён не зьвязаны завучанымі напамяць правіламі вершаскладаньня, дазваляе вершу пераходзіць у зацемку, узьнікаць, згушчаючы мову, у абзацах эсэ, рыфме аб’яўляцца, дзе ёй зажадаецца, рытму недабягаць альбо перабягаць склады сілаба-тонікі, а алітэрацыям знаходзіць палотны краявідаў, каб гукамі маляваць свае відарысы, як гэты:

*Клёп-клёп —*
*Пад клёнамі за Клявой*
*Далёка касец*
            *касу клепле, —*

але сам ён як бы ня хоча ўкладацца ў гэты занятак цалкам. Нешта ў ім застаецца яшчэ нечым не занятае, ці занятае тым, што пераважае ўсе вядомыя заняткі. Здаецца, самае важнае для яго цяпер — зафіксаваць імгненьне, ня даць яму зьнікнуць, астатняе — справа часу.

У вершах Зянона вельмі адчувальны асабовы пачатак: што б ён ні распавядаў, яны, як лакмусавыя паперкі аўтарскай экзістэнцыі, сьведчаць: гэта бачыць ён, гэта фармулюе ён; дзякуючы гэтаму мы маем магчымасьць шмат што ўбачыць, пачуць і зразумець, і, аднача-сова, дзякуючы гэтаму ў тое, што бачым, чуем і разумеем, ня можам увайсьці самы: там ужо нехта ёсць. Стаць самым творам ён як бы і не імкнецца, хоць, мажа, як ніхто другі, блізкі да гэтага.

Абставіны і зьявы, прапускаючыся праз лінзу яго асабовасьці, становяцца выключнымі і ўнікальнымі і, перакананыя ў гэтым самы, пераконваюць усіх, што такая транскрыпцыя самая слушная.

Стыль, уласьцівы яго почырку, — стыль стратэга: дзе ён — там цэнтр, і дзе ён, там усё тое, да чаго ён мае дачыненьне, выяўляе сваё „пера”: перавагу і перамогу. Адна неад’емная ўмова: рабіць гэта яно павінна імкліва, як фатаграфуючы, на потым пакідаючы лабараторны клопат, інакш уключаецца чыньнік зваротнага дзеяньня, і рэчаіснасць, якая ня хоча быць „неда”, уцягваецца ў пярэчаньне і ў перашкоду.

У „Дарозе” Зянон яшчэ фатаграфуе, але ўжо і праяўляе сфатаграфаванае, яшчэ пра-паведуе, але ўжо і спавядаецца, дужы, укладаецца ў гучныя словы, а той рэштай, якою не ўклаўся, вымаўляе ціхія. Гучння словы Беларусь ужо чула і аддала яму ці не ўвесь патэнцы-ял водгуку, ціхія, што самы зьяўляюцца яе водгукам, чуе цяпер.

Так сталася, Зянон глядзіць на Айчыну здалёк і таму, што здалёк, усё тое, што зроднена зь Беларусьсю, набывае асаблівую пэрспэктыву і асаблівую вартасьць. Ён бачыць у Беларусі яшчэ адну Беларусь, у далёкай блізкую, і, нібы застаецца зь ёю сам-насам – а мажа, і сап-раўды сам-насам — прызнаецца ёй у любові, выносячы словы прызнаньня ў загалоўкі разь-дзелаў і вершаў. Нічога большага за яе ён ня мае („І нічога няма ў мяне, /Акрамя Беларусі, /Якой таксама ў мяне няма”), але туды, у чужыну, клікаць яе ня кліча, наадварот, засьцерагае яе ад гэтага — ад вырушэньня са свайго дому і са свайго быцьця.

Ня ведаю, чаму ў свой час ён, Зянон, згадзіўся прыняць дадаткам да свайго найменьня той лінгвістычны нэгатыў, што з цягам часу замацаваўся за ім, на справе — ён не лідэр апа-зыцыі, ён лідэр пазыцыі, і „Дарога” па словах і па радках даводзіць гэта.

Характарыстыкі, якімі вершы Зянона адгукаюцца на зьявы і праявы рэчаіснасьці, про-стыя і бескампрамісныя.

*Іх часта паказваюць.*
*Але гэта вельмі дрэнныя людзі.*
*Бо ў паскудстве*
*шукаюць красу.*

Хто гэта вымавіў? Меней за ўсё звыклы да ўсяго, апоены тэлевізійнымі відовішчамі ча-лавек сучаснасьці, а, хутчэй, спрадвечны жыхар айчыннага краю, альбо нават бусел, альбо нават дуб, ці, урэшце, сам Жыцьцёвы Пачатак, увасоблены ў тым, хто здольны так бачыць і

разумець, бо адно той, у кім Жыцьцёвы Пачатак застаецца чыстым, здольны адрозьніваць, што — праўда, што — не.

Мы мяркуем пра тое, што адбылося, па тым, што адбылося, і любое „калі б...”, ня маючы магчымасьці разгарнуцца ў альтэрнатыву, нікуды не ўваходзіць — ні ў хронікі, ні ў дыспуты, ні ў развагі, а калі ўваходзіць, дык хіба што ў згадкі, у здагадкі, у сны, у галасы, што наплываюць зь мінулага, у вобразы, якіх няма ў сучаснасьці, ды яшчэ ў вершы — часам тужлівыя, часам разважлівыя, часам малітоўныя, часам жартаўлівыя, часам фантасмагарычныя... Усе яны прысутнічаюць у „Дарозе”, а яшчэ ў ёй прысутнічае і дзейсьніцца тая альтэрнатыва, якая ня зьдзейсьнілася недзе і некалі.

Чытаючы Зянонавы вершы, схіляешся (ці падымаешся) да высновы, што іх прадыктавала не ідэя, а — прынцып, і не ідэя, якая ў залежнасьці ад нахілаў часу мяняе сваё аблічча, а прынцып, які заўсёды той-самы, надае моц яго думцы. Мабыць, таму ключавымі словамі ў кнізе аказваюцца не словы „свабода” ці „дэмакратыя”, а — „Вялікае Княства”.

*„Йдзем*
*Бясконца*
*У наша Княства”,* — кажа Зянон.

Застаючыся ў мінулым, яно апынаецца ў наступным, і дарога да яго як разварот сьпіралі. Туды трапляе той, хто там ужо быў, хто загадзя ведае вынік, і калі Зянон натуе „0 краіна ў маёй галаве!”, ён не выдумляе гэтай краіны, яна для яго больш чым факт, яна мета-факт, і больш чым мэта, яна метамэта. Як памятае сваё пакінутае мора рыба-вугор, так памятае ён сваё Княства, і як узвышаецца над ландшафтам мясцовасьці касьцёл ці царква, нагадваючы аб запаветным, так ён нагадвае — і не стамляецца нагадваць — аб Айчыне; усімі сваімі ракурсамі ён зьвернуты да яе.

Ён, Зянон, у бесперастаннай бітве, і тыя ўявы і выявы бітвы, што часта-густа ўзьнікаюць у яго вершах, гавораць, што яна ня месьціцца у каардынатах пэўнага часу і пэўнай прасторы і мае адзнакі Армагедона, апошняй і вырашальнай бітвы; сьвядома ці несьвядома ў ёй удзельнічаюць усе, і таму такую вагу маюць у „Дарозе” маральна-этычныя імпэратывы, і таму так заклапочаны „белы рыцар” станам оваёй дружыны.

*„Вершы пішу.*
*Пройдзе вельмі шмат часу,*
*Калі іх прачытаюць”,* — піша, нібы падводзіць рысу пад напісаным, Зянон.

Чытаць — азначае разумець. Калі зразумеем, што зьмяшчае ў сабе „Дарога”, тады і прачытаем тое, што піша Зянон, а прачытаўшы, зразумеем — каму і навошта.

Алесь Разанаў

# РАЗЬДЗЕЛЫ

# Бацькаўшчына, далёкая і любімая

## Ці былі вы?

Ці прачыналіся вы калі-небудзь на золку
У вясновым гаі,
Дзе голасна птушкі пяюць?
О, гэта рай!
А ў траўні ці былі вы калі-небудзь
Над возерам і лазой,
Дзе салоўка пяе
І захмараны месяц сьвеціць?
О, гэта дзіва!
Ці былі вы ў вішневай Беларусі,
Дзе ў нябёсах Бог жыве
І ночы салаўіныя,
І шастакрылы Серафім,
Як над палямі звон,
Асьцерагае нас...

*2002 г.*

## Вясна надзей

Пойдзем, братове, зірнем,
Як тае сьнег на Беларусі,
Як будзяцца сокі бяроз,
Як прачынаецца надзея,
Як надыходзіць Сакавік.

*2002 г.*

## Даўно было

Зорнай ноччу іду.
Сьнег скрыпіць.
Там у полі
чарнее мой дом.

*2001 г.*

## Сакавік

Ноччу пад зорамі,
Калі прымерзьне талы сьнег –
Вясновы пах.

*2001 г.*





*5. Сакавік у Суботніках. 1959 г.*

## Пратаціны

Прытаптаная доўгай зімой
Ільсьніцца пад сонцам
з-пад талага сьнегу
сухая трава.
Вясновыя ветры дзьмуць.

*2002 г.*

## Сакавік у ваколіцах Сінчы

Велізарнае поле.
І талы сьнег,
І шэрая гусь
Адзінока, далёка
Крычыць
на краі вады.

*2002 г.*

## Павонька

Пасьля вялікай вады
Абмытая зямля.
І першым прарастае хвошч.

## Вандроўка вясной

Няма больш прыемнасьці,
Як пасьля павонькі – вялікай вады
(Як Гаўя ў берагі ўзялася) –
Уздоўж ракі пахадзіць.
Ціна на вольхах,
Намыты пясок,
Новы вір,
Перамены.
Шчупакі ў сенажаці плюскаюць.
Як падсохне крыху,
Прыду і злаўлю.

*2003 г.*

## Ціхенькі дожджык

Здаецца, й дажджу не відаць.
А вішнёвае гольле, як срэбра,
У кроплях блішчыць.

*2002 г.*



## Там, дзе жыве салавей

Зацярушаны хмарамі месяц плыве.
Ні душы.
Адзінока салоўка пяе ў цішы.
Мне песьня твая і цяпер зьвініць,
Нібы травеньскі сон на Пцічы.

*2002 г.*

## На Беласточчыне дыхаю роднай зямлёй

Рунь за лазовым кустом бяскрайняя.
Вецер зьвініць.
Я ўсё гэта чую і бачу.
Пад урачыстым Боскім небам
Жыве, жыве мая Айчына
У вечным харастве.
Гэй, вы там, за шторамі,
Ці добра вам быць!?
Яшчэ некалькі ёсьць каралёў на сьвеце.
І ўсё ж такі,
Якое беднае ў іх жыцьцё.

*2002 г.*

## Ля далёкіх прысадаў

Вішня вось-вось зацьвіце,
Ужо набраклі бутоны, як град.
Пырскае дождж
                    зь мімалётных хмар.

*2002 г.*

* * *

Над чаромхай Месяц
                    маёвы сьвеціць
І водар стаіць, нібы сон.
І кружыцца галава.

## Лагойшчына

Паміж хвой і дубоў
Усё, як вокам абняць,
Зелянее бардовае гольле –
Бярозы стаяць.
Красавік.
Упіваецца ветрам
                    прастор стараны,
Адплываюць у даль
                    залатыя чаўны –
Вячэрнія воблакі,
Сінія горы...

*2004 г.*

## Раніцай у вясновы дзень

Зязюля кувае.
Дзесь там, за Гаўёй.
І ветрык маёвы.
І над яварам
                    белы бацян.

*2002 г.*

## Пад вокнамі

Чым больш дажджыць,
Тым мацней пунсавеюць півоні
Цёплым ліпнёвым днём.

*2000 г.*

## Па дарозе ў Слабодку

Возерца, як сподак,
Унізе пад гарой.
На возеры – лодка.
Ля вады сяліба,
Арабіна, ясень, бэз.
Гамоняць людзі спакваля.
Ня бачу іх, але люблю.
Бо Беларусь мая.

## Крушына

Аднойчы, даўно, маладым
Я быў на Пцічы
Між аеру, ажын
Ды зялёных крушын.
Балаты, чараты, бацяны ў гары.
Вось адвечны мой храм дарагі.
Вась зямля, дзе адкрыта душа,
Ты – свабода мая,
Ты мая цішыня...
Толькі раптам
Дзярката гудзе над вадой...
Хто я тут? Хто я тут
Пад крушынай маёй!
Чужы бамбавік над маёй галавой.

*2001 г.*

## У Беластоцкім лесе

І толькі тут я зноў пачуў
Як стукае дзяцел у хвойным бары.
Гэй, барабаншчык!
Каб ты ведаў,
Як любая мне
 твая музыка!

*2002 г.*

## Было даўно

Усю ноч незмаўкана
Жабін канцэрт туркоча.
Гэта там, у Кярмізе,
У нашым мочале
Добра ім квакаць.

*2002 г.*





## На Браслаўшчыне

Ціхі дзень. І раптам як зашуміць вецер
У соснах на востраве
між азёр.
Жывы ты, ці што, вятрыска?

*2002 г.*

## Ноччу даўно

Апускаецца змрок. Вячэрняя Мілавіца.
І чорная хмара з усходу паўзе
з бліскавіцай.
Цемната за вакном, грыміць гром.
Пасярэдзіне хаты сяджу за сталом.
Разьдзіраецца ноч пяруном.

*2001 г.*



## Прыпыніўся йдучы

Праз альховае лісьце
                    відаць Гаўя,
Бераг
І парослы асотам пясок.

*2002 г.*

## Агароды

Кукурузу скасілі.
Засталіся адны сцімбуры́.
І адкрыўся за полем
                    гатычны касьцёл.





*13. Вежа Ліпнішскага касьцёла. 1964 г.*

## Мне паказалі фатаграфію цяперашніх Суботнікаў

І ўбачыў я
паміраньне майго мястэчка.
Дажываюць пустыя дамы,
Вецер сьвішча
памяцьцю нежывых.

## 1948 год. Вяртаемся з поля

Хлопчык маленькі
ўчапіўся за грыву каня.
Гэта я.
Калышацца небаспад.

*2001 г.*

* * *

Думаючы пра Бацькаўшчыну,
я ўспомніў,
Як пад Прутцамі
Булькоча ручэй
праз дарогу.

*2001 г.*

## Возім снапы

Найцяжэй падаваць ячмень.
Бадзюлька* за карак лезе.

## Прутцы**

Пад вольхамі цень,
Ручаёк у Прутцах
серабрыста зьвініць.
Сьцябло асакі нахіляецца ў плынь.

## У ліпені перад навальніцай

Гуляюць сінія стракозы
над заваддзю Гаўі,
І парны водар асакі
над цішынёй павіс.
Далёка гром чуваць.

*2002 г.*

* * *

Вечарам пасьля дажджу
Адзінока над лесам
Крача крумкач.

*2002 г.*

---

* Калючае пустазельле любіць расьці зь ячменем.

** Мясьціна ля Суботнікаў

## Летні дзень над Гаўёй

У цішыні і шапаценьні вольхаў
Ветрык данёс
праз бульбянае поле з касьцёлу
Далёкіх арганаў гуд
і малітоўны сьпеў.

*2002 г.*

## Спакойны час

Апускаецца дзень
у шэры вечар,
Летнія камары таўкуцца.



## Далёкая карціна

Прамінае ліпнёвая ноч,
І чырвоная ружа
цьвіце на сьвітаньні.
Не варушыцца ружы ліст.

## Цёплае лета

Чэрвеньскі дождж шуміць.
Кроплі ў траве.
Пахне язьмін.

## Пад вокнамі

Чым больш дажджыць,
Тым мацней пунсавеюць півоні
Цёплым ліпнёвым днём.





## Бераг

Вір закруціўся
на яме Гаўі.
Кружыцца
сохлае лісьце.

## Вечар у Суботніках

Йшчэ за касьцёлам сонца чырванее,
А з-за Гаўі ўжо
Вячэрні напаўзае змрок.

## Лука

Белы пясочак зьбягае ў луку Гаўі.
Здаецца, што бачыў такі на Бабры,
Ці каля Нёмана?
А можа, у сьне?
Ня ўспомню.
Усё сутыкнулася мне ў галаве.
І толькі Гаўю
Ані з чым не магу параўнаць.
Уплывае ў маю душу.

*2004 г.*

## Пах Радзімы

Дожджык з ранку шалясьцеў.
Прыбіў на дарозе пыл.
Бульбяны цьвет намоклы,
І водар сьвінакропкі
Мне сэрца дастае –
Далёкі і мінулы сьвет.
І тое, што цяпер –
Мінае без мяне.

*2004 г.*

## Летняя ваколіца

Дубы, мурог, зялёны выган.
Конь валяецца ў траве,
Задраўшы ўгару капыты.

*1995 г.*



## Начны сад

Летняй ноччу чую:
Гулка ўпаў на зямлю яблык.
Адчыненае вакно.

*1995 г.*

## Рунь

Як добра глядзець
на вячэрняе поле,
Калі буйны сьнег
Пакрывае асеньнюю рунь.

*2001 г.*

## Позьняя восень

Узгорак чарнее. Ральля.
Неба шарэе.
Ружовы прасьвет.
Далёка вароны крычаць.

*2001 г.*

## Халодная перамена

Цэлую ноч вецер у вольхах шумеў
І пад раніцу сьціх:
Першы сьнег
на блакітныя астры прылёг.

## Іду праз пустое поле

Па скапаным бульбянішчы
мякка ступаць.
Бязьлюдная глухмань,
Толькі шэрыя вароны
назіраюць здалёк.

*2002 г.*

## Глухая восень

На ўзаранае ржышча
Ляпае мокры сьнег.
Далёка вароны лятуць.

## Глухая пара

Бульбу скапалі.
Над апусьцелым полем
Месячка сьвеціць.

*2002 г.*

## Восень пад Трабамі

Бязьлюддзе. Дажджыць.
Цёткі на роварах
Гамоняць на ўсю дарогу.

## Еду на Валожын

Апалі лісты,
І праз дрэвы
Адкрыўся з дарогі
                прыгожы хутар.

*1995 г.*

## Перад сьвітаньнем

Выйду на двор.
Яшчэ цёмна.
Залівіста певень пяе ў хляве.

*1995 г.*

## Зімовая пара

Беларуская зіма –
Гэта калі вечарам
Павольна ў цішыні
Падае сьнег
На хаты,
        зямлю
              і дрэвы.

*1995 г.*

## Сяліба

У зімовай начы
Цераз нетры кустоў
Агеньчык мігціць.

*2001 г.*

## Зімовы дом

Старая веранда
скрыпіць.
Праз шчыліны
сыпецца
сьнежны пыл.
Завіруха.

*2002 г.*

## Сьветлая ноч

Доўга хадзіў пры Месяцы.
Вярнуўся ў дом – не засну.
Мароз.

*2002 г.*

## Зімовае Мястра

Вецер шаргоча
замерзлым трысьцём,
Нібы конікі ў жніўную ноч.
Возера пад ільдом.

*2002 г.*

## Адчуваньне

Калі апускаецца змрок
І цямнеецца лес за Гаўёй,
І падае сьнег
На Раство Хрыстова,
На Беларусі
Адчыняецца Боская Брама.
Жывая цішыня.
Нават куст ялаўцовы
Прыяцель табе
І родны прастор пад нагамі.

*2002 г.*

## Вячэрні адсьвет

Жоўтыя промні
на цэглах капліцы,
Па гранітных крыжах сьлізгацяць.
Зімовае сонца.

*2001 г.*



*21. Менскае вакно. 1995 г.*

## Зьмярканьне ў Грушаўцы

Плакучая вярба пад вакном.
Ці ня плакала ты пра наш лёс,
Калі білася ў шкло
зьледзянелае лісьце?

*2001 г.*

## Мінулы час

Вечар. Зіма. Мой дом дарагі,
прыадчынена печ.
Вершы чытаем пры бляску агню.
Пакрываецца попелам жар.

## Незабыўныя дні

Цёмны вечар і чорная ноч.
А раніца белая, як малако.
Нават на дроце сьнег.

*2002 г.*

* * *

Мне сьнілася:
Падае белы сьнег.
Прачнуўся – аж сьнег за вакном,
Што выпаў за ноч
Далёка на Беларусі.

*2003 г., Нью-Ёрк*

## Госьць зь Беларусі

Яшчэ ня днела за вакном.
Сядзім з сябрамі за сталом,
Пра Беларусь, пра Сьцяг гаворым,
Пра шэры лістапад...
А яна ж во,
За Бугам ужо.
А яна ж во,
Ўжо за гарой,
За лесам,
за ветрам,
за сіняй вадой...
Апускаецца першы сьнег.

*2004 г.*



# Трылёгія пра сьветлы вобраз

*1. Разбураная сядзіба*
*графіні Плятар*

Асколкі шкла, старыя вязы,
Вячэрні шлях, асеньні дым.
Палац над возерам стаіць.
Пад ганак хвалі набягаюць.
І сіратлівы Купідон
Ужо ня помніць аб былым.

* * *

Змрок атуляе гмах маўклівы.
Даўно бяз вокан і дзьвярэй
Палац над возерам стаіць.
Зьбягаюць сходы ў глыбінь.
І сіратлівы Купідон
Ужо ня помніць аб былым.

* * *

Шуміць асеньні вечар мрочны
У лістападзе залатым.
Пад ганак хвалі набягаюць.
Гудзіць матор. Мы ад'язджаем.
І сіратлівы Купідон
Даўно ня помніць аб былым.

*2. Ён будзе*

Мы пабудуем свой палац.
Ён будзе, як храм
Над вяршынямі дрэў.
Ён будзе, як карабель
Над прадоньнямі сініх хваль.
Ён будзе, як воблака
Над бяскрайнім жытнёвым полем.
Ён будзе сьветлым і зіхоткім,
Як Беларусь.

*3. Палац*

У белых аблоках
Над Дрыватамі
На Сьвятой Гары
Узвышаецца наш Палац.

* * *

Ён чакае нас сто гадоў.
Мы йдзем да яго вечна
І не дасягаем.
Ён, як анёл, як звон
Перад намі ляціць.

* * *

Ты ляці, будзь, існуй перад намі,
Анёл Найсьвяцейшы.
Наша горняе шчасьце, сьпявай!
Як плюскаюць хвалі,
Як сьвішча вецер,
Як зьвініць небасінь
Над Сьвятою Гарой!
Як добра жыць на Беларусі!

*2002 г.*

## Далёкая, любімая

*Калі ляціш над акіянам у самалёце і назіраеш з гары мяжу дня і ночы, адчуваеш раптам відочна і востра (да мурашак па скуры), што жывеш на шары, у пустоце. Што ён цесны і бязвыходны. І непрытульна робіцца душы, якая не разумее, навошта і чаму гэты шар існуе ў бязьмежным пrasторы вечнасьці.*
*І тады я сабе напісаў:*

Божа, зьлітуйся.
Мне жудасна над пустатой.
Апусьці мяне на цёплую маю зямлю,
Дзе расьце трава
І белыя воблакі ў Беларусі.
Мне нічога ў жыцьці ня трэба.

*2002 г.*

## У Шадзюнах гляджу ў бок Суботнікаў

Тут наш верас і мох,
І сцукраваны сьнег на дарозе.
Тут вярхоўе Гаўі.
Беларусь.
Сакавік.
Уздоўж лесу іду ў трывозе.
Не было тут спрадвеку мяжы.
Там, за лесам, касьцёл наш прыгожы,
Там, за лесам, мой дом,
За нябачнай жалезнай заслонай.
Не было тут ніколі мяжы.
Чую звон з-за хваёвых вяршынь.
Далятае мэлёдыя ветру.
Я ўжо тут, і ня тут.
Засталося два крокі.
Можа, вечна туды не вярнуся.
Можа, ноччу ў цішы – шэры воўк –
Перайду праз „мяжу”
І да родных дзьвярэй прытулюся.

*2003 г.*




*23. Беларускія сьцягі ў Нью-Ёрку. 2005 г.*




# Цяжкая пара

## Дэманстрацыя

О, Радзіма! У сэрцы мне гэта ня сьцерці:
Юнака, што ўсклікнуў „Жыве Беларусь!”,
Зьбівалі да напаўсьмерці.

*2003 г.*

* * *

Людзі, што выракліся свайго,
Хваляць чужое.

## Дубы векавечныя

А як там у Вязынцы нашы дубы,
Дзе Купала хадзіў?
Але ўжо й там чужыя.

*2002 г. (З цыклу „Акупацыя”)*

## Чужынцы

Якая нянавісьць да нас за Радзіму.
Дзяўчыну ў белай сукенцы
Маскаль галавой аб машыну б’е.

*2003 г. (З цыклу „Дэманстрацыя”)*

* * *

Ужо сонца заходзіць,
І слабее сэрца.
А свабоды няма.

*2002 г.*

## Ізноў вясна

З кожным годам – вясна.
З кожным годам – губляем свабоду.

*1995 г.*

## Успаміны зь бясконцай гісторыі

*Ёсьць зьявы, непадуладныя часу. Ёсьць дачыненьні, дзе час спыняецца. Успрыняцьце гэтакіх дачыненьняў выклікае адчуваньне вечнасьці і ўдзелу ў гісторыі існаваньня. І тады ўсьведамляеш, што мінулае тут, з табой, у траве і хмарах, у дажджыстым небе, у паху ўзаранай ральлі, у галасах азёрных чаек і шэрых варон, у ветрах над вяршынямі хвояў, у пастацях людзей, у мэлёдыі мовы і плыні вады. Мінулае было і мінулае ёсьць. Яно ёсьць цяпер і яго няма цяпер. Бо ўсё існуе разам з табой. Але мы хочам аддзяліць сябе прэч, думаючы, што мы ёсьць цэнтар сьвету.*

*Нібы сёньня, вярнуўся здалёку ўчора. Яшчэ пыл із-пад Крэўскага замку не абтрос на нагах. Там з узгор'яў – шырокі прасьцяг. Йшчэ каня маладога свайго не пасьпеў рассядлаць, а ўжо заўтра настала. Гэтак думаючы, я напісаў, як нядаўна было:*

Над Беларусяй вечар.
Цямнеюць барвяныя хмары,
Пакрываецца попелам ноч,
І пагасае вогнішча ў полі.
Пад гарой разлягаецца чорны прастор.
Там унізе ўжо змрок.
Паміж згібаў бліскучай ракі,
Між лясоў, палёў і адзінокіх груш
Запаліліся ў хатах агні.
Ці ёсьць там хоць вольныя людзі?
Ці зможам яшчэ ваяваць?

У першым жытле ня радыя мне.
Дзьве старыя кабеты
(Матка з дачкой)
Панура і моўчкі бульбу скрабуць.
Пусты стол і халодная печ,
Цьвіль і змрок.

У другім жа вакне
Я ўбачыў з двара,
Што ў верхняй адзежы
Сядзяць за сталом
І бутэлькі стаяць.
А ў трэцім жыльлі
Не адкрылі дзьвярэй.

Агеньчыкі мігцяць
Да гарызонта
Між лясоў, палёў і адзінокіх груш.
Ці ёсьць яшчэ хто шчасьлівы?
Ці ёсьць яшчэ хто жывы?
Ці зможам яшчэ ваяваць?

*2002 г.*

## Князь Базыль

Князь Мірскі Сьвятаполк
Праз дзесяць год
Вярнуўшыся з ГУЛАГу,
Прынёс нам першы вестку
Пра Ларысу Геніюш,
І вершы яе
У сваёй галаве.
І горды быў князь,
Што пабачыў яе.

*2003 г.*



*23а. Князь Базыль Сьвятаполк–Мірскі, арх. 1950-я гады.*

## Альтэрнатыва сьмяртэльнаму ворагу

Каго нішчаць –
Мусіць той выбіраць:
Хоча быць, ці ня быць.
Каму няма чаго выбіраць –
Таго вораг выбера сам,
Нават даўшы пажыць,
Каб у дзецях памёр.
Калі выбар:
Іграць, ці страляць?
Муза лепей, ці меч? –
Бярэм меч,
Калі хочам быць.
Бо не жыве муза ў няволі.

*2003-2006 гг.*

## Дубы

Сфатаграфаваў дубы ў жыце.
Яшчэ ў юнацтве.
Так і засталіся яны
ў маёй памяці.

*2002 г.*

* * *

У памяці засталіся праблескі
Выразныя, як фатаграфіі:
– Забраць! – крычыць бальшавік, –
Усё забраць!

## Хата Ўладзі Тучкоўскага

Цягам доўгіх гадоў
Назіраў я здалёк,
Як пры ўезьдзе ў Рыбакі
Жаўцеецца ў бэзе
Крайняе хаты шчыт.

## Дажджлівая нядзеля

Сьнедаем за сталом.
Паўзмрок.
Мокрыя клёны шумяць за вакном.

## Станцыя

Чыгунка, нібы рака.
Прыходзіш на станцыю –
І міма жыцьцё бяжыць.



## Юрацішкі

Вецер забег у вакно
І прынёс у пакой
Цьвіценьня пах далёкіх ліп.
Адтуль, з-за чыгункі,
Дзе канчаецца станцыя і склады.

*2002 г. (З цыклу „Далёкая Беларусь”)*

## Вяртаюся дадому

Ну якая радасьць!
Паўгода ня быў:
Сабачка мяне сустракае.

*2002 г. („Далёкая Беларусь”)*

## Успамінаю даўнія вобразы

Пазавуціха, як гадзіньнік:
Кожны дзень да касьцёла
Ідзе ў адзін час.
Бабуля й кажа:
„Пара палуднаваць – Пазавуціха пайшла”.

*1995 г.*

## Плёс на рэчцы Матруна́, што цячэ ля майго дому

Назіраю, як грэецца пстронг.
Толькі ступіш бліжэй –
Маланкай у лёх.

*1995 г.*

## Цёплы дом

Калі ноччу летняй дождж шуміць,
Сяджу адзін ля вакна ў цемнаце
І чакаю сьвітаньня, думаючы пра што-небудзь.

*1995 г.*

## У старым доме

Засьпяваў цвыркун у запечку,
А я ўжо нават і забыўся
Пра існаваньне такой істоты.

*2002 г. (З цыклу „Былая Беларусь”)*

## Жніво

Жых-жых, зжынае серп.
Кладзецца ў сноп калосьсе.
І шкода мне,
                    што апусьцела поле.

*2002 г.*

* * *

Бабы на лузе
                    сена грабуць.
Нібы тлум буслоў,
Белыя хусьцінкі.

*2002 г. (З цыклу „Далёкая Беларусь”)*

* * *

Адпачываюць касцы.
Уткнутыя косы,
Нібы сьцягі на ветры.

## Беднае жыцьцё

Падкасаўшыся, баба
па калені ў вадзе
Балотныя травы жне.
Дзяружка ляжыць.

## Сырая восень

Заблукаў я ў вёску праз лес.
Бульбоўнік на стагірах
Пад дожджыкам мокне.

* * *

Дзень Задушны.
Паволі, нямогла
мама мая ідзе
На магілу бабулі.

## Шум вады

Калі на Гаўі ля дому
разбурылі наш млын,
Стала поўная цішыня.
І сьвет замкнуўся.

*2002 г.*

## Халодны вецер

Цэлую ноч
Грукатала аб шчыт
Адарваная дошка.
Разьвіднела.
Белым сьнегам
пакрыўся прастор.

*2002 г. (З цыклу „Далёкая Беларусь”)*



*26. Менск. Вячэрняя Грушаўка. 1995 г.*

## Грушаўка*

Дзесьці тут пачыналася рэчка Няміга.
Белай коўдрай пакрыліся ганкі і дрэвы.
Сьнег рыпіць пад маёю хадой.

*2002 г.*

## Зімовай ноччу еду праз лес

Як іскрыцца пад месяцам сьнег.
Конь бяжыць, цені хвой.
Рассьцілаецца гурбаў сувой.
Срэбны шлях.
Уяўляю, як дома
ўсе сьпяць,
Як запаліцца лямпа
У цёплым маім вакне.

*(З цыклу „Некалі даўно”)*

* Мясьціна ў Менску

## Карова

*За саветамі „ўласьць” дазваляла трымаць толькі адну карову. І зрабілася яна для беларусаў сьвятой. Гэтак думаючы, я ўспомніў:*

Мароз за сьцяною хлява
аж трашчыць.
Падсьцялю я табе саломкі.
Ахіну я цябе дзяружкай,
кароўка.

*2002 г.*

## Далёкая-далёкая

Каля возера вазок.
Гнеды конік скача.
Дзяцюк ножкай не калыша –
Заснуў, небарача.

Гэй, ты конік, мой рахманы!
Гэй, сабачка жвавы!
Давядзі мяне дахаты.
Мурагі, дубравы...

Мая хата пад гарою.
Ганачак сасновы.
Мая жонка маладая.
Прыветныя словы.

*2002 г.*

* * *

А памятаеш Сьвіслач вясной
У мокрых палях,
Калі мы хадзілі разам?

*1995 г.*

## Едзем па дарозе

За шклом ветравым далягляд.
Ледзь-ледзь дакрануліся мы плячом,
І мроіцца нам юнацтва.

*1993 г., Менск*



*27. Зімовы захад над Суботнікамі. 1960 г.*



# Айчына

* * *

У моры шэрасьці і чужыны́
Ўспамажэньне дае
Толькі Айчына,
Сьветлы вобраз яе ў душы
І найвялікшы Бог.

*2002 г. (З цыклу „Чужына”)*

## Найдаражэйшая Айчына

*Атрымаў вестку зь мясьцін юнацтва, што ўсё марнуецца ды пусьцее, што вымерлі земляки ці зьехалі прэч. Што ў мястэчку чужыя людзі, норавы і гаворка. Што разбураюцца ходнікі, брук, масты і дамы. Што зсечаны сад... І нічога няма сьвятога. І тады я напісаў:*

Як быццам замянілі кроў.
Як быццам сон кашмарны:
Бацькаўшчына – якой няма.

Найлюбейшая Радзіма,
Мы вернем Цябе!
Мы адродзім Цябе зноў.
Мы адбудуем Цябе навечна!

*2002 г.*

## Гэтыя

Калі я казаў пра нішчэньне Айчыны,
Вочы іх былі спакойныя,
Нібы гладзь вады.

*2004 г.*

## Краіна

О, багаслаўленая краіна,
Дзе ўсьміхаюцца людзі адзін аднаму,
Дзе на роднай мове вучацца дзеці,
Дзе шануюць сваіх,
Дзе ня чуецца брыдкіх слоў,
Дзе паважаюць бліжніх плён,
Дзе праца ў радасьці ідзе
І чыстае юнацтва,
І чыстая вада,
І шчасьце вечнае
Пад родным небам...
О, краіна ў маёй галаве!
Як жа непадобная ты
На ўсё, што цяпер.

*2003 г.*

## Далёкі вецер

Калі ехаў зь Лентварова,
Дыхнуў мне вецер з палёў,
Недзе адтуль, з-пад Дзявенішак,
Дзе ніколі не было мяжы,
Дзе ўецца дарога ў Суботнікі
І выплывае Гаўя,
Дзе мілага дзяцінства звон.

*2001 г., Вільня*

## Рай

У сьведамасьці жывуць
Бацькаўшчына і Рай.
Рай – гэта пачатак жыцьця над Гаўёй,
І квітнеючы луг,
І аблокі,
Белыя, нібы з-пад млына шум,
І цьвітучая бульба –
Бяскрайні абсяг –
І перазвон касьцельны.

*2003 г. (З цыклу „Перазвон”)*

## Мая адзіная

І толькі ты адна,
І толькі ты адна,
Мая любімая.
Мне ветрам шалясьціць
Твая аселіца.
Імчыцца грузавік –
І асядае пыл клубочкамі.
Пакрый мяне, здарожнага
(Пясочак на зубах)
Айчыны пыл,
Як золата...
Далёкі перазвон.

*2003 г. (З цыклу „Перазвон”)*



## Некалі на Радзіме

Калі я ўбачыў зноў
Гэты кветкавы луг
між сасновых бароў,
Мне хацелася ў ім
растварыцца
Пад аблокамі,
Што плылі
з-за далёкіх дрэў.

*2001 г.*

## Матруна́

Перад домам усьцяж
Матруна́ па каменьнях
булькоча ў Гаўю.
Я і цяпер
кожны каменьчык на дне
помню.

*2001 г., Варшава*

## У думках далёка

*Неяк вечарам, пераглядаючы газэты, я прачытаў шкадаваньні ворагаў, што мяне не забілі. Мая адсутнасьць разьвязала ім языкі. Але ёсьць зьявы, важнейшыя за маё жыцьцё. Дарагая мая Айчына, вечная мая, адзіная. Гэтак думаючы, я напісаў:*

Іхняя нянавісьць засталася зь імі.
Мая любоў – са мной.
Але калі ў сэрцы любоў,
Гора Айчыны палоніць душу
І, як змора,
даганяе мяне
туга.

*2002 г., Варшава*

## Замак

Над ручаінай сосны
і старыя вольхі.
А за імі Мірскі замак
над вадой відаць.
Як шмат гаворыць для Беларусі
ягоны від.

*2002 г.*

## У Залесьсі

Калі я разгроб сыпучы сьнег
Паказаўся камень:
„Ценям Касьцюшкі”.
Даўно гэта было.

## Дэдыкацыя Зелімхану Яндарбіеву

Прекрасное время придёт,
Над Чеченией – флаги свободы.
Вот они!
Потоком плывут из далёких гор.
Вот они!
Зелёные долины
белых-красно-белых роз.
Этот путь на знамёнах,
Как пламя,
В сердцах
Негасимо
для нас
горит.

*2003 г.*

## Жыцьцё

*Чачэнскім змагарам за Радзіму*

Найлепшае ёсьць жыцьцё.
Але толькі чалавек
Мае скарб, даражэйшы за жыцьцё,
Калі думае пра несьмяротнасьць.

Наймілейшае ёсьць жыцьцё.
Але толькі чалавек
Здольны памерці за Бацькаўшчыну,
Нават ня ведаючы пра вечнасьць.

Найвышэйшае ёсьць жыцьцё.
Але толькі чалавек
Можа ахвяравацца жыцьцём
Для любові.

*2003 г.*

## На сьмерць Зелімхана Яндарбіева

Бацян адляцеў
На далёкі Каўказ,
Не дачакацца яму вяртаньня.
І ўсё ж:
Ня будзем плакаць над магілай.
Ня мусіць бачыць нашых сьлёз
Маскаль у рабстве спавіваны.
Ня будзем плакаць над магілай,
Салдат ня вечны на вайне.
Ацэняць толькі перамогу
І сьветлы дзень,
І вольны край.
Хай злая роспач нас міне.
І ўсё ж:
Як цяжка ведаць, калі гіне
Паэт чачэнскі на вайне.
Ня будзем плакаць над магілай.
Як Бог магутны – дух жыве.
І ўстане зорны час над намі –
Свабода ў нашай старане.

*15 лютага 2004 г., Варшава*



*29. Летняе поле пад Асаўцом. 2000 г.*

## Наша зямля

Няма мора.
Але ёсьць прасторы
Бяскрайніх жытнёвых хваль
І хвалістыя пагоркі,
І людзі добрыя, як прырода.

*2002 г*

* * *

Скрозь цьвет вішнёвы
Касьцельны мур і вежы відаць.
Айчына.

* * *

За Айчыну
Ня будзе змагацца той,
Хто баіцца вайны.

*2002 г.*

## Сьветлая ноч на Радзіме

Бор за Гаўёй.
Асеньні Месяц над лясамі.
І ветру шум.
І мой парог.
І вечнае маё.

*2003 г.*

## Песьня

О, зялёнае жыта пад ветрам!
О, мора жытнёвых хваль!
Лунай над палямі песьня мая.

## Цеплыня на Радзіме

Летні прыцемак на Пцічы
Цёплы, як паранае малако.
Яршовую юшку вару.

# Шлях у Вялікае Княства



* * *

Памалюся я,
Каб тысячы год жыла Беларусь,
І стаяў народ.

*1995 г.*

## Зброя

„І сьветлы дзень,
І цёмна ноч...”
Як сьлед у сьлед – адна дарога:
Наканаваны перасьлед
З калыскі роднай, ад парога.

Нам бы разам прайсьці гэткі шлях,
Толькі б разам, усім,
Каб ніхто не памёр у самоце.
Але вось жа зірнём:
Хтось ідзе па касьцях,
Удае, што сьвяты,
Той – шукае брыдоту ў цноце.
Гэты здаў маскалям Матчын дар,
Залатыя, сьвятыя кляйноты,
Прадаецца з душой
За халуйскае месца пад плотам.

Як запыніць арду,
Што распаўзаецца, як ноч,
Па нашых гонях?
Як цемру цемраў зваяваць,
Калі ў пустэчы душы?
Пойдзем жа, сябра, у пачатак,
На беларускі ўбіты шлях,
Дзе прамаўляе
Наш вечны і любімы Бог,
Дзе ляжыць наша вострая зброя,
Дзе чакаюць нас моцныя коні.
Шкода мне, што я ўжо не юнак,
Пагуляў бы пад посьвіст Пагоні.
Зброя – слова
І зброя – меч.
Укладайма ў рукі і ў голаў –
І наперад! Жыве Беларусь!
Слава! Слава народным героям!

*2002 г.*



## Конь

На раніцы да брамы
Без ездака, адзін,
Як мара, праз туман
Прыбег у пене белы конь.
І ціха ржэць,
І капытамі зямлю б’ець...
Ня жалься, косю,
Не іржы.
Я йшчэ жывы.
Я гобраць табе зацугляю

І ў чыстае поле паеду з табой,
Твайго ездака пахаваю...
Імчымся, мой косю,
З табой наўздагон.
Хай веецца прапар пад ветрам.
Мы ворагаў цьму насьцігаем.
Сячы, мой мячыска, сячы...
А ты ж, косю,
Вярніся да брамы з палёў.
А ты ж, косю,
Вярніся да брамы ізноў.
Там цябе
Малады мой сынок прычакае.

*2003 г.*



## Княства

– Рушайма, йдзем, – прамовіў князь. –
Сьпяшайма дадому,
у нашае Княства,
Прыўкраснае, нібы бор,
І сьветлае, нібы лета,
Калі над Нараччу
белы ляціць бацян.
Там чакае нас Бог.
Там гарцуюць крылатыя коні...
Йдзем
Па гарах і далах,
Нібы лава,
З Крыжам і косамі,
І пратубэранцам Сонца.
Йдзем
Цугам, нібы Птушыны Шлях,
Калі зьнікае Месяц.
Абкружаем Зямлю –
Йдзем
Бясконца
У наша Княства.

*2004 г.*

## Краіна

Вось край мой найлюбшы.
Вось рэкі й вазёры,
Й крыніцы чыстыя...
А чаму ж крыніцы чыстыя
І цішыня паўдзённая,
І васількі цьвітуць?
І маладога жыта польны пах,
І родны сьвет – Айчыны звон,
Што вечна існуе...
Бо ёсьць нам – Вялікае Княства,
Бо маем – вялікае войска,
Бо ёсьць наш вялікі князь...
І ведаем мы:
Будзе вечна Вялікае Княства.
І тысячы пагоняў
Стуганяць па сьлядох вайны.

*2004 г.*

* * *

Цяжка, але ёсьць сэнс.

## Пуга

Йдучы па дарозе,
Я спаткаў чалавека.
Ён быў вельмі яшчэ малады.
А, можа, й стары.
Бо крычаў, як юнак
І казаў, як мудрэц:
„О, воля! Свабода!
О, сьветлы дзень народны!
О, Беларусь!
О, Беларусь, мая шыпшына!
О, цьвет наш бел-чырвона-белы!"
І так хораша мне было яго слухаць.
„Пойдзем, – кажу, – змагацца
За волю, за долю.
Пойдзем – за Беларусь!"
„Ужо йдзем, – сказаў чалавек.—
Я йду табе ўсьлед.
Рушайма! Пайшлі!
Без аглядкі, да зор!"
І вузкай driving кручастай дарогай
Мы йшлі пад гару.
Абсыпалі каменьне ногі мае.
Зацінаў мне дыханьне пыл –
Але йду.
Вось і вечар ужо.

Цямнее каменнай дарогі брыло.
Азірнуўся назад –
За плячыма нікога ў мяне не было.
Тады збоку
Убачыў я йшчэ аднаго
Ён хораша граў і сьпяваў пра свабоду.
– Каго любіш? – пытаю яго.
– Люблю Беларусь.
– Дык пайшлі ваяваць.
– Я б пайшоў, але ж могуць забіць.
Толькі я павярнуўся ісьці,
Ажно бачу,
Што трэці відаць чалавек.
Ён сядзеў на скале
І ўзіраўся пад ногі.
– Ці хочаш свабоды? – пытаю яго.
– Хачу, – кіўнуў чалавек у адказ.
– То пойдзем, – кажу.
– Як пайду, тады што мне за гэта дасі?
„І што б мне было яму даць?” –
Думаў я, адыходзячы прэч.
Аж тут бачу
Шырка рукі раськінуў
І нагамі ў даліну
Віцька ляжыць праз дарогу.
– Здароў, Віцька! – кажу. – Беларусь любіш?
– Люблю.
– Свабоды хочаш?
– Ага.
– А ці хочаш, каб даў?
– Хачу, – ажывіўся Віцька.
– Чакай, дам.
Сказаўшы гэта, я зьвіў добрую пугу,
І, сьпеpазаўшы Віцьку,
Пагнаў яго перад сабой да свабоды.
От гэтак, думаю, і дойдзем,
Дойдзем мы да Беларусі.

*2004 г.*

## Хмары

*Па дарозе з Ломжы да Аўгустова ўсе краявіды выклікаюць давер, быццам даўно тут быў і ўсё знаёма, і нават таямніцы, што месьцяцца ў душы. А навокал вёскі: Папова ды Дабрыялава, Муравы ды Горкі, Буды, Гута, Прытулава ды Залесьсе, Кучыны ды Міхны, Дзягілі, Гнатава, Шчучын, Грады ды Бочкі...*

*Усё, што засталося ад беларусаў, якія жылі тут яшчэ сто гадоў таму – гэта назовы вёсак ды рэчка Нарва, што коціцца ў Буг, ды зямля… знаёмыя краявіды, да болю знаёмыя далі. Калі гляджу на іх, як зьмяняюцца плывуць прад вачыма, расьцякаюцца фарбамі ды палямі, дрэвамі на пагорках, сьнягамі й травамі ды зялёнай руньню, жаўцізной і жытамі ды сьвежай ральлёй пад мокрым шэрым цёплым небам – усё гэта запаланяе мой зрокавы сьвет і зьмешваецца, як мара, як палітра, як вадаспад, і напаўняецца музыкай слых.*

*Гэтак гучыць зямля... Пэўна, яна ўзгадала мяне, пазнала... Я твой, зямля, твой. Я чую цябе...*

*Хацеў пагаварыць зь людзьмі, што тутака засталіся, з былымі беларусамі. Такія падобныя ў іх абліччы. Але лепей не гаварыць...*

*Гэтак думаў я па дарозе з Ломжы да Аўгустава, едучы ў Вільню. І тады я сабе напісаў:*

Калі страцілі Княства,
Цемры чарод увайшлі на зямлю.
Тупат іх капытоў,
Нібы гул ад грымотных хмар.
Як лавіна вады, клубам пыл!
Як пад ветрам пажар
Па верх**á**вінах дрэў,
Па галовах над намі шуміць
Без канца, несьціхана
Па нашым Княстве.
Між стаптаных палёў,
Сярод дымных кастрышч
Мы чакаем сваёй пары.
Яна прыйдзе, як звон.
Яна будзе, як вецер з высокіх нябёс.
Яна стане, як полымя душ,
І як сэрца агонь,
Калі вернецца наша Княства.

*2004 г.*

## Позьняя восень на чужыне

Рыжае гольле зьвісае,
Як леташні ліст
З голых дрэў.
Зелянее яшчэ трава.
Сонца заходзіць,
Блішчыць праз сукі.
Разьлягаецца кавак зграй,
Як некалі ў Беларусі.
Толькі гэта не Беларусь.

*2000 г.*

## Падарожжа па Пэнсыльвэніі

Вячэрнія промні
на жоўтай траве,
Як і на Бацькаўшчыне.
Але гэта ня Бацькаўшчына.

*2.09.1996.*

## У цягніку

Апанаваны
Цяжкімі думкамі
пра бязвыходнасьць,
Я ўстаў –
За вакном
На сініх нябёсах
Белае воблака,
Як на Беларусі
сьнег.

*1997 г. Украіна*

## Грукоча цягнік

Мільгнула дарога праз шкло:
Прысады, ральля –
знаёмы краявід.
Але гэта не Беларусь.

## У купэ міжнароднага цягніка

Паспрабаваў загаварыць з суседзямі.
Але хіба тут з кім разгаворышся –
Гэта ж не Беларусь.

*2002 г.*

## У верасьні далёка ад дому

Як зьзяе жаўцізна!
І жоўты цень пад клёнамі.
Як жоўціцца сьвятло!
Як залаціцца ўдалечы вада,
Быццам некалі
                    ў Беларусі...
Але гэта не Беларусь.

*2000 г.*

# Там, за сіняй смугой



## На беразе акіяна гляджу ў бок Беларусі

Там зыходзіцца неба з вадой,
Набягаюць халодныя хвалі.
Дзе ты, мая найлепшая?
Не магу адарваці вачэй
Ад ружовай палоскі зары.

*2003 г.*



## Вячэрні час

Там, далёка, за залівам,
У вячэрняй сіняве
Агні таемныя відаць
І грэбень горны лесаваты.
Ніколі там ня быў,
На захадзе, у вячэрняй сіняве.
Але што там?
Як рвецца мая душа.
Мо' ўжо Беларусь?

*2002 г., Нью-Ёрк*



## Карціны памяці

А як там гара пад Трабамі,
Парослая лесам,
Дзе кружыцца сьнег
у калядны дзень?

*2002 г.*

## Сустрэў земляка

А там, пад Нарбутамі, за лесам,
Дзе былі хутары між жытоў,
Ці засталіся яны яшчэ?

*2002 г.*



*36. Асеньняя Беласточчына. 2000 г.*

## Купалаўскія мясьціны

Вербы над ставам;
Нібы зь лісьцяў буда,
Гольле ў вадзе.

* * *

Як даўно я ня слухаў
зязюлі кованьне
Усё там жа.
Там, на Беларусі.

*2002 г. (З цыклу „Там, на Беларусі")*



## Палёт гусей

*Аднойчы асеньняй ноччу я стаяў на двары, як пад хмарамі закрычалі дзікія гусі. Сам ня ведаю чаму, так забілася маё сэрца. І тады я напісаў:*

Не крычэце, шэры гусі.
Каб жа мог я, як вы,
Вярнуцца ўвесну дамоў.

*2003 г. (Нью-Джэрзі)*

## У эміграцыі шукаю Беларусь

Ці то ў Вільню прыеду,
ці ў Дзьвінск,
Ці то ў Беласток –
Толькі страчаны сьвет.
І здаецца, вось там за ліпамі,
за гарой
Чакае маё жыцьцё.

*2002 г.*



*37. „Сьвятая Ганна” з гары Замковай. Вільня. 2001 г.*

## Ружовы цьвет

Толькі тут, у Амэрыцы,
Я ўбачыў сакуры цьвет.
І праўда – прыгожа:
Вашынгтон у пырсках ружовых дрэў.
Але ёсьць вышэйшыя цуды на сьвеце.
Там, за акіянам,
Ля Вільні,
Над сіняй Вяльлёй...

*2001 г.*

## Сьвятло

*Усё, што ў вершах я пішу, ня мае дачыненьня да палітыкі. Калі я падумаў пра гэта, тады напісаў:*

Мой беларускі сьвет, мой сьвет жыцьцёвы,
Мой сьвет за дальлю часу,
Не пакідай мяне...

*2001 г.*

## Усё баліць

Ледзь падняўся ад болю.
У Брукліне дождж.
Там, за морам, далёка –
сасновы мой дом.

*1997 г.*

## Там далёка

Бляклыя фіранкі
Калыша вецер
На чужым вакне.
Рэзгільле дрэў.
Пустое неба, нібы ў сьне.
Там, за акіянам,
Цёплая мая Зямля.

*2001 г., Нью-Ёрк*



*38. Менскія шыбы. 1995 г.*

## На чужыне думаю пра пакінуты дом

А як там вярба плакучая,
Што зімуе пад нашым вакном?
Ізноў зьледзянелае лісьце?
Ізноў шаргаціць у марозную ноч?

*2002 г.*

## Хатка

На фота зірнуў – хатка мая.
І забыты марозны пах,
І вада, што вясною сплыла.

*2001 г., Нью-Ёрк*

## Эміграцыя

Раніцай, калі сьвятлее змрок,
Ля чужога вакна
Гляджу на заснулы сьвет.

*2001 г.*

## Карціны

Баюся я мінулых уяўленьняў.
Палон салодкі, як няволя.
Бо ўсё здаецца – вернецца былое.

## Мірабэлькі ў Варшаве

Зацьвілі –
    і ўжо сыпецца
        кветкапад.
Але ёсьць
    далёка адсюль,
        за лясамі,
На Беларусі
белае цьвіценьне.

*2001 г.*

## Высока ў самалёце

Над акіянам-морам
У акіяне сьвету
Пылінка я.
Але ўвесь сьвет –
Ў ва мне з табой,
        любімая,
Там, далёка,
На Беларусі...

*2001 г. (З цыклу „Там, далёка")*



# Чужына́

## Вецер на чужы́не

Пад ветрам гайдаецца
лісьце чужое.
Праз шыбы відаць мне
У мроях далёка
Мой клён пад маім вакном,
І студня з цыновым вядром
(О, Божа, – як любае мне!).
Сьцісну я голаў рукамі
І дзень
праміне
ў чужыне́.

*2000 г.*



*40. Студня ў Суботніках. 1964 г.*

## Цяжка на душы

Ізноў на чужыне мне іншы начлег.
Ізноў прывыкаць мне патрохі трывожна.
Ізноў у карцінах маленства
Мой дом,
Дзе дрэвы мяне чакаюць.

*1998 г. Нью-Ёрк*

## Дождж на эвеню „Z”

Крапае дождж
па чужым вакне.
Пагаварыць бы з дажджом.
Але й ён чужы.

*2001 г., Нью-Ёрк*

## На чужыне клён цьвіце

На сьвітаньні ў цішыні,
Над вясеньнім клёнам,
Калі ў доме чужым яшчэ сьпяць,
Стаю ля вакна:
Як мне вярнуцца к табе,
рэчка мая!

*2001 г., Варшава*



## Кроплі

Сячэ ў шыбы
дождж чужы.
Як шмат чужога
на кантыненце.
Іржавая сетка
на мокрым вакне.

*2001 г., Нью-Ёрк*

## Тугá

Калі праз сілу
Пяеш на чужыне,
То потым
баліць душа.

*2001 г.*

## Чужыя вішні

Здавалася б
Гэткі ж цьвет,
як на радзіме.
Але душа маўчыць.

*2001 г.*

## Дождж на чужыне

Па чужацкім бруку
Дождж чужацкі
плешча,
Як некалі,
у Вільні.
Але гэта
Ня Вільня...

*2001 г.*

## Здымаю ў Брукліне

Ну што мне ўвогуле
тут здымаць?
Чужыя магноліі, ці кадзілякі?
Ці мо' жабракоў?
Нават неба – чужое.
Толькі раз
Над іспанскім касьцёлам
Я ўбачыў у Небе
Боскі прасьвет,
Як некалі, даўно,
На тарфяніках
Ля Пцічы...

*2001 г.*



## У Брукліне – сьнег

І разламаны краявід,
І шумныя дарогі,
І незнаёмых кшталты дрэў –
Нічога зь Беларусьсю.
Ды толькі гэты вось мне сьнег вясеньні
На галаву зь нябёс...

*2001 г.*

## Чужая краіна

Марная прырода, бедны краявід.
Скалы ды неба,
Горы ды зоры
Ды месяц далёка блішчыць.
І верылі людзі
ў зорны сьвет.

*2001 г.*

## Карціны перамен

Жоўты клён прамільгнуў
за вакном цягніка,
Як страла.
І сухая трава,
І вада
Сіняя, нібы ўльтрамарын.

*2001 г.*

## Міжнародны аэрапорт на чужыне

Тут гэтак шмат людзей.
У іх гэткія твары.
Калі б хтосьці памёр,
Аніхто б не заўважыў.
Бо ў кожнага свой клопат.

*2001 г., Нью-Ёрк*

## Хварэю на чужыне

Пакуль гатуюць лякарства,
Складаю верш,
Як калісьці сьпявалі
Мы песьні свае.
Толькі штось не пяецца мне ўжо
Без Беларусі.
Кашляю, як сухотнік.

*2001 г., Варшава*

## На чужыне чакаю вясну

Ну вось і Новы год мінуў.
Ізноў мяцеліца
Мне белым цьветам
Глядзіцца ў вакно.
Далёкія вішні.

*2002 г.*

## Дажджлівы дзень на Шыпсхэтбэй

Аж гольле зьвісла
ад дажджу –
Плакучая бяроза.
Так можна плакаць
хіба па Радзіме.

*2002 г., Нью-Ёрк*



* * *

Назіраю за вераб'ямі ў Манхэтане.
Прывітаньне, браточкі.
Але яны тут нейкія,
глуханямыя, ці што.

*2002 г.*

## Мінаю дрэвы

Якая ласкавая трава
пад ліпай.
Прылегчы б, заснуць,
Як на Радзіме.

*2002 г.*

## Вашынгтон у ружовым цьвіценьні

І навошта яны расцвілі
магноліі, вішні?
Тут даўно не жывуць паэты.
Ды й вершы ніхто не чытае.

*2002 г.*

## Халодная ноч

На небе месяц,
Таемны і прыўкрасны.
Якая моц – твая краса!
Вось і сёньня на чужыне
Ты мне сьвеціш, як некалі,
Праз марозныя шыбы
У не маім вакне.

*2002 г.*

## На чужыне думаю пра лес

Сьветлая паляна, суніцы, хвоя, балаты.
Некалі – звычайнасьць.
Цяпер – далёкі рай.

*2002 г.*

* * *

Дзіўна, – падумаў я ўраз:
Маючы дом, паўжыцьця пражыў,
як на вакзале.
А тут яшчэ й чужына́.

*2002 г.*

## Летняя ноч на чужы́не

Нават ноччу стракоча сарока
Пры сьвятле ліхтароў.
А ёй то што – пераблытала дзень?

*2002 г.*

## Сьвітаньне ў далечыні

Непрыкметна сьвятлее паўзмрок.
Назіраю з чужога вакна,
Як сьпяць галубы на дамах.

*2002 г.*

## На зыходзе зімы

Молімся пра лепшы дзень,
пра лепшы час.
Зноў запахла ў паветры
талай вадой
І сьнегам вясновым
марозная ноч.

*2002 г.*

## У сакавіку ля чужога возера

Лёд растае, вадою набрак.
У жоўтых праменьнях
зьвісае вярба,
Як некалі над Гаўёй.

*2002 г. (З цыклу „Як некалі”)*

## Белая раніца

Ноччу выпаў сьнег.
Прыўбралася бяроза –
на вясельле маладая.
Толькі якое вясельле
ў чужыне́?!

## Дажджлівы красавік

Гляну ў вакно –
І на падваконьніку
ў рамачцы
твой партрэт.
Але цяпер я ня маю нават свайго вакна.
Дождж красавіцкі сьцякае
Па запацелым шкле.

*2002 г., Нью-Ёрк*

## На сьвітаньні прачнуўся

*Жонка атрымала кепскую вестку з Радзімы*
*і плакала цэлы вечар. Потым я напісаў:*

А вось і раніца
на чужын**é**.
Ты яшчэ пасьпі,
мая любімая.
Ня бойся – Беларусь жыве.

*2002 г.*

* * *

Калі Беларусь за акіянам,
Трывожуся я,
Бо далёка.
Калі праз мяжу –
То лепей,
Бо побач
я чую яе быцьцё.

*2002 г.*

* * *

Няма нічага лепш,
Як прыедуць сябры
І на мове сваёй
пра ўсё гаварыць.

*2001 г., Варшава*

## На чужой зямлі

Касы сьнег на вятрыску.
У душы ажывае забыты верш.
Толькі й гаворым, што пра Радзіму.

*2001 г.*

* * *

Ідуць гады
І паступова
сьвет робіцца чужым.
Ці на чужыне
мне так здаецца?

*2001 г.*

## 100 км на гадзіну

Чужая дарога.
Як сон,
Мільгаецца мне Беларусь.

*2003 г., Кліўленд*

## У сьне асеньняй ноччу наведаў родны дом

А пад вокнамі ад флёксаў
Рудыя сьцімбуры́...
І пачынаецца вецер.

## Грушка

О, не забыць мне
(Можа, я захварэў?),
Як грушка цьвіла
Перад домам маім.
Кожны дзень не магу забыць.

*2003 г.*

* * *

Вясна, кажаце?
Шпакі, буслы, Айчына.
О, сэрца, не замры!
Паверыў бы я,
Калі б жаўранка сьпеў зазьвінеў.

*2003 г.*

* * *

Белы сьнег за вакном
У чужой краіне
Сыпецца, як мука.
Колькі разоў я бачыў яго
На Радзіме.

## Думкі на чужыне

Найвялікшае шчасьце было б
На імгненьне
Ў далёкія дні вярнуцца.
На цёплы вячэрні млын,
Дзе цячэ паўнаводна Гаўя.
Хоць бы сон мне калі прысьніўся.

## Восень на чужыне

Лісьце, як сьпечанае,
Падае на дарогу.
Нават дрэвы тут не жаўцеюць.

*2003 г., Варшава*

## Зімовая нядзеля

Марозік на ліпах асеў.
Белыя галіны.
Зь вежы касьцельнай
плыве перазвон.
Імша.
А Бацькаўшчына далёка.

*2003 г. (З цыклу „Перазвон")*

## Сонца

Узышло сонца.
І ўздымаецца над лесам
Там – з-за Беларусі.

*2003 г., Варшава*

## Нью-Ёрк-Варшава

Паўгода там, паўгода тут.
І стаўся мне горад Тамтут
Па абодвух баках акіяна.

*2003 г.*

## Усьлед за думкамі пішу

Жыцьцё на чужыне – правал,
Глухая абарона.
І жаданьня няма ўспамінаць.
Але помніцца
Нават кожны цьвічок у дзьвярах,
І наш ганак, і родны мой дом.
Мне вецер Айчыны чуваць.
Толькі тут я спазнаў,
Як чужы без яе гэты сьвет.
Але веру:
З узьнятым кап’ём
Я вярнуся дамоў са шчытом,
Мо’ хоць дрэвы мяне спаткаюць.

*2003 г.*

## Біл

*Аднойчы ля дарогі я зьбіраў грыбы. Ехаў амэрыканец Біл, заўважыў і пазваніў у паліцыю. Біл ніколі ня бачыў жывых грыбоў, ня ведаў, адкуль яны бяруцца, і падумаў, што напалі тэрарысты і пачалася вайна. Тады я напісаў:*

Месяц зялёны над вязам павіс.
Ніяк ня ўцяміць Біл,
Што гэта сьвеціць.

*2003 г.*

## Дрэнныя весткі

Ты маркотна спытала мяне:
– Як забяруць Бацькаўшчыну,
У нас з табой
Ці застанецца каханьне?
– Ня плач, каханая, ня плач.
Усё застанецца.
Толькі ня будзе шчасьця.
Бо няма шчасьця
Без Беларусі.

*2003 г.*



## Відзеньне ў чужыне́

У шэрым змроку, за гарызонтам і лясамі,
У цёмных хмарах, нібы вецер,
Губляецца далёкая дарога.
Бязгучна блішчаць агні
Нябачных ужо машын.
Мне здаецца, што я над Раўбічамі,
І нават над Беларусяй
Сузіраю вячэрні край.
І сосны на доле відаць.
Прасьціраецца хвоі пах...

*2004 г., Нью-Ёрк*

## Мароз

Замерз бяздомны.
(Можа ад дэмакратыі?)
Я Богу ўдзячны
за хісткі дах над галавой.

*2004 г.*



*44. Чужое неба над Пэнсыльвэніяй. 1996 г.*

## Чужая вуліца

Не сьціхаецца шум. Нават ноччу.
Пілярама машын за чужым вакном,
Заглушае паўночны вецер.

*2004 г.*

## Чакаю аўтобуса

Калі я драмаў на прыстанку,
Хтось даткнуўся маёй рукі.
Сабачка бяздомны
ў вочы глядзіць.

*2000 г.*

## Балтымор уздоўж чыгункі

Аблезлыя трушчобы,
сьмецьце, гразь,
Закопчаныя шыбы...
Як існуе,
Пра што тут марыць
Вольны чалавек?

*2002 г.*

## Экзатычныя дрэвы

Бардовае лісьце,
як з'іржавелыя цьвікі.
І што мне нагадвае
Гэты клён заморскі?

*2002 г.*

## Далёка

Скрозь лісьце на двары
Мігціцца сонца бляск.
І ўсё чужое.

*2003 г.*

## Італьянскі раён

Двох неграў прайшло,
прывіталі мяне.
Цікава бываць,
дзе жывуць італьянцы,
Хоць я й не маф'ёзі.

*2003 г., Кліўленд*

## На чужыне

Я падумаў, што скора 60.
І ўсе – для Беларусі.
І нічога няма ў мяне,
Акрамя Беларусі,
Якой таксама ў мяне няма.

*2003 г.*

## Ты са мной

*Задумаўся, што цяжэй: эміграцыя ўнутры, ці эміграцыя на чужыне. І тады напісаў:*

Там, хоць мройна, – было ўцячэньне
Ў лес, у пагоркі, у палі,
між сяброў.
Тут – нічога няма.
Толькі сьветлы вобраз Твой
Са мной.
І толькі вобраз Твой...

*2002 г. (З цыклу „І толькі")*

## Ліст

*Самае цяжкае, што сьвет непазнавальна зьмяніўся да горшага. Гэта не кругаварот, не перамены, а разбурэньне. Той краявід Айчыны, будучыні, вада і поле – у запасьці. Ужо мінулі, ня ёсьць, не існуюць. І успаміны даўніх дзён ужо толькі ў памяці маёй. Гэтак думаючы, я напісаў да маці ліст.*

Цяжар гадоў цябе згінае.
І край наш апусьцеў.
Праклятая марнота.
І толькі нязьменнае неба
Нам кажа пра вечнасьць.

*2002 г.*

* * *

Уляцеў матылёк у вакно.
Усе думкі мае пра Айчыну.
Можа й ён зь Беларусі?

*2002 г.*

## Вясновы дзень у чужыне

Прашумеў цёплы дождж уначы.
А ўраньні гляджу:
Распусьціўся магноліі цьвет.
Толькі штосьці нявесела тут
Ад яе хараства.

*2002 г., Нью-Ёрк*

* * *

Вераб'і ў кустах шчабечуць.
І ўсплывае ў вачах Беларусь.

* * *

І трэба ж было мне
Пазнаць чужыну́.

Але яшчэ цяжэй,
Калі яна ў Бацькаўшчыне.

*2004 г.*

* * *

Калі ў Варшаве за вакном
Шапоча дождж асеньні,
Мне ўяўляецца тады
Над Браславам макрэль
І дранка шэрая, і дахі,
І хвалі возерам бягуць,
Змываюць мае сьляды.

*2003 г.*



*45. Гаўя ля Суботнікаў. 1960 г.*

## Настальгія

Як уцячы мне ад вас,
Калі вас няма,
Карціны мінулай пары?

*2002 г.*

* * *

Жабрак папрасіў на Брадвэі.
„Нават у яго – вольная бацькаўшчына", –
Падумаў я.

*1999 г.*

* * *

*Як цяжка жыць бяз Бацькаўшчыны, як цяжка яе ня бачыць! Думаючы гэтак, я напісаў:*

Пасьвяцца коні ўначы над Гаўёй.
Цеплыня.
І ціха журліць вада.

*2004 г.*

# Мінулы час



* * *

Бягуць гады.
Так хутка.
І, як раней,
                    пакутуе
                                        наш народ.

*2003 г.*

## Мінулы час

*На выгнаньні ў чужыне мінулае забірае ў палон. У вачах стаяць шчымлівыя вобразы былога... Няма сілы разьвітацца з перажытым часам. Уяўляеш яго зноў і зноў, быццам спадзяешся, што ў мінулае можна яшчэ вярнуцца там, на Радзіме. Хоць у рэальнасьці ўжо няма таго сьвету, і людзі мінулага ўжо не жывуць. І толькі галасы гучаць, як некалі ў былым... І ўсё гэта круціцца, круціцца, як наканаваньне, як змора, як замкнутае кола. Здаецца, ня выйдзеш зь яго – то й загінеш. І тады я падумаў:*

Памятаючы, трэба йсьці наперад,
Каб вярнуўшыся,
Далей пайсьці.

*2002 г.*

## Сьпеў

Чым далей жыву,
Тым больш мне гучыць
Маладосьці сьпеў.
І міжволі
Сьпяшаюся я.

*2006 г.*

* * *

Верасьнёвы мароз.
І сыпецца лісьце.

## Школа

Драўляная школа
(Дзе вучыліся бацька і маці, і я)
Нашчэнт састарэла –
Развалены дом.
І чую здалёк я,
з ружовай абрыні
Мой голас звонкі
На пакінутым
школьным
двары...

*2001 г.*

## Слухаю музыку Міколы Стомы

Над далёкімі лясамі
Сіні арэол.
Таемны згук і галасы з дарог.
Цягнік па стыках,
Як табун прабег.
Кляпаюць косы.
І рокат трактароў,
І мройва над зямлёй,
І далячынь – шчымлівая струна.
Мінулы час пра Беларусь,
Пра Беларусь гучыць.

*2002 г.*

## Размаўляю з жонкай пра мінулы час

Мы сьпявалі ўсюды, ўвесь час.
Беларусь, Беларусь...
Нам хацелася радасна пець.
І толькі на чужыне
Мы зразумелі сэнс
Сьпяваньня на бяду,
На гора,
На цяжкае жыцьцё...
Недасягальнае былое,
Вярніся нам ізноў
І зьлітуйся,
Умацуй,
Багаславі...

*2001 г.*

* * *

Ідуць гады,
І ўсё мінулае
Становіцца, як сон.

*2004 г.*

* * *

Калі я ноччу глядзеў на Месяц,
Праляцелі над полем шэрыя гусі.

## Белы рыцар

Ідучы па дарозе,
                    я спаткаў вершніка
У белым плашчы
                    на чырвоным кані.
– О, рыцар, каго сьцеражэш?
– А ветру шукаю ў полі, мой брат.
– Няма ўжо ветру, – кажу, –
І ня будзе,
І поле бітвы лесам парасло.
І я спыніўся,
                каб паказаць яму дрэвы.
– Не спыняйся. Ідзі, –
Сказаў мне белы рыцар. –
Тваё поле – шлях.
Як спынішся –
Вырасьце лес на шляху.
Сказаў – і прышпорыў каня.

*2001 г., Варшава*

## Дарога – 1

Жоўтая трава, сасоньнік і сьнег
Мільгаюць у памяці
Наўзбоч па чужым шляху.

*2001 г*

## За акіянам

Чайкі белыя крычаць,
Нібы плачуць хвалі,
Адлятаюць ветры ў далі.
Толькі ветры ў чужынé
Зусім ня радуюць мяне.
Як белая чайка,
Ня буду я плакаць.
Зброю сваю – нарыхтую.
Над салёнымі водамі памалюся.
Веру, Божа, у нябёсах анёлы Твае
Над змагарнай маёй Беларусяй.

*2003 г.*



## Мроіцца дарога

Бяжыць цягнік праз родныя мясьціны,
І пералескі, й балаты, і сіні мох,
І горкі дым зьляжалае лістоты,
І колаў рытм:
„О ты, мая, о ты, мая...”
Аж гэта толькі сэрца
стукае ў грудзях...
О, любая мая, Айчына.

*2003 г.*

## Прадвызначэньне

Пра што б ні падумаў –
Усё пачынаецца з Бога
І ў Богу зачыняецца.
Калі б прышоў Бог
І паклікаў Цябе:
Йдзі за мной!
Ты б пайшоў?..
Толькі той, хто паверыў –
Пойдзе.
І таму
Не пакліча Гасподзь наўпрост,
Калі дадзена ўсім
Дарога.

*2003 г.*

## Дарога ў далячынь

Калі пайсьці Зялёнаю Дарогай*
І ўгару падняцца,
І праз жыта залатое
азірнуцца ў далячынь,
Вось тады і ўбачыш,
Як далёка–далёка
Хвалістыя сінія горы хваёвых лясоў
І ледзь бачныя хвалі блакітных пагоркаў
Таемна ў Вільню плывуць.
І над усім адна сінюткая, зіхоткая гара,
Што недзе там,
За Клявой ды Трабамі,
Паміж воблакамі і ўлоньнем
Узвышаецца над асмужанай мройвай зямлі.
Колькі разоў я быў там,
Колькі разоў імкнуўся
Да тых сініх сасновых гораў,
Ідучы цэлы дзень.
Як я хацеў бы зноў і зноў
Усё гэта бачыць,
Адмераць, як вечны
бясконцы шлях.

*2002 г.*

## Назіраю аблокі

Мне часам здаецца,
Што ляжу ў Курапатах
І сосны шумяць вечна.

Мне часам здаецца,
Што ляжу ў Беларусі
І вецер шуміць несьціхана.

Мне часам здаецца,
Што пранеслася чарада,
І чвяканьне капытоў
Заціхае
ў шуме
травы.

*2002 г.*

---

* Назва дарогі ў Суботніках у канцы Віленскай вуліцы.

## Вечны вобраз

За жыцьцё я шмат паезьдзіў
па Беларусі.
І цяпер яна ўся ў маім сэрцы.
Стаіць у вачах і ў душы са мной.
Плыву і плыву да яе
па бясконцым моры.
Але калі падумаю
пра шчасьце Тваё,
О, Бацькаўшчына,
То лепш бы я тут загінуў,
Чым убачыў Тваю няволю.

*2002 г., Варшава*

## Дарога сьмерці

*Праз Курапаты, дзе ляжыць расстраляны народ, нашчадкі адных праклалі шырокую дарогу нашчадкам другіх. Тады я напісаў:*

Не забывайцеся,
Вы едзеце па магілах,
Дарогай,
якую зрабіў
забойца.

*2002 г.*

## Нарбут

*Калісьці Нарбут, лекар браслаўскі, стоячы на гары Замковай і пазіраючы ў далячынь, гэтак мовіў: „А прыгажэйшага месца ў Эўропе ня бачыў”. Пра яго ведаючы, я напісаў:*

Усё, што зрабіў,
Стварыў, захаваў, аднавіў –
Затопчуць, зьнявечаць, забудуць.
Спаганяць імя.
І толькі Бог адзін
будзе ведаць пра ўсё.

*2002 г.*

## Начны шлях

Калі мы ноччу вярталіся,
Узышоў вялікі Месяц.
І толькі матор гудзіць.

*2002 г.*

## Вечар у дарозе

Цямнее ў аўтобусе змрок.
Прыдарожныя дрэвы, як дождж,
Расьцякаюцца з шумам матора
па шкле.

*2001 г.*

## Падарожны пристанак

Праз дзьверы відаць,
як аўтобус стаіць.
Смажыцца рыба.
Толькі й думаю,
каб не адстаць.

*2000 г. Польшча*

* * *

Як гэта зразумець?
Успомніў дзень юнацкі –
І ўжо я той.
І ў сэрцы мне шчыміць
Далёкая дарога.

*2002 г.*

## У археалягічнай разьведцы трапляю пад дождж

О, вялікі агонь!
То гэтак, то так,
то тылам, то бокам.
Сушуся, як неандэрталец.

*2002 г.*



## Шлях – 1

Між вышыняў, нізінаў, палёў,
Як страла,
Рассьцілаецца шлях.
Воблакі над дарогай.
Што яшчэ
              можа быць лепей,
Калі за мройву смугі
Ўдалячынь
Вырываецца зь цела душа.

*2002 г.*

## Імя

Уражвае велізарнасьць хлусьні.
Як сьцёк атрутны,
Як мёртвая рака,
Яна падзяліла маё імя папалам:
Для сьвету –
              і для сяброў.
Але нават калі б хлусьня
Перамагла апошняга сябра,
Застаецца Бог,
Які непераможны.

*2002 г.*

## Анёл каменны

Зімой на Росах* пуста, сьнежна.
Анёл з адбітай галавой
І абламанымі крыламі
У марознай золкай цішыні,
Калі прамень на вежы меркне,
Усё мкнецца, мкнецца ўзьляцець
Над сьветавідам душ памерлых.

Далёкі шлях перада мной.
Распрасьціраецца дарога,
І пералескі, і палі.
Мая зямля – мая трывога.
І перасьледуе мяне,
Як сон халодны, як сувой,
Як вобраз краю зрабаваны,
Анёл з адбітай галавой
І абламанымі крыламі.

Ужо ападае цьвет вясеньні,
Ужо жаўціцца клёна ліст.
Над акіянам і зямлёй
Вандроўнік я ў самалёце.
Над ноччу чорнай мімалётнай,
Над скамянелым кантынентам,
Чужым, як месячны ландшафт,
Над пустазельлем і званамі,
Як сьпеў нявродны прада мной.
Як край забраны, пахаваны,
Анёл з адбітай галавой
І абламанымі крыламі
Ляціць, ляціць, таварыш мой.

*2002 г., Нью–Ёрк*

* Старажытныя каталіцкія могілкі ў Вільні



*50. Крыльлі анёла 2003 г.*

## 25 чэрвеня – апошняя дарога Быкава

*Надзея*

Быкаў добра ведаў чужы рэжым,
Каб не шукаць, дзе няма.
Але была надзея,
Што засталася жыць.

*Сын*

Не хапайма зорак зь неба,
Бо часам толькі,
Каб бацькаву труну накрыць
Народным Сьцягам,
Варта быць сынам Быкава.

*Машыны*

Бачыш, Васіль Уладзімеравіч, –
Яны сьпяшаюць.
І ты зноў, апошні раз,
Перашкодзіў ім ехаць
У прывычны нябыт.

*Хада*

Парваліся нябачныя ніці,
І адышла ягоная прысутнасьць.
Як некалі, іду.
І толькі брэх усьлед па бітым шляху,
І толькі брэх сабачы.

*Рыгор*

І Васільковы жаль
                    ты мераеш матуляй.
Твой найвышэйшы ідэал
Над Беларусяй вечна сьвеціць.

*Вецер*

Над жалобнаю казаньню
Зашумеў у ліпах вецер.
Аніхтосьці не пачуў.
Пераменіцца ўлоньне,
Можа, й доля праміне,
Можа, разам з землятрусам
Абарвуцца згубы дні,
Можа, й песьня не сьпяецца
У вышынях за гарой.
Зашумі, вятрыска вечны,
Зашумі над галавой.

*Ода*

Гімн Беларускі гучыць.
Гэта мы яго сьпяваем – Фронт.
Рэквіем па няволі.
Ода для прышласьці
Над магілай Быкава.

*7 ліпеня 2003 г., Нью–Ёрк*

## Вобразы перад вачыма

Раніцай дожджык у шыбы сячэ асеньні.
Толькі й думаю пра Беларусь.
І трывожна дрыжыць мне душа.
І, здаецца, няма ўжо дарогі...
А за вокнамі
Па мокрым рудым дзірване
Сарокі скачуць.
Узьлятаюць.
Стракочуць
Пад шэрым небам.

*2003 г., Варшава*

## Браслаўшчына

Колькі сілы і працы,
Маладых уяўленьняў,
Жывучы ў забранай краіне,
Уклаў я ў твор пра Браслаўе.
І ўсё гэта канула ў Лету.

*1995 г.*

## Рота

Увесь час, пакуль я йшоў пад гару
І потым з гары,
За мной, нібы цень,
Шэры бег чалавек.
Ён круціўся на месцы,
Скакаў і тупацеў нагамі.
Ён затоптваў мае сьляды.
І погляд ягоны,
Халодны, нібы ў зьмяі,
Узіраўся ў маю патыліцу.
– Ты! – крыкнуў я, – чаго пляцешся?
– Я йду па тваіх сьлядах, – быў адказ, –
Каб затаптаць магілу.
– Навошта?
– Ад радасьці, што цябе ня будзе, –
Зарагатаў шэры чалавек
І пачаў танцаваць.
– Хто ты? – уражана спытаў я.
– Твой сын, – быў адказ.

– У мяне няма сына.
– Я твой сын, які не нарадзіўся
І ўжо не народзіцца.
– Пакінь гэты занятак, сын.
Без цябе яго зробіць
Такіх, як ты, цэлая рота.
– О, не, ні за што –
Нават рота ня вытапча ўсё, –
Сказаў шэры тып
І засьпяваў Марсэльезу.
І тут я ўбачыў у яго на нагах кайданы.
Валасы яго сталі – сухая трава.
Бледны твар і запалыя вочы
Глядзелі ў мяне:
Гэта я, і не я.
Адыходзіла постаць мая,
Абкружала здаля,
Абсыпалася мне пад нагамі зямля.
Раз, два, тры,
Раз, два, тры –
Крочыць рота – канвой,
Плыве ціха ў цішы,
Як туман над вадой.
Топчуць сьлед мой нагой:
Раз–два–тры,
Раз–два–тры –
Крочыць рота за мной.
Азірнуўся ў даль –
Бледны тып занямела стаіць,
Быццам я, і не я,
Кайданы на нагах.
І сухая трава.
Ўсьлед іду, ўсьлед іду, –
Ужо зьвіняць ланцугі,
Даганяе мяне шэры цень –
І ня можа дагнаць.
Хоча роту за мной перагнаць,
Хоча роты сьляды затаптаць.

*2002 г.*

## Кіданьне жалеза

Кінуў малаток у ваду.
Толькі булькнуў.
Думаю – навошта?
Іншым разам укіну серп.

*1995 г.*

## Месяц

У ноч зацьменьня Месяца, даўно,
Падумаў я:
Усё жыцьцё наперадзе.

*2003 г.*

## Абсыпаецца вішня

Белае вецьце зьвісае праз плот.
Абрывае пялёсткі вясновы дождж.
Пад нагамі
адцьвітае мая дарога.

*2002 г.*

* * *

Неяк дзіўна пражылося жыцьцё.
Мне як бы і месца не знайшлося
На гэтым сьвеце.

*2002 г.*



## Шлях – 2

Няма нічога цяжэйшага,
Як бачыць, што справа,
Якой прысьвяціў жыцьцё,
Падае, разбураецца на вачах.
І ўсе твае вынікі
Руйнуюцца ў друз,
Рагочуць ворагі на папялішчах...
Але не апускайма рук,
Не спыняймася.
Бо толькі калі выйдзем на шлях,
Убачым будучыню.

*2004 г.*

## Чаканьне сьвятла

Ужо канае,
Канае цемра спракавечна.
Узыйдзі над роспаччу, зара.
Рассыпся, чорнае вагнішча.
І над бяздоньнем рукатворным
Паўстань у зьзяньні цудатворным
Мая Зямля, мая Зямля...

*2001 г.*

## За Бугам

*Калі я раньняй вясной ехаў старой дарогай па былой Беларусі, за вакном распрасьцерлася бяз краю зялёнае поле. Божа, няўжо гэта ўсё яшчэ ёсьць, існуе і жыве! І жаваранак заліваўся. І тады я запісаў на ўспамін для сябе:*

У гарадах чужых,
Як дзень за днём,
За годам год:
Глядзіш на сьвет
Праз шум наносны,
І сьвет, здаецца, ўжо
Даўно перамяніўся...
А вось жа рунь!
Вось рунь зялёная
Рунее!

*2002 г.*

## Зямля

*Усё пражытае жыцьцё ў акупацыі пад саветамі мінула для мяне ва ўнутранай эміграцыі. Цяжкае цярпеньне. Але тады побач была мая зямля, што давала сілу і грунт быцьця. Цяпер побач няма і зямлі. І немагчыма спаткацца. Стала зусім блага. Аднак я ведаю, што служу толькі ёй, што яна, мая зямля, існуе, ёсьць і жыве, дыхае, як і я. І гэта ўзмацняе волю. Думаючы гэтак, я напісаў:*

Наперадзе – зямля.
Я ўжо яе бачу.
Толькі б даплысьці.
Толькі б хапіла сілы.
Поўна акул.
Ад доўгага плаваньня мне зводзіць ногі.
І пальцы сталі, нібы вяроўкі.
Ці думаў я калі пераплысьць акіян?
О, Зямля, цёплая і цьвярдáя!
Як хораша на зямлі!
Я ніколі ня думаў пра яе цьвёрдасьць,
На якой так добра стаяць.
О, Зямля, люблю цябе.
Абцяжарыла цела маё
І, як губка, насякла вадой.
Ужо ня гнуцца рукі мае.
І холад працяў.
Стукацяць мае зубы.
Я ўвесь дрыжу.
Нават дыханьне маё дрыжыць ад холаду.
І сьліна цягучая, нібы кісель.
Плыву.
О, бераг! Ці, можа, ты мроя?
Ужо бачу людзей на беразе.
Яны такія ўрачыстыя.
У капелюшах, у прыгожых касьцюмах.
Яны хораша ўсьміхаюцца.
Маладыя жанчыны ў белых сукенках
Махаюць рукамі, вітаюць мяне.
Плыву – і не даплываю.
Засталося няшмат.
Я таплюся ў іх на вачах.
Я ўжо захліснуўся салёнай вадой

І ўраз аслабеў.
Йду на дно.
Мелізна.
Жоўты пясочак відаць.
Я дастаўся нагамі, адбіўся ад дна
І ўсплыў.
А людзі так блізка.
Ну вось жа – рукою падаць.
Ветліва ўсьміхаюцца мне прыгажуні і хлопцы.
Мне сілы няма да іх крыкнуць: ратуй!
Яны ж бачаць – я гіну.
Мо' баяцца яны намачыць гарнітуры
Й прыгожыя сукні?
Я зноў захлынуўся.
І ўжо ледзь адпіхнуўся ад дна.
Трэці раз – не змагу.
Прыўкрасныя людзі глядзелі...
Усё.
І хлынула ўнутр у мяне вада.
І неба сьцямнела...
У апошні мамэнт я ўбачыў душой:
Прыплыла з акіяна самотная хваля –
Мо' з карабля,
А мо' камень зваліўся зь нябёс –
Узьняла мяне вы́сака ў гору
І бразнуўся я на ўзьбярэжжа скалы.
Пацякла ў мяне з роту і кроў, і вада,
Але быў я жывы
Каля ног распрыўкраснае дамы,
Што ўсьміхалася ў даль акіяна.
І тут я ўгледзеў,
Што ня людзі зусім
Жывапісным шнурочкам стаяць.
Хтосьці з крамы (пэўна ж, бо жартаўнік)
Манекены да мора прынёс.
Мо' каб выветрыў вецер зь іх моль,
Ці каб лепей тавар свой прадаць.
Няўцямна ўзіраюся я ў муляжы
І застыглыя іх усьмешкі.

*2004 г., Нью–Джэрзі*

## Дарога ў адзін бок

У краіне глухіх,
Ідучы па гасьцінцы са словамі,
Я спаткаў відушчага паэта.
– Куды ты ідзеш са словамі? –
Прамовіў ён мне, –
Па сьмерць у краіне глухіх?
Не сказаў я нічога
У адказ мудрацу.
Іду сабе ды іду
Адзінай сваёй дарогай.

*2002 г.*



## У дарозе

Рана–рана, на сьвітаньні,
Калі спачывала дарога ад шуму машын,
Разбудзіў мяне крык пералётных гусей.

*2004 г.*

# Планэта любові

## Вясновае неба

Мінаюць дні.
Сьвятло любві
Нам
        непагасна
                сьвецiць.

*2001 г.*



## З табой

Зацьвітуць бела–белыя вішні,
І мы пойдзем з табой
паміж дрэў
Вечарам у цішыні,
любімая.

*23.04.1997. Варшава*

## Думаю пра жонку

Хачу напісаць табе ліст.
Толькі й круціцца ў галаве –
Мілая ды каханая.

*1996.*

## 23 ліпеня

Калі б была Беларусь свабоднай,
У гэты дзень
Мы б паехалі ў наш касьцёл
І маліліся б Богу
прад Яго алтаром,
Дзе злучыліся нашыя жыцьці...

*1996 г., Нью–Ёрк*

## У разлуцы пішу

Два гады прамінула,
як сон.
Акіян паміж намі,
разлучнік.
Акіян любові, мілая,
злучае нас.

*1997 г. Нью–Ёрк*

## Разлука

У вакне пад жоўтаю вазаю
твая фатаграфія.
Сёньня мне здалося,
што яна плача.
Як мы далёка.

*1997 г. Нью–Ёрк*

* * *

Ветрык праз фіранку
заляцеў у пакой,
Калі я моўчкі адзін
Успамінаў пра цябе.

*1995 г.*

## За акіянам

Гэты шум
і размовы,
як машкара.
Адбываю павіннасьць.
Сьцяўшыся, нязмушана гавару.
Мне б з табой,
Мне б з табой памаўчаць,
любімая.

*1998 г., Нью–Ёрк*

## Вечарам далёка

Вось запалілі сьвечку:
Пламеньчык – хваля.
Лодка мая плыве да цябе.

*1998 г., Нью–Ёрк*

## Жонцы

У Беларусі чакае нас
Сьветлы Касьцёл
І над возерам сад,
Дзе аблокі плывуць над вадой.

*2000 г.*

## Думаю пра Цябе

Трывожуся,
Каб ніхто не зьняважыў
Шчырай тваёй душы
І сэрца твайго балеснага.
Няма нічога больш агіднага
За зьдзек ніжэйшага
над вышэйшым,
Мярзоты над чыстасьцю,
Распутнага над сьвятым.

*2001 г., Нью–Ёрк*

## Мілай жонцы

Як мару я
Майскай вясной
У любімай краіне,
На зялёнай траве,
На Браслаўскай зямлі,
Каля возера
Разам з табой пабываць.
А ў небе
аблокі плывуць.
І цёплага
ветру
шум.

*1996г., Нью–Ёрк*

## У Амэрыцы

Калі ў далёкай Амэрыцы,
Едучы цягніком,
Я толькі і думаў
пра наша каханьне,
Нясупраць мяне
Драмаў стары негр.

*1996 г.*

## Любай жонцы

Нават калі цяжка жывецца,
Але йдзеш да Бога,
То гэта лепш,
Чым бы жыў лёгка
І стаяў на месцы.

Багаслаўлены шлях,
Дзе мы крочым у прышласьць,
Ня ведаючы, што будзе,
І спадзяёмся на Ласку.

Багаслаўлены наш ідэальны дом,
Што чакае ля хваляў Дрывят.
Багаслаўлены наш Найсьвяцейшы Касьцёл,
Добры ксёндз,
Наш найвялікшы камень
З полацкім крыжам Барыса–князя.
Багаслаўлёны наш Найсьвятлейшы Боскі Дзень,
Калі вернемся мы
У Беларусь...

*2001 г.*

## Жонцы пішу

Ты церпіш, мілая,
Найлепшая мая,
Бяз скаргаў і сумненьняў,
І працу нізкую,
І ўсе пакуты,
І беднае жыцьцё,
І ўсё чужое,
Бо ўсё — для Беларусі.

*2002 г., Варшава*

## Цёплы далёкі дзень

А памятаеш красавік?
І лес у сініх пралесках?
І гай, і вясновы вецер?

*1996 г.*

* * *

Твае вочкі, як васілёчкі.
Гляджу на цябе –
Нібы лён цьвіце.
Усьміхаешся – сонейка сьвеціць.
Эх, пайду на лужок,
Цьвяточкаў нарву,
У муражку пакачаюся.

*1994 г., Менск*



## Пад вакном вярба расьце

Пад вакном вярба ніцая
Нагінаецца,
Цёплым дожджыкам умываецца.
Ня плач, жоначка, ня плач,
На вярбу гледзячы.
    Пад маім вакном
    Курапатачкі
    Проса дзюбаюць.
    Паглянь, жоначка, паглянь –
    Проса дзюбаюць.
Над ваконцам нашым
Зязюлька сядзіць,
Гады кукуець:
Ці нам век векаваць,
Ці нам ночку начаваць.
    Не кувай, зязюлька, не кувай.
    Ня плач, жоначка, ня плач.
    Будзем век векаваць,
    Будзем ночкі начаваць.

*1995 г., Менск*



# Горад гарадоў

* * *

Чужына́ – нібы сон.
Як Бога,
Вільню ў душы нашу.

*2002 г.*



## Пад’яжджаю да Вільні

О, пазнаю здалёк:
Гэта вежа касьцёла сьвятога Яна
Над чырвонымі дахамі
ў засьнежанай мгле.

*2002 г.*

## Вечная Вільня

І вось, я тут ізноў
На імгненьне вярнуўся з чужыны.
Як жывецца мне Вільняй!
Сонца заходзіць за сьветлы касьцёл,
Арганы, імша,
Птушак зграй.
Каўкі лятуць
з-пад шыбеніцы
Кастуся...

*2001 г., Вільня*

## Віленка ў Вільні

Сьцяжынка бяжыць;
мураванка, касьцёл,
Сасна прамяніцца смалой.
Як быццам ня горад.
Плюскоча струмень
І пахне мінулай парой.

*2001 г., Вільня*

## Зноў у Вільні

З вакна, дзе я ёсьць, –
Жоўты касьцёл,
Абмыты дажджом прастор.
Раней, – як быццам
усё наперадзе.
Цяпер, – як быццам
усё было.

*2001 г., Вільня*

## Віленскі брук

Ізноў над Вільняй дождж
Праґрукаў па бруку.
Аж ня верыцца:
Такое ж каменьне,
А дыхае Беларусьсю.

*2001 г., Вільня*

## Трыпутнік

Трыпутнік на бруку расьце.
Лужы стаяць.
Дык жа й трыпутнік наш.

*2001 г.*

## На Зьвярынцы*

Пад касьцельным мурам
Дзядзька крыжыкі прадае.
Ня ведае, па-якому й казаць.

*2002 г.*

* Раён Вільні за Вяльлёй





*59. „Беларускі мур". Віленшчына. 2006 г.*

## Здалёку прыяжджаю ў Вільню

Цэлую ноч аўтобус гудзеў.
Вось Вільня! Вільня паўстае,
Як сон ружовы.

*2003 г.*

## Пах дыму

Па–над віле́нскім
мокрым дахам
Дым засьцілаецца пад гзымсы.
Хтось старадаўні камінок
У дзень дажджлівы паліць.
І ажывае
ў душы
Беларусь.

*2002 г.*

## Сьвітаньне ў Вільні

Няма нічога лепш,
Як раніца,
Калі над Вяльлёй у хмарах
Сьвятлее неба,
Белае, як пэрлямутр.

## Дзяды на Росах

*1. Агні*

Гараць агні на Росах.
Тыя, хто былі беларусамі,
Моляцца за сваіх.

*2. Цені*

З узгорка крыжоў –
Мірыяды агнёў.
Нібы душы памерлых дзядоў,
Ажылі.

Сьцямнела. Дажджыць.
Апусьцілася ночка з гары.
Ціха цені жывых
Адышлі.

*3. Сьвечка*

Ні помніка, ні крыжа.
Адзінокая сьвечка
                                        трашчыць пад дажджом,
Дагарае
                у ссохлай траве.

*4. Іду ля крыжоў*

Чую польскі акцэнт –
Над магілай стаяць.
Пустата.
Расказваюць пра сабак.

*5. Росы*

Мора сьвечак гарыць пад крыжамі.
Гэта памяць жывых пакаленьняў.
Беларусаў – няма.
Пуста ў змроку магілы ляжаць.
Я тут быў выпадкова адзін
І агеньчыкі ім запаліў.

*6. Мяжа*

Калі ў Дзень Задушны
                    я вярнуўся з могілак,
Даў моцны, ўліўны
                    нечаканы дождж.
І парвалася
          нітка
               яднаньня.

*7. Ноч*

Ноччу ў цішы
          ні душы.
Магілы, крыжы.
Бязгучна гарацць агні.
Дзяды.

*2000 г.*



*60. Дзень Задушны на Росах. 2001 г.*

## Там, дзе ляжыць Кастусь

Я – на гары Замк**о**вай.
Асеньняя раса.
Там за плячыма, у даліне́ –
Магіла Кастуся.

Уся Вільня пад гарой.
Як некалі, прасьцяг:
Касьцёл сьвятога Яна,
Ня наш лунае сьцяг.

Загіблая сталіца,
Наш зрабаваны сьвет.
Хацеў бы памаліцца,
Марыськіна краса,
Над неадпомшчанай магілай
Героя Кастуся.

*2002 г.*



*61. Сьвечкі. Дзень Задушны на Росах. 2001 г.*



62. Віленскія вежы. 2002 г.

* * *

Ці вернута будзе Вільня калі? –
Голас пачуўся панылы.
Вільня вернецца толькі тады,
Калі захочуць яе вярнуць.

*2002 г.*

## Родная Вільня

У засьнежаным бэзе
Пад звон касьцельны
Чырыкаюць вераб'і.

*2002 г.*

* * *

Чорны кот,
Як ноч на белым сьнезе,
Крадзецца ля ракі.
Ён думае,
Што яго ня бачаць.

## Стаю ў Вільні на беразе Вяльлі

Магутная Вяльля
У Вільню плыве.
Сухая трава на гары,
Стромкі бераг, абрыў,
Касачы над вадой.
Чую я, як шапоча яна асакой,
Як водар Радзімы стаіць над ракой.
Усё цяжэй і цяжэй
Мне прыехаць сюды.
Ужо чужая гаворка гучыць,
Паміраюць сябры.
Як жа гэта ўсё перажыць,
Калі забраны край?

*2003 г.*

## Капліца пад Салечнікамі

Сінее далячынь.
І Багародзіца маўчыць.
І адбягае пад лясы
                                дарога.

*2003 г.*



*63. Капліца ля Салечнікаў. 2003 г.*

## Ілюзіі Прагі

Апусьцілася сонца ў Влтаву.
Вышгарад пацямнеў – вось і Вільня.
Здаецца пайду – прагуляюся ўздоўж Вяльлі.

*2002 г.*

* * *

Ліст сябра з Радзімы
Успаміны вярнуў.
Хвоя пад Вільняй пахне.

*2003 г.*

# Сьвет, у якім жывуць

## Каменьні

Калі пабачыш
                    тыя стромкія горы,
Насыпаныя продкамі,
І замкавыя муры,
Разбураныя нашчадкамі,
Падумаеш: якая марнота!

*2002 г.*



## Простыя людзі

*На вакзале чужым я спаткаў земляка. Ён быў дрэнна апрануты і цягнуў вялікую торбу. Адыходзіў цягнік, і зямляк мне пасьпеў сказаць:*

„Пры камунізме,
Калі забаронена
І ўсё мана,
Было пад сподам
Сваё жыцьцё,
Жыла надзея.
І вось мінулае зышло,
А лепшага няма”.

*(З цыклу „Землякі”) 2002 г.*

## Ліхалецьце

Калі ў бездухоўнасьці
Зьявіцца духоўны лідар –
Яго заб’юць.
Бо ня праўды жадаюць, а пахвальбы.
І дармовага хлеба.

*2003 г.*

* * *

Садоўнік Купрэль.
Толькі й гаворкі – пра сад.
А сам – п’яны.

## Падарожжа ў адсталы час

Глухмань за лясамі
і на вуліцы гразь.
Панурыя людзі гарэлку п’юць.
Беспрасьветная
сеецца
ймжа.

*2002 г.*

## Цёмныя сырыя дні

Пад сьцяною зжаты бульбоўнік
Макрэе ў дождж.
І канца не відаць
асеньнім дням.

## У Крынках

Зайшоў беларусок
І зачэнл розмавяць па–польску.
– Гэта ён перад незнаёмым так прыкідваецца, –
Сказаў Сакрат.

*2002 г.*

## У Супрасьлі

Моўчкі прайшоў поп
І бліснуў вачыма крадком
На нас з–пад ілба.

*2002 г.*

## У Беластоку

Увесь час, пакуль размаўляў з манашкай,
Яна глядзела мне ў вуха.
Хіба так можна?!



## Назіраю вераб'ёў

Чыркаюць цэлы дзень.
Мы думаем – нешта.
А ў іх толькі й клопат – паесьці.

## На рынку купляю ў в’етнамца

З дня ў дзень – за прылаўкам.
Пальчаткі, шкарпэткі.
І не адчуць мне яго душы.

*2002 г.*

## „Парэнь”

Даўно я ня бачыў савецкіх.
– Парэнь, как пшэйсьць на вакзал? –
Спытаўся на вуліцы нейкі тып.

*2002 г., Варшава*

## Дзіўныя людзі

У іх і дождж – дрэнна,
І сьнег – бяда,
І вецер – „брыдкае надвор’е”,
І туманы – няшчасьце,
і мароз.
Чаго хочуць, дык і самы
ня ведаюць.

*2002 г.*

## Далёкі быт

Якія савецкія дамы
Ў далёкім горадзе,
Шэрыя, як камунізм.
Нібы я дзе ў Расеі.
Сярод сьмецьця важнецка
Цюцьку выгульвае
ў капялюшыку тып.

*2003 г.*

## Іду па праспэкце Канстытуцыі
## Ў Вашынгтоне

Ордэры і арлы,
парталы і капітэлі.
Клясыцызмус. Калёны, маштабы.
Як ім хочацца
быць Імпэрыяй.

* * *

Што за людзі вырастаюць:
Ня ведаюць ні дрэў,
Ні птушак,
Ні рыб назоваў,
Ні зорак на бяздонным небе,
І размаўляюць
пра культуру.

*2002 г. (З цыклу „Антывершы”)*

## Крот

Як паказаць табе хараство,
Калі ты ня бачыш,
І не разумееш,
Навошта яно патрэбнае?

*2001 г.*

## Эцюд пра залежнасьць

Калі я запальваю сьвечку,
То здабываю сьвятло і агонь,
Залежныя ад мяне.
Калі ты запальваеш
Электрычную лямпачку,
Ты сам ад яе залежыш.

*2002 г.*

## Пакінуты храм

На даху, з пазоў між цаглін,
Бярозка ўзрасла.
Ну, а далей – якое жыцьцё?

## Ахвяры

Заганная рэлігія Майя
(Ахвяры на сьмерць)
Самазьнішчыла іх як народ.
Іншых – зьнішчылі іншыя.
Але перш чым забіць,
Узгадвалі ў душах людзей
Адчуваньне ахвяры.

*2002 г.*

## Мода

І Вулька надзела штаны.
Йдзе сабе – жорны меле.

## Парсюк

Віцька з Вулькай
Парсючка шаравалі
(Чысьценькі–беленькі).
А ён на вуліцу выскачыў
Ды ў гразь – хрась.
І рохкае сабе, рохкае.
–Ну і сьвіньня, падла, –
Сказаў Віцька.

*2004 г.*

## Касавая будка на аўтобусным прыпынку ў Ліпнішках

За касавым вакном
Прыгожая Альдона
Білеты прадае.
І кожны (той, хто едзе)
Альдону не міне.
Мільгаюць зімы, леты,
Складаецца жыцьцё.
І мне калісьці восень
Дарогу перайдзе.
Прыгожая Альдона,
Гляджу, зусім старая
У касавай будзе.

*1995 г.*

* * *

Сьветлая Беларусь,
Дзе ты, харошая?
Ці ты схавалася?
Ці гэта мы цябе страцілі?

*2003 г.*



# Нью-Ёрк

## Манхэттан з вышыні хмарачосу

Нават людзей на доле
Не льгá разглядзець.
Дзе ўжо там
іхныя твары.

*2002 г.*

## Нью-Ёрк

Па вуліцах Нью-Ёрку
Ішоў са сьвечкай Чалавек.
Ён заходзіў у мэтро і крамы
І моўчкі ішоў далей.
І вецер з заліву
Не задзімаў агонь.
Ніхто, як прынята ў гэтым горадзе,
Не глядзеў на Яго,
Не зьдзіўляўся,
Не азіраўся ўсьлед.
Ніхто не заўважаў
Чалавека з агнём,
І зь дзівосным сьвятлом наўкол галавы.
Абышоўшы Нью-Ёрк,
Ісус Хрыстос ступіў у касьцёл на Брадвэі
І ціха ўвайшоў у абраз,
Дзе тры крыжы,
Што на гары Гальгота.
Я ўсё гэта бачыў адзін,
Тут, далёка ад Беларусі.

*2001 г., Нью-Ёрк*



*70. Габрэйскія могілкі на „Бэй Паркўэй". Бруклін. 2001 г.*

## Манхэттан

Чужасьць ягоная –
непераадольная.
Магільнае адчуваньне.
Вецер дзьме
між цясьніны муроў.

*2001 г.*

## Сьпякотны дзень у Новым Ёрку

Крапае дождж на гарачы асфальт.
Выпараецца ўраз.
Адлятае ізноў у аблокі.



*71. Манхэттан з вышыні. 1998 г.*

## Над камянямі

*Дзівосна, як нагадвае Манхэттан з вышыні, калі страчваецца маштаб, габрэйскія могілкі. Ходзячы па плятформе ў Брукліне ў мясьціне Бэй Паркўэй і гледзячы на юдэйскі нэкрополь да гарызонту, дзіўлюся ад падобнасьці вобразу: вось яна, архітэктура Нью-Ёрку, – горад мёртвага духа! Тады я сабе напісаў:*

У сьвеце чужым
Толькі адна апора,
крыніца цяпла:
Беларусы –
Дарагія мае радакі.
Беражэм Беларусь.
І яна абароніць нас.

*2002 г.*

* * *

Маладое лісьце
і ў Нью-Ёрку маладое.
Клён пад разводам хмар,
Як папугай, зялёны.
Толькі што мне з таго,
Калі ўсьцяжна шчыміць душа.

## Прыродны стан

Ледзь шарэе новы дзень.
Бязьлюдныя кварталы,
Сонны горад, дожджык цёплы, пустата.
Вось тады толькі і адчуваеш свабоду
У гэтай краіне:
Да першых хадакоў.
Нью-Ёрк у сьвітальнай імгле.

*2002 г.*

## Шум чужога горада

Тут нешта робіцца,
Ядуць, крычаць,
Распускаецца лісьце
І цягнікі грукочуць.
А там, далёка,
За шэрым морам,
Сярод сініх лясоў,
За зялёным жытам
Жыве мой цёплы самотны дом.
І трава маладая
                    расьце без мяне.
Там – у цэнтры сьвету.

*2002 г., Нью-Ёрк*

## Сходы

Калі я падымаўся па сходах,
Наверсе доўга чакаў
                    у брудным адзеньні рабочы,
Каб мяне прапусьціць.

*2001 г., Нью-Ёрк*

## На Лёнг-Айлендзе ў багатым раёне

Тут зелена і чыста.
Нават днём салавейка пяе.
А ў Брукліне, дык хіба што шпак.
Ды й то, які там шпак,
Хутчэй верабей.

*2002 г., Нью-Ёрк*



*72. Манхэттан. Вясновы эцюд. 2001 г.*

## Сьвітанак у Нью-Ёрку

Каменная яма – двор.
Халодны развор.
Сінічка пяе.
Весела, нібы тады,
Нібы там:
        далёка,
                дзе сьвежы вецер.

*1996 г.*

## Манхэттан-Біч

Зімовым вечарам
                я выйшаў да акіяна.
Вецер-вецер, што спытаць
                мне ў цябе
Пра маю Беларусь!

*2001 г., Нью-Ёрк*



# Альбом Нью-Ёрк Сіці

* * *

*Гартаючы фатаграфіі Нью-Ёрка, думаю: навошта я тут, дзе я зусім лішні. Навошта прывёў мяне сюды лёс у гэты чужы сьвет, які ніколі ня будзе маім? Навошта я гэта здымаў? Што павінен я тутака ўбачыць і што зразумець? Мяркуючы гэтак, я напісаў:*

Нью-Ёрк, як плянэта Зямля.
Сусьветная брама. Вакзал.
Плямёны, народы...

*2003 г.*

## (Ўражаньні беларуса ў Амэрыцы)

Беларус едзе першы раз з аэрапорта праз Бруклін, бачыць кучы сьмецьця ля дарогі, чуе смурод, глядзіць на бясформенныя каробачкі нізкіх дамоў, залепленых антымастацкімі шыльдамі і кажа: „І гэта тут я мусіў бы жыць? Пасьля Менску? Ніколі!" Але шмат хто застаецца і ўцягваецца ў бруклінскі вобраз жыцьця.

Беларус заходзіць у бруклінскі прадуктовы асяродак на Брайтане кшталту т.зв. „магазін-рэстарана". Сьмецьце, пахі, шум, на сьценах плямы, столь аблупленая, сядзяць у шапках за сталамі. Беларус кажа: „І гэта тут яны ядуць? Каб я тут еў – ніколі!" Але шмат хто з тых, што застаецца, ядуць, пакуль ня выб'юцца на лепшую долю.

Я ўжо не кажу пра бруклінскія так званыя „білдынгі" і жыльлё з запыленымі малымі вокнамі, што выходзяць ў брудны двор; жыцьцё прапахлае часнаком і старым карпетам, населенае тараканамі ды мышамі. Але шмат хто (бальшыня). жывуць. З надзеяй на лепшы час.

* * *

Амэрыка – гэта такая краіна, што калі хто мае здароўе, розум, маладосьць і хоча нечага дамагчыся, то даможацца. Ніхто ня будзе яму ў гэтым перашкаджаць. Наадварот, паспрыяюць, бачачы здольнасьць, сумленнасьць і працавітасьць.

Тым ня менш, гультаёў у Амэрыцы, хоць стог тахці. Першае, што заўважаеш, прыехаўшы ў Нью-Ёрк, гэта вялікія неэўрапейскія маштабы ўсяго і тыя адмоўныя зьявы, што ня ўкладваюцца ў эўрапейскую культуру. (Бруд і сьмецьце на вуліцах, у вагонах мэтро, неахайна апранутыя людзі, што вечна нешта ядуць, мужападобныя нежаноцкія белыя жанчыны ў прымітыўным адзеньні, у кедах і з бутэлькай вады ў руцэ і г.д.).

Дарэчы, у Амэрыцы вельмі шмат незвычайна тоўстых людзей. Я мяркую, што, нягледзячы на недобраякасныя прадукты (генетычна мадыфікаваныя, фабрычна выробленыя, хімічна апрацаваныя і г. д.). асноўная прычына якраз у гэтым вечным „жаваньні" і ў цэлым у кульце яды ў амэрыканцаў. Звычайная зьява: заходзяць у вагон мэтро, адчыняюць каробку з алюміневай фальгі з гарачай стравай і пачынаюць есьці плястыкавым відэльцам, распаўсюджваючы пахі (часам вельмі непрыемныя). Паеў-паеў, кінуў усё сьмецьце (банкі, паперу, фальгу). проста пад ногі, ці пад лаўку (калі культурнейшы). і пайшоў сабе. Ніхто нічога ня кажа.

Адначасна гэтыя ж неахайна апранутыя людзі і жавальшчыкі ніколі да цябе не дакрануцца ў натоўпе ці ў чарзе. Калі цябе амэрыканец проста пераганяе на вуліцы, то перш, чым перагнаць, папросіць прабачэньня, а калі незнарок дзе-небудзь нехта ўсё ж хоць трошкі дакрануўся, то адразу усьмешка – „соры, ам соры, сэр". Заходзячы ў ліфт, і калі там ёсьць людзі, амэрыканец абавязкова паздароўкаецца.

Мушу сказаць, што за ўвесь час эміграцыі мне не ўдалося ўбачыць п'янога амэрыканца і ніхто ніколі за ўвесь час мяне ні разу (!). не зьняважыў тонам ці тым больш – словам і ніколі не нагрубіў. Ўспамінаючы кашмар рускага хамства і грубасьці, што, як эпідэмія, апанавалі нашу Беларусь, Амэрыка здаецца дзівам, хаця тут мноства людзей, якія, скончыўшы сярэднія школы, ня ўмеюць лічыць больш чым да ста, ня ўмеюць пісаць і з цяжкасьцю чытаюць.

Вячка Станкевіч расказваў мне пра першае ўражаньне ад Амэрыкі, як толькі яны (група беларусаў). у 1950 годзе прыплылі вадаплавам у ЗША і ступілі на бераг Нью-Ёрка. Бачаць, ідуць мужчыны, гаворачы. Адзін закурыў, кінуў пад ногі пусты пачак і пайшлі сабе. Беларусы аж аслупянелі, раты разьзявіўшы. У Эўропе, дзе тратуары мыюць з мылам, такое немагчыма (ва ўсякім разе – тады было немагчыма).

Першае маё нэгатыўнае ўражаньне ў Амэрыцы, ад якога я таксама „аслупянеў", была жанчына на вуліцы ў ніжняй бялізьне. Выйшаў я ў Манхэттан аж гляджу ў натоўпе йдзе кабета ў ніжніх трусах з гумачкамі, нават пуп відаць і такая неахайная. Ну, думаю, ненармальная, зараз пад'едзе паліцыя і забярэ. Аж не, ніхто не зьвяртае увагі, нават паліцыя. І шмат такіх ходзіць, варочаюць ягадзіцамі, дрыжаць тлушчам і чым больш таўстая, тым больш трусястая. Сустракаюцца ў натоўпе нейкія жаночыя істоты ў скамечаных камбінацыях, райтузах і іншых мадыфікацыях бялізны. Прытым гэта не дно, не вычварэнцы – звычайны вулічны тлум, „дэмакратыя". Бачыў нават бабуленцыю (ды не адну). гадкоў пад восемдзесят. Яна, відаць, як устала з ложка, так і пайшла па вуліцы, забылася апрануцца.

Цяпер мы разумеем, што страта сораму жанчынай, гэта ня толькі адлюстраваньне духоўнага рэгрэсу грамадзтва, але й цэлая стратэгая зла, якая творыцца сьведама і пасьлядоўна. Амэрыка дае магчымасьць заранёў убачыць шмат якія працэсы, якія потым становяцца сусьветнымі эпідэміямі.

Але Амэрыка ня простая краіна. Ужо агульнавядома, што трэба пражыць у ёй мінімум тры гады, каб зразумець яе сутнасьць і глыбейшыя пласты дачыненьняў. Тады бачыш шмат станоўчага, пачынаеш усьведамляць станоўчую сілу і схаваную моц Амэрыкі.

Працэсы ўпадку духоўнасьці і псаваньня амэрыканскага грамадзтва ў выніку пашырэньня маральна-разбуральных паняцьцяў выклікаюць трывогу ў многіх амэрыканцаў. Пра гэта найлепш выказаўся адзін кангрэсмэн, які сказаў, што калі Амэрыка загіне, то толькі ад уласнай дэмакратыі.

Тым часам амэрыканскае грамадзтва, ня гледзячы на прымітывізм сацыяльных дачыненьняў (грошы-праца-грошы), мае ў сабе вялікую салідарную і патрыятычную моц, што гатовая аб'яднаць Амэрыку ў час небясьпекі. Тут закладзены вялікі патэнцыял для выжываньня і абнаўленьня краіны. Амэрыканцы, якія нават нідзе не былі акрамя Амэрыкі, перакананыя, што іхняя краіна найлепшая на сьвеце.

Але галоўнае ў тым, што амэрыканская дзяржава закладвалася на пастулатах Бібліі. Рэлігія ня ёсьць у Амэрыцы „асабістай справай", як у цяперашняй Эўропе. Гэта справа грамадзкая, патрэбная дзеля агульнага дабра. На гэтым грунтуецца і дзяржаўнае разуменьне інтарэсаў амэрыканскага грамадзтва (і ня толькі, скажам, Рэспубліканскай партыі).

Гледзячы на Заходнюю Эўропу, пакуль што не відаць, як мне здаецца, нічога, што магло б ўратаваць яе ад упадку і лібэральнага самазьнішчэньня. Лёгка паверыць, што Эўропа (Заходняя Эўропа). загіне, як некалі загінуў Рым.

Тым часам Амэрыка (эміграцкая, сацыяльна спрошчаная Амэрыка!). мае ўнутраную нераскрытую сілу, каб супрацьставіцца ўдарам лёсу.

## Падземка

Шмат дрэннага сказана пра нью-ёркскае мэтро (сабвэй). Але цяжка ўявіць, як бы Нью-Ёрк без яго існаваў. Гэта асноўны від гарадзкога транспарту велізарнага горада. Першае ўражаньне (асабліва летам). такое, быццам трапіў у бруднае, шумнае, душнае і смуродлівае пекла. Страх прапасьці, заблудзіцца і ня выбрацца на паверхню. Духата часам як мінімум градусаў 45-50 па Цэльсію, калі ня больш. Пахне пацукамі, выпарэньнямі нечыстотаў на шпалах і дэзынфэкцыйнымі рэчывамі. Праз год, два, тры неяк прывыкаеш да цуду мінулавечнай інжэнернай думкі і церпіш. Гэта ж ня Менск.

Вось з грукатам пад'язджае цягнік, і ты мокры, ліпкі, распараны ад гарачыні ўваходзіш у вагон. У вагоне градусаў 16-17, шуміць кандыцыянер, халодны ветрык. Мокрая на сьпіне кашуля становіцца халоднай, а скура на целе неўзабаве робіцца, як гусь на прылаўку. Трэба нешта апрануць, тады ехаць добра.

# Нага

Што мяне зьдзіўляе ў Нью-Ёрку, дык гэта нага. Нага як сымвал амэрыканскай свабоды і дэмакратыі.

Упершыню я ўбачыў амэрканізаваную нагу ў 1991 годзе ў міжнародным аэрапорце ў Ленінградзе. За суседнім столікам сядзела кампанія савецкіх габрэяў, што ад'язджалі ў ЗША. Адзін зь іх, тып гадоў 50-ці, удаваў з сябе бывалага чалавека і апавядаў, як можна свабодна жыць у Амэрыцы, пры гэтым крытыкаваў савецкія парадкі. Потым ён зьняў чаравік і паклаў на стол перад носам сваіх суразмоўцаў і „дам" нагу ў чорнай шкарпэтцы. Кампанія сканфузілася. Суразмоўцы зьбянтэжана пазіралі то адзін на аднаго, то на ножку „бывалага" ў шкарпэтцы (прыблізна ня больш 39-га памеру).

Ня памятаю, чым скончылася гісторыя з той „нагой" (здаецца, аб'явілі пасадку, і ўсе пайшлі), але па ўсіх правілах стандартнай нью-ёркскай дэбільнасьці, нагу трэба было плюхаць на стол (ці хоць куды). проста ў чаравіку (і пажадана адразу дзьве). Шкарпэтачка – гэта чыстаплюйства, і зусім не па-амэрыканску.

* * *

Найпапулярнейшым месцам нагапрыкладзтва ў Нью-Ёрку зьяўляецца „сабвэй". За восем гадоў язды ў „сабвэі" не было ні адной паездкі, каб я ня ўбачыў нагі. Звычайна нагу (абавязкова ў чаравіку). кладуць на суседняе сядзеньне, калі там ніхто не сядзіць. Потым, калі хто сядаў, то порткамі ці спадніцай выціраў тое, што засталося ад нагі, і сядзеньне рабілася зноў адносна чыстым (да наступнай нагі).

Некаторыя, асабліва маладыя кабеты (ці істоты з прыкметамі кабет, бо бывае па адзежы пазнаць цяжка). і афра-амэрыканцы (чорныя). кладуць адразу дзьве нагі. Пры гэтым афра-амэрыканцы дрэмлюць, а белыя што-небудзь чытаюць альбо ядуць (жуюць).

Нагу закідаюць усе: сталыя і маладыя, кабеты і дзеці, чорныя, белыя, чырвоныя, жоўтыя і шакалядныя, ахламоны і элеганты. Навошта яны гэта робяць, мне так да канца і незразумела, бо закіданьне нагі – даволі нязручная пазыцыя.

Некаторыя ўзьдзямберваюцца з абедзьвума нагамі на месца, дзе сядзяць, нібы малпы, і трываюць так нейкі час. Прытым ні касьцюм, ні гальштук, ні зьнешне прыстойны выгляд не становяцца перашкодай для маніпуляцыі нагой. Адважваюцца на крайнія нязручнасьці, каб толькі задраць нагу.

Едучы прыгарадным аўтобусам, я назіраў, як нейкі „інфантыль" гадоў пад 30 сіліўся задраць ногі ў брудных кедах на плечы папярэдняга крэсла. Гэта амаль немагчыма, бо цесна. Але праз нейкі час ён усё ж задраў ногі на крэсла наўскос у вакно. Пры гэтым „склаўся", як ножык-сьцізорык і вытрываў так некалькі мінут. Калі цярпець стала немагчыма, тып захацеў апусьціць ногі. Але аказалася, што зрабіць гэта было яшчэ цяжэй, чым задраць. Яго заклініла, і я, назіраючы камэдыю з другога канца аўтобуса, усур'ёз падумаў, ці ні зламаў ён сабе хрыбетнік. Нарэшце, суб'ект неяк выкарабкаўся, папіў вады з прывязанай бутэлькі (на матузку праз шыю), надзеў навушнікі, заплюшчыў вочы, уключыў „плэйер" і стаў ківацца. (Гэтакія „ківалы" у транспарце – звычайная зьява.)

* * *

Падсумаваўшы назіраньні, я прышоў да высновы, што задзіраньне нагі выклікана падсьведамым комплексам непаўнавартаснасьці і жаданьнем самасцьвярджэньня. Найбольш гэтая зьява назіраецца ў афра-амэрыканцаў і ў эмігрантаў усіх расаў і народаў зь невялікім „стажам", якія ўжо неяк уладкаваліся ў чужым сьвеце і хочуць прадэманстраваць сваю новую якасьць

– свабоду, тое, чаго ня мелі ў Калюмбіі, Конга, Савецкім Саюзе, Пакістане ці Бангладэш, ці тое, чаго не рабілі ў Польшчы, Славаччыне ці Адэсе.

Так што для адных задзіраньне нагі – прыкмета дзікунства і бескультур'я, а для іншых – сымвал свабоды.

## Фатаграфаваньне

Калі я прыехаў у Нью-Ёрк і паўзіраўся на ягоны стракаты сусьветны тлум, то ўзьнікла думка, што трэба здымаць гэты плянэтарны натоўп, экзотыку і тыпажы, бо горад унікальны.

Цягаць з сабой фотаапаратуру і здымаць спэцыяльна і традыцыйна было непрыймальна. Па-першае, я ня меў вольнага часу, ды й небясьпечна гэта, як аказалася. Здымаць тэлэаб'ектывам не хацеў: гэта абмяжоўвае творчыя магчымасьці. Да таго ж псіхалягічны бар'ер адлегласьці на такіх здымках неўнікнёны. Я спыніўся на кампактнай аматарскай стужкавай камэры *„Olympus"* (якая зьмяшчаецца ў далоні). з добрым шырокакутным аб'ектывам „Зуйка" 35*мм.* Яе можна было ў любы час, між іншым, у розных абставінах выняць з кішэні і зрабіць здымак. Як гэта рабіць незаўважна – справа вопыту і тэхнікі.

Спачатку вопыт і „тэхніка" мяне рэгулярна падводзілі. Маю здымку заўважалі, і я пастаянна трапляў у канфліктныя сітуацыі, зь якіх, праўда, выходзіў самастойна і, на шчасьце, без ускладненьняў.

Амаль усе непаразуменьні ўзьнікалі выключна з афра-амэрыканцамі. Аднойчы, калі я здымаў тлум наведвальнікаў у афіцыйным дзяржаўным будынку, чорны паліцэйскі, што праходзіў каля мяне мэтры за тры-чатыры, пачуў ціхі шэлест цэнтральнай заслонкі (з магнітным спускам). майго „Алімпуса". Ён рэзка павярнуўся, падскочыў і забраў у мяне фотаапарат. Прытым белая асоба, якую я здымаў наўпрост, ня чула ніякага „пстрыканьня" і нават не здагадалася, што я яе здымаю.

Выпадак, скажу, для Амэрыкі проста дзікі. І калі паліцэйскаму потым растлумачылі, што ён паступіў няправільна, то ён вярнуў мне камэру, але дзеля апраўданьня папрасіў усё ж не здымаць.

У чорных людзей, як я пераканаўся на вопыце, вельмі разьвітая інтуіцыя, пачуцьцё небясьпекі. Яны лепш рэагуюць на ўсё, што рухаецца. Чорны чалавек мог патыліцай адчуць, што яго фатаграфуюць, і здалёку вылічыць у натоўпе мае намеры. Калі я гэта зразумеў, канфлікты з чорнымі скончыліся.

Зь белымі (калі ён не з былога СССР). неякіх праблемаў (і адпаведна – ніякой „інтуіцыі" зь іхнага боку). Яны няўважлівыя, ім ня страшна, ім не прыходзіць у галаву патрабаваць грошы за здымку і г.д. А калі і заўважаць, што іх фатаграфуюць, то прыязна ўсьміхаюцца і імкнуцца паспрыяць.

Памятаю, летам у натоўпе на Брадвэі я здалёку ўбачыў экзатычнага афрыканца. Ён ішоў, як у джунглях, голы, у адной апасцы, зь якой махрамі зьвісала нейкая ці то трава, ці то ніткі (каб лічылася, што ён атрануты). На галаве ў валасах тырчэў, як шышак, нейкі сьцімбур, ці то з пер'яў, ці то з травы. Я прыпыніўся ў тлуме на другім баку скрыжаваньня, мэтраў за 40-50, і крануў фотаапарат (якраз меў тэлеаб'ектыў). У гэты час на тым баку ў людзкім віры і грукаце экзатычны тып рэзка павярнуў галаву ў мой бок, і мы сустрэліся поглядамі. „Усё. Па здымцы!" – зразумеў я, і схаваў апарат.

Такія выпадкі мяне ўражвалі. Прымусілі перайсьці выключна на міні-камэру. Але й тут патрэбна была свая „школа", бо шырокакутнікам людзей можна было здымаць толькі зблізку, будучы непасрэдна перад чалавекам.

* * *

Мяне, аднак, не захапляла здымка ў Нью-Ёрку. Сьвет гэтага натоўпу прымітыўны і бездухоўны. Цікавыя толькі тыпажы. Адрывацца ад палітыкі і творча ўнікаць у эстэтычныя праблемы гэтага грамадзтва, каб выяўляць ягоныя глыбейшыя пласты, я не зьбіраўся. Я ня бачыў там ідэалаў. Гэта ня мой клопат у той час, калі руйнавалі маю Радзіму.

Вершы таксама не пісаліся. Ня мог зьняць напружаньня, спыніцца, адыйсьці ад руціннай палітычнай працы. Ратавала Вільня, дарагая Бацькаўшчына, якая цяпер ня наша. Але (іронія). толькі таму, што „ўжо ня наша", я мог туды прыязджаць, як некалі, хоць дзень, хоць два падыхаць яе паветрам, паглядзець на Вяльлю, пастаяць на Лукішскім пляцы.

*О, Вільня!* Незабыўная дарога з Варшавы ў горад гарадоў. Паўтысячы кілёмэтраў праз былую Беларусь!

Я здымаў гэтую дарогу ў колеры, шматкроць, я адчуваў яе схаваны ідэал і моцную красу. Мне хацелася выявіць яе душу, яе адчуваньне ў маім сэрцы, бо гэта была цяпер мая адзіная *дарога на Бацькаўшчыну*, у мілую Вільню, туды, дзе даўно ўжо мяне не чакаюць. І толькі ў памяці маёй былы твой вобраз дарагі.

* * *

У маладосьці мяне ўразіў Ёзэф Судэк, ясабліва яго чароўныя, незабыўныя фатаграфіі з вакна сваёй майстэрні, якія ён рабіў усё жыцьцё. Вакно, двор, сад – адзінае дрэва. І ў гэтым – увесь сьвет.

Успамінаюцца словы кітайскага мудраца аб тым, што думаючы і прыглядаючыся, можна пазнаць сьвет, не выходзячы са двара. І праўда. Вялікі фатограф Судэк адкрыў гэты вечны і зьменьлівы Боскі сьвет красы, гледзячы толькі ў вакно, не выходзячы нават з дому.

* * *

Крыху пазьней я адкрыў для сябе ў архівах сапраўднага Яна Булгака, перагледзеў (і перазьняў). тысячы ягоных фатаграфіяў, перагартаў сотні фатаграфічных і ілюстраваных часопісаў, шукаючы ягоныя артыкулы і працы. Мой душэўны стан пасьля ўсяго ўбачанага – аняменьне. Які талент, які вялікі беларускі майстра! Тады я зразумеў, што гэтак зьвязвала двух вялікіх мастакоў і неразлучных сяброў – Яна Булгака і Фэрдынанда Рушчыца – адзіны эстэтычны погляд на свой край, на Віленшчыну, на Беларусь. Булгак быў гарачым краёвым патрыётам Беларусі.

Мяне ўразіла таксама працадайнасьць Булгака. Столькі зрабіць. У перадваеннай Эўропе, нават ня ведаю, каго з фатографаў можна паставіць побач з Булгакам. Зрэшты, ня ў гэтым справа і ня ў гэтым дзіва. Справа ў тым, што няма на Беларусі цяпер ні Саюзу фатографаў, ні фатаграфічных часопісаў, ні прафэсійных ведаў пра фатаграфію, ні мастацкіх вучэльняў, ні факультэтаў, ні культурных уяўленьняў пра фотамастацтва. Калі што й вырастае самадзейна, то як трава пры дарозе, ды й то, у асноўным, пры фотажурналістыцы ды рэпарцёрстве.

Усё трэба будзе пачынаць спачатку ў нашай дарагой Бацькаўшчыне. Толькі жыць не пачнеш спачатку...

* * *

Ёзэф Судэк і Ян Булгак мне найбольш да душы. Хаця ў сьвеце часьцей узносяць і шануюць шмат якіх іншых фатографаў, якія здолелі творча выказацца рэальнымі сродкамі фатаграфіі. І гэта праўда (ня буду пералічваць прозьвішчы). І вялікі чэх, і вялікі беларус – прадстаўнікі клясычнай фатаграфіі, глядзяць на сьвет яшчэ ў значнай ступені вачыма мастака-жывапісца (сьвятлапісца). і здаюцца занадта традыцыйнымі. Але дух таленту і высокай культуры ўздымае іх над усім.

Разьвіцьцё фатаграфічнай тэхнікі і наватарскіх эстэтычных ідэй моцна паўплывала на выяўленчую вобразнасьць і эстэтыку фатаграфіі. Пазыцыя дамінуючага фатаграфічнага авангарду ў гэты час – далей ад Булгака, далей ад клясыкі. Некаторыя адышлі так далёка, што заблудзіліся, адарваліся ад зямлі, павісьлі ў паветры ў рацыянальных схемах.

Але да савецкай Беларусі гэта ня мела дачыненьня. У фотамастацтве стаяла тут ціхая Варфаламееўская ноч...

* * *

„Што было, што будзе, чым сэрца супакоіш...” – пагадай, цыганка, мне. Але лепш ты памаўчы. Сэрца спакоіцца Беларусяй. І ўсё, што нагадвае яе, – шчыміць. Часам бачу яе ў варшаўскіх вішнях, у ружовым квеце яблынь, у скручаным чырвоным зьмерзлым лісьці... І лістоўніца тут чужая шуміць, як там, далёка, пад маім вакном. І бруклінскія вераб’і, нібы ў юнацтве, пад дзедаўскай страхой.

Можна і не выходзіць з двара. Але ж трэба мне езьдзіць па сьвеце. Неяк само сабой з году ў год па адной і той жа сьцежцы, не аддаляючыся і на сто мэтраў ад часовага дому, пачаў я пакрысе па дарозе, па ходу з выходу фатаграфаваць то апалы ліпы цьвет, то на парозе ліст кляновы, то летні дождж у шыбах за чужым вакном, як быццам ён на Беларусі... Але гэта не Беларусь.

*2004 г.*

*74. Вечар на „Гаўстан стрыт”. 1999 г.*





*76. Манхэттан. „Парк-Эвэню”. 1999 г.*





*78. „Брадвэй". Дажджлівы дзень. 2004 г.*



*79. Туманны дзень на „Парк-Эвэню”. 2000 г.*




*81. Манхэттан. „42-я вуліца”. Дажджлівая раніца 2000 г.*




*82. „Брадвэй” у суботні дзень. 2004 г.*



*83. Манхэттан. Раён „Сохо”. 2000 г.*



*84. У галерэі на „Сохо”.*



*85. Аблічча кітайкі. 2000 г. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”).*



*86. Кітайцы на вуліцы 2000 г.*



*87. Кітайская работніца. 1997 г.*








*88. Жанчына выпускае з роту дым. 1998 г. (З цыклу „Тыпы на вуліцах").*
*89. Місьсіс у чорным капелюшы. 1998 г.*
*90. „Крэйзі" з суседняй вуліцы. 1998 г.*







*91. Прадаўшчыца афрыканскай скульптуры. 2000 г. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”).*
*92. Прадаўшчыца падушак. 2000 г. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”).*
*93. Прадаўшчыца біжутэрыі на вуліцы. 1998 г.*









*94. „Пільгрым” (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1999 г.*
*95. Нью-Ёркская прыгажуня (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1996 г.*
*96. „Арыгінал”. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1997 г.*
*97. Адчыненыя дзьверы рэстарана. 1998 г.*



*98. „Дартаньян". (З цыклу „Тыпы на вуліцах"). 1999 г.*




*99. „Міс Кантры" (З цыклу „Тыпы на вуліцах"). 2004 г.*




*100. Тып у лацінскім квартале (З цыклу „Тыпы на вуліцах"). 2005 г.*



*101. Апушчаная кабета з кока-колай.*
*(З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1999 г.*



*102. Бяздомны якому холадна.*
*(З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1998 г.*




103. *Паліцэйскі (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 2004 г.*



104. *Нью-Ёркская парачка. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1996 г.*






*105. Рэкляма – аблічча хворай цывілізацыі. Брадвэй. 2004 г.*
*106. „Ахвяра свабоды". (З серыі „Нага"). 2000 г.*
*107. „Салён хараства". Від праз вакно. 2000 г.*



*108. Напалову апранутая кабета ідзе па вуліцы. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1996 г.*



*109. Жанчына вышла на вуліцу ў трусах і мужчынскай кашулі і дрыжыць ад холаду. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1996 г.*



*110. Жанчына без спадніцы чытае тэлефонную кнігу. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1996 г.*



*111. Вечар. Бабулька вышла пагуляць. (З цыклу „Тыпы на вуліцах”). 1996 г.*



*112. Жанчына ў вагоне мэтро закідвае нагу на сядзеньне. (З серыі „Нага”). 1997 г.*



*113. Чорная кабета ў вагоне мэтро. (З серыі „Нага”). 1997 г.*




*114. Мужчына з газэтай у вагоне мэтро. (З серыі „Нага”). 1998 г.*




*115. Мужчына ў акулярах у вагоне мэтро. (З серыі „Нага”). 2000 г.*



*116. Жанчына з торбай чытае ў вагоне мэтро. (З серыі „Нага”). 2000 г.*




*117. Віртуоз нагі. (З серыі „Нага”). 2003 г.*



*118. У вагоне. (З серыі „Нага”). 2000 г.*

# Бруклін

## Іду па Брукліне

Вецер сьмецьце ганяе
па нейкай стрыт.
Качае бляшанку,
Бразгоча па стыках бэтонных пліт.

*2002 г.*

*119. „Кінгс-хайвэй”. 2004 г.*






*120. „Брайтан-біч эвэню” (1).*

## „Брайтан”*

Быццам труна чыгунная,
Вісьне сабвэй**
                над галовамі.
Праз грукотную эстакаду
Сыпецца дождж,
                нібы соль.

* Брайтан-біч, праспэкт у Брукліне, дзе жывуць габрэі (жыхары Адэсы), выхадцы з СССР
** Мэтро ў Нью-Ёрку




*121. „Брайтан-біч эвэню" (2). Фота 1996 г.*



122. „Кніжнік". (З сэрыі „Тыпы Брукліна"). 2006 г.



*123. Лацінскі квартал. Жаніх пасьля ўзяцьця шлюбу ў касьцёле садзіць маладую ў машыну. 1997 г.*

* * *

Задрыжэла сьвітаньне –
Дажджлівыя хмары.
Над горадам шэрым
чайкі лятуць.

## Бедны квартал

Магнолія цьвіце.
Закопчаныя сьцены.
Гарэлы пах
з кухоннага вакна.

*2002 г.*

## Гляджу зьверху на лісьце дрэў

За ружовым вакном
між дамоў
Платаны шумяць.
Ветрык з акіяна.

*2002 г.*

## На беразе Манхэттан-Біч

Як ім хочацца жыць,
Гэтым старцам на пляжы.
Колькі яны ядуць.
Разводзяць рукамі
І робяць глыбокі ўдых.
Толькі нейкі індус у цюрбане
Нерухома глядзіць ў акіян
За блакітны прастор вады.

*2002 г.*

* * *

Зімовая вішня
Ростам ня вышла.
Эх, скора як пышна яна зацьвіце!

## Гандляр за прылаўкам

З году ў год
адно і тое ж:
Грошы – тавар,
Тавар – грошы.

*2002 г.*

* * *

Пайшоў бы хоць у акіян, памыўся.
Гэй, ты, замшэлы бадзяга!

*2002 г.*

## Пяшчаны бераг акіяна

Вецер марозны гуляе пяском.
Шэрыя альбатросы
нерухома глядзяць
На зімовага сонца заход.

*2002 г.*

## У Брукліне на Новы год

А шпакі дык і не адляталі.
Сьпяваюць, нібы вясной.
Быццам далёка-далёка,
Удалечыні,
За сьцюдзёным морам.

*2002 г.*

* * *

Суквецьце сакуры насякла дажджом,
Як водарасьць пад вадой.
Аж згінаецца гольле на дол.

*2002 г.*

## На беразе акіяна

Цэлы дзень сядзіць на пáлі
І глядзіць у далячынь
Пегі-шэры, нерухомы
Адзінокі альбатрос.
Дзе радзіма твая, птушка?

*2002 г., Нью-Ёрк*



# Кола

## Галактыка
## Птушыны Шлях

Зімой над Беларусьсю
Птушыны Шлях мігціцца.
Гэй вы, зоры, птушкі-херувімы,
А ці доўга нам яшчэ?
Ці доўга нам ляцець?

*2002 г.*



## Вясновае неба-2

Месячка рог,
Мілавіцы серп
Спаткаліся ў небе начным.
Вось і вясна.

*2001 г.*

## Лета

Якая годнасьць!
Ліпа зацьвіла.
І пах мядовы
ў вакне.

*2001 г.*

## Зорнае неба

Па небе разьлёгся
Птушыны Шлях.
Колькі разоў трэба
вярнуцца птушкам,
Каб зьмяніліся зоры?

*2002 г.*

## Капаю Курапацкі дол

Праз бярозавы шум
У магіле расстрэльнай
Пачуў я, як птушкі пяюць.
Зірнуў у гару:
Як добра жывым.

*2002 г.*

## Усьмешка Джаконды

Людзі, што пакланяліся зорам,
Былі бязьлітаснымі.
Зьледзянела
ўсьміхаецца
Сфінкс.

*2002 г.*



*126. Помнік у Саўт-Рывэры. 2004 г.*

* * *

Памёр сябра.
І ўсё мінулае
адышло разам зь ім.
Але Месяц той самы сьвеціць.

*2002 г.*

## Думаючы пра сяброў, што ўжо не жывуць, напісаў

Паступова сьвет
Насяляецца новымі людзьмі,
І мы зыходзім.

*2004 г.*

* * *

Бабуля пайшла назаўсёды.
Засталася яе качарэжка
Адна ў куточку.

* * *

Вакол жахлівы чорны Космас,
А на Зямлі – такое хараство.

* * *

Вестка прышла:
Мой сябра ўжо не жыве.
Як я сьпяшаю.

*2002 г.*

## Творцы

Нават малы творца
Можа стаць геніям для сьвету
У вялікага народа.
І нават геній сьвету
Будзе нікім
у народа слабога.
Бо вялікімі не нараджаюцца.
Вялікімі робяцца,
Калі народ хоча вялікіх.

* * *

Для адных творчасьць – трыюмф.
Для іншых – місія,
Пакуты і забыцьцё,
Калі акіян робіцца кропляй.
Бо ня можа гаршчок
умясьціць акіян.

* * *

Але творцы робяць народ несьмяротным.
Так замыкаецца вечнае кола часу
І разрываецца кола пакут.

*2002 г.*

## Эцюд прасторы

Белы сьвет без краёў –
Завіруха ў полі незнаёмым.
Не спыняйся! Трэба толькі ісьці.

*2002 г.*

## Красавік на Падляшшы

Колькі год я ня бачыў латацяў.
Ля спалай вады
Вярнулася мне Айчына.

*2001 г., Беласток*





# Вечныя каштоўнасьці

## Бог

Як добра, што ёсьць Бог.
І ў найсамотнейшай трывозе
ты не адзін –
Жыве Надзея.

* * *

Як добра ў Бога верыць.
Тады і здрада не заб’е,
І найагіднейшы паклёп
душы ня зломіць,
Бо справядлівасьць ёсьць.

* * *

Як добра, што ёсьць Бог,
Бо вечнасьць.

*2003 г. (З цыклу „Бог”).*

## Любоў

У чым сіла любові,
Калі нянавісьць нішчыць?
Любоў – ня мае страху.
І таму найвышэйшая любоў – да Бога,
Бо жыве ў вечнасьці.

*2004 г.*

## Простыя разважаньні

Адукацыя яшчэ не дае розуму.
Як вучонасьць – мудрасьці.
Аднак дабрыня вышэй за мудрасьць,
Бо дадзена Богам.
Але нават гэта
Як жа цяжка зразумець мудрэйшым.

* * *

Гэта страчаныя людзі.
Не імкнуцца да праўды.
Ня хочуць красы.

*2002 г.*

## Сэнс

Жыцьцё набывае зьмест,
Калі нехта цябе палюбіць.
Яно напаўняецца сэнсам,
Калі палюбіш ты.

*2001 г.*

* * *

Калі цёмна ў душы,
То ці трэба пра гэта пісаць,
Каб і ўсім было цёмна.

*2002 г.*

## Ліст сябру

Калі пішу пра сябе –
Ня думай, што мне
Не хапае ўвагі.
Проста я адчуваю,
Што мае перажываньні
Могуць спатрэбіцца іншым.
Бо ёсьць сэрцы падобныя
І ўсё, што маё,
са мной.

*2001 г.*

* * *

Проста жыць, калі ўсё, што тваё, з табой.
Але калі поўна вакол не твайго,
То жыць ня проста.

*2002 г.*

* * *

Калі пераваліць за палову,
То разумееш, чаго не пасьпеў.
Вось і хочацца – рэшту пасьпець.

*2002 г.*

## Дачцы

У Дзень Хрыстовы
Верабейка
Хай табе ў ваконца гляне,
Хай салоўка прасьпявае
У сьвяточным добрым сьне.

Сьнег пушысты атуляе
Сьвет калядны, дом часовы
Гольле, клёны за вакном.

Потым, некалі, далёка
У краіне нашай сьветлай
Мы ўспомнім усё, што лепей:
Сьнег Калядны, Дзень Хрыстовы
(Пан Жураўскі, мёд Букальскі)
Клёны, вокны, наш балькон.

Уся наперадзе дарога.
Хто сумуе, а мы – не.
Зорка ясна Бэтлеемска
Хай нам сьвеціць у вакне.

*2001 г.*

## Нараджэньне Хрыстова.

Сёньня Раство.
Цішыня.
І адзінокі сьнег.

*2001 г.*

## Прыкмета

Наперадзе – мала харошага:
Зьявілася шмат людзей,
Што жывуць нянавісьцю.

*2001 г.*

## Тэлевізар

Іх часта паказваюць.
Але гэта вельмі дрэнныя людзі.
Бо ў паскудстве
шукаюць красу.

*2001 г.*

## Выхадцы

Не абзывайце народ –
Ён лепшы за вас.
О, вы, такія разумныя.

## Марнае поле

Пустэча.
Хоць пакаці шаром.
Дзе нашыя адраджэнцы?
Гэты? Ці, можа, той?
Яны ж нават не разумеюць па-беларуску.

*2001 г.*

## Некалі ў вандроўцы

Мястэчка. Вуліцы без людзей.
Зайшоў на могілкі,
Думаючы пра прычыну.
І ўсплыло з чытанага:
Калі выгасае памяць,
Магілы зарастаюць
Травой бяспамяцтва.

*2002 г.*

* * *

Толькі ня плач.
Змагаймася за адно.

* * *

Твая ахвярнасьць –
дар Божы,
Апора мая. Маці.
Які ж пакутлівы твой лёс!

*2001 г.*

* * *

Запалілася зорка ў цемнаце.
Не азірайся, бо страціш.

* * *

Паміраюць сябры.
А я ўсё пра будучыню Беларусі мару,
Як некалі.

*2002 г.*

* * *

Там, дзе жыве памяць,
Там ёсьць будучыня.

*2004 г.*



## Голас

Абляцела пад ветрам
асеньняе лісьце:
„Сьпяшайся!” –
шапнула ў прастор.
Азірнуўся: бяроза шуміць.

*2002 г.*

# Душа

* * *

Найлепей, калі чыста, сьветла і прыгожа.
Гэтага трэба трымацца,
Каб палепшыць душу.



*131. Катэдральны сабор у Вашынгтоне. Левы нэф. 2001 г.*

* * *

Ёсьць сэнс жыцьця.
І радасьць быцьця – ёсьць.
Але сапраўдную радасьць быцьця
Дасягаеш тады,
Калі знаходзіш сэнс.

## Сталасьць

З гадамі
Адчыняецца
Сутнасьць зьяў.

*2001 г.*

## Шчасьце

*Кожны народ мае сваё ўяўленьне пра шчасьце. Для беларусаў шчасьце – гэта добра ажаніцца, добра з жонкай жыць і радвацца зь дзяцей. Разважаючы, я напісаў:*

Шчасьце – гэта сьветлы спакой душы.
Сапраўднае шчасьце магчымае толькі разам.
Добра – з сям'ёй.
Хораша – з народам.
Найвялікшае шчасьце – з Богам.

*2000 г.*

## Душа

Бог ёсьць любоў.
А любоў ёсьць злучэньне душ.

* * *

Сьвятло паэзіі – гэта тады,
Калі трэба заглыбіцца ў сваю душу
І ўбачыць сьветласьць.

* * *

Ёсьць людзі,
Што цікавяцца ўсім на сьвеце.
Не цікавяцца толькі сваёй душой.

* * *

Што ёсьць даражэйшае за жыцьцё?
Найдаражэйшая ёсьць свая душа.

* * *

Жыцьцё можна аддаць за другі свая.
Але ні завошта няможна аддаць душу,
Акрамя любові.

*2002 г.*

## Нічога

Самае страшнае – гэта Нічога:
Цемра і пустата, Космас недасягальны.
І толькі Вера ратуе душу,
Калі пасяляецца ў ёй Бог.

## Пішу на чужыне

Недзе там, далёка,
У мяне яшчэ ёсьць
Мая горка і клён.
А ў цябе ўжо няма,
                    чарнобылец.
Што ўсьцешыць
                    тваю душу?!

*2002 г.*

* * *

Так і хочацца крыкнуць:
Божа, Вялікі і Моцны!
Чую, як сіла Твая
мяне беражэ.

## Хворая малпа

Ідучы каля клеткі,
Я сустрэўся позіркам
з маленькай малпай.
Які ж гэта боль
у яе вачах!

*2002 г.*

## Чужына

А сам сабе кажу:
Ды не зважай ты
На баленьне сваёй душы.

* * *

Чалавек, які жыве толькі патрэбамі,
Не шукаючы Духа, –
Няўдзячны.
Бо ўсё яму дадзена Богам.

* * *

Таямніцу – трымай.
Не ўтрымаеш – спустошыш душу.

*2000 г.*

* * *

Як добра – душэўны спакой!





# Напісанае адчыніў

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Пасьвішчы статкамі авечак апранаюцца, і даліны атулены жытам; і радасна міжы сабой гукаюць і песьні пяюць”. (Псальмы, 65; 14). І тады я сабе напісаў:*

Боскі Дух разьліты ў прыродзе
І сьведчыцца праз красу.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Гэтак чалавек павінен разумець нас, як служак Хрыстовых і аканомаў таямніц Божых;" (Перш. пасл. Паўлы да Карын., 4; 1). Тады я сабе напісаў:*

Хто служыць цёмнаму народу,
Той рана ці позна
Ім будзе забіты,
Вучэньне яго растаптана.
Таму стацца служэньнем павінна – асьвета.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І звольніў ім пасаджанага за бунт і забойства ў вязьніцу, каго яны прасілі, а Ісуса выдаў на іх волю". (Лук., 23; 25). Тады я сабе запісаў:*

Натоўп ня мае ні розуму, ні справядлівасьці.
Але народ – самаарганізуецца.
Мяжа паміж народам і натоўпам
Ёсьць падзел між нянавісьцю і любовяй.

*2004 г.*

* * *

*Слухаючы пра дэмакратыю, адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Яны суляць ім свабоду, а самы яны – рабы тленьня, бо хто кім параможаны, той таму і раб". (Др. пас. Пётры, 2; 19). І тады я падумаў:*

Як розьняцца людзі:
Нехта вольны ў ланцугах,
Іншы – і на царстве раб.

*2003 г.*



*134. „Маці Божая Беластоцкая" (Аматарская копія. Праваслаўны сабор у Беластоку). 2000 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Будзьце гасьціннымі адны да адных без нараканьняў". (Перш. пасл. Пётры, 4; 9).*

І ўспомніў я шляхту беларускую,
Гасьціннасьць яе,
Мілы сэрцу Каўказ.
Гэй вы, свабодныя,
Хто б з вас прытуліў
Марыю з Іосіфам?

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „якое ня ёсьць іншае, а толькі ёсьць такія, што вас трывожаць і хочуць перавярнуць Эвангельле Хрыстовае”. (Пасл. Паўлы да Галятаў, 1; 7). Тады я сабе напісаў:*

Колькі стаіць сьвет,
Заўсёды знаходзяцца дзівакі,
Што хочуць быць мудрэй за Бога.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І народы збаўленых хадзіцьмуць у сьвятле Ягоным, і цары зямныя прынясуць у Яго славу і чэсьць сваю”. (Адкр. Яна Багасл., 21; 24). Тады я падумаў:*

Гэты сьвет
Нягоднікам робіць славу і ганарыцца.
Але сапраўдную славу народам
Робяць справядлівыя людзі,
Моцныя Боскім Духам.

*2004 г.*

## Сьвечка

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Ніхто, запаліўшы сьвечку, не прыкрывае яе пасудзінай, альбо не стаўляе пад ложак, але ставіць на ліхтар, каб уваходзячы, бачылі сьвятло”. (Лук., 8; 16). Тады я напісаў:*

Ёсьць шчырыя людзі на сьвеце,
Малога духу,
Што палохаюцца добрых думак,
Каб за іх не цярпець,
І сьвечку запаліўшы,
Хаваюць пад стол,
Каб ніхто ня ўбачыў.
Нікчэмнае жыцьцё такіх людзей.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Ён сказаў: вам дадзена знаць тайны Царства Божага, а для рэшты яны ў прыпавесьцях, так што яны бачучы ня бачаць і чуючы не разумеюць”. (Лук., 8; 10). Тады я запісаў для сябе:*

Ня можна, каб усе
веҷалі ўсё.
Бо калі веды дарма –
пад ногі кінуць.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Калі ж хто аб сваіх, а асабліва аб хатніх не клапоціцца, той адрокся ад веры і горш за няевернага”. (Перш. Пасл. Паўлы Цім., 5; 8).*

І ўспомніў я словы сябра:
Калі хто жонцы здраджвае,
Той і Радзіме здрадзіць.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Бо нямашака шчырасьці ў вуснах іхных; іх сэрца – распуста; горла іх – магіла расчыненая; язык у іх – падлыжны”. (Псальмы, 5; 10). І думаю я:*

Што сёньня, што ўчора, што заўтра –
Не мяняецца злога стварэньня дно.
Але добрыя людзі ёсьць.

*2003 г*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Ці гаворыць хто з вас – гавары, як словы Божыя; ці служыць хто – служы па сіле, якую дае Бог, каб у ва ўсім славіўся Бог праз Ісуса Хрыста, якому слава і сіла на векі вякоў. Аман.” (Перш. пасл. Пётры, 4; 11). Тады я падумаў сабе:*

Сэнс жыцьця ў вышэйшым Духу.
Калі апусьцішся на дно –
То там і застанешся.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад, дзе напісана: „Але калі б вы й пацярпелі за праўду, дык вы шчасьлівыя. А страху іх ня бойцеся і не трывожцеся”. (Перш. Пас. Пётры, 3; 14). Тады я сабе напісаў:*

Добра думаць пра вечнасьць
І шчасьце быцьця.
Але мала хто мог
Для яго пацярпець.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „А іншае ўпала на добрую зямлю і, узышоўшы, прынесла плод стакротны. Сказаўшы гэтае, усклікнуў: Хто мае вушы слухаць, няхай слухае”. (Лук., 8; 8).*

І зразумеў я проста:
Стакроць стакроцяў
Трэба сеяць плод стакротны.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „А на камені, гэта тыя, што калі пачуюць слова, дык з радасьцяй прымаюць, ды ня маюць караня і часова вераць, а ў час спакусы адпадаюць”. (Лук., 8; 13). Тады я падумаў:*

Сьведамасьць без караня
Плодзіць тлумы папулістаў,
Бо ўсе яны адарваліся ад зямлі.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „І калі станеце на малітве, даруйце, калі што маеце на каго,каб і Айцец ваш, што ў нябёсах, дараваў вам грахі вашыя”. (Марк, 11; 25). Тады я падумаў:*

Ці варта ў бакі кідацца,
Калі наперадзе
Шырокі і сьветлы шлях.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „А хто мае дастатак у сьвеце, але бачучы брата свайго ў патрэбе, зачыняе ад яго сэрца сваё, – дык як прабывае ў ім любоў Божая?” (Перш. Пас. Яна, 3; 17). І тады я сабе напісаў:*

Найвялікшы дастатак – сэрца,
Калі іншым умееш яго адчыніць.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Пілат спытаўся ў Яго: Ты цар юдэйскі? Ён сказаў яму ў адказ: ты кажаш”. (Лук., 23; 3). І думаў я над зьместам мовы:*

У слове – сэнс.
Але як лёгка яго страціць,
Разьвеяць у лавіне слоў.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „ І імя зоркі чытаецца Палын; і траціна водаў ператварылася ў палын, і шмат людзей памерла ад тых водаў, бо прагорклі”. (Адкр. Яна Багасл., 8; 11). І тады я падумаў:*

Лёс наш напісаны
ў Кнізе Часу.
Але ж час праміне.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „А маладых удоў не прымай, бо яны, разласаваўшыся насупраць Хрысту, хочуць замуж”. (Перш. Пасл. Паўлы да Цім., 5; 11).*

О, так (падумаў я ўсьмехам).
Пусьці ў агарод –
Шмат шкоды наробіць
Гульлівая баба
У справе сур’ёзнай.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Тады вучні зразумелі, што ён гаварыў ім пра Яна Хрысьціцеля” (Мац., 17; 13). Я падумаў:*

Няма працягу без пачатку,
І няма зьявы без папярэдніка.
І ў гэтым ёсьць зьмест гісторыі.

*2003 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Хто ў Сына Божага веруе, мае пасьведчаньне ў самым сабе; хто ня верыць Богу, той ілжывым зрабіў Яго, бо ня ўверваў у пасьведчаньне, якім Бог засьведчыў аб Сыне Сваім”. (Перш. Пасл. Яна, 5; 10). Тады я падумаў:*

Не шукайма прычыны ў іншых
Псаваньня і гневу свайго.
Яна росьціцца ў нас самых.

*2003 г.*

## Прысутнасьць Бога

*Аднойчы, ня вытрымаўшы халоднай чужой чужыны, я разгневаўся на жонку. І стала ёй дрэнна ў халоднай чужой старане. Адчыняю Эвангельле наўгад і ў скрусе раптам чытаю: „Дзеткі! Няхай ніхто вас ня зводзіць. Хто робіць праўду, той праведны, як і Ён праведны”. (Перш. пасл. Яна, 3; 7). І зразумеў я:*

Чалавек не адзінокі,
Бо ёсьць Бог.

*2003 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „і чаго ні папросім, дастанем ад Яго, бо выпаўняем запаведзі Яго і робім добрае перад абліччам Ягоным”. (Перш. пасл. Яна, 3; 22). Тады я падумаў:*

Змаганьне без дабра – разбурэньне.
І таму імкнецца цемра
Зрабіць зло – дабром.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Ціту, праўдзіваму сыну па супольнай веры: ласка, міласьць, мір ад Бога Айца і Госпада Ісуса Хрыста, Збавіцеля нашага”. (Пасл. Паўлы да Ціта, 1; 4). Тады я падумаў сабе:*

Калі хочаш пазнаць чалавека,
Паглядзі на ягоных дзяцей
І шмат зразумееш.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І кожны, хто мае гэту надзею на Яго, ачышчае сябе, бо Ён чысты” (Перш. пасл. Яна, 3; 3). Тады я падумаў сабе:*

Людзі – малыя без ідэалаў.
Але бяз Бога – марныя ідэалы.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „У справах чалавечых, паводле слова вуснаў Тваіх, я высьцерагаўся шляхоў гнібіцеляў”. (Псальмы, 17; 4).*

І падумаў я пра справядлівых.
Любоў і нянавісьць пажнуць да канца.
Бо нават Хрыста ўкрыжавалі.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Як і вы некалі былі непаслухмянымі, а цяпер памілаваныя праз непаслухмянасьць іхнюю”. (Пасл. Паўлы да Рым., 11; 30). Тады я сабе напісаў:*

Літасьць – праява велічнага духа.
Яна дае шанс вечнасьці.
Але ня можа быць міласэрдзя
Без справядлівасьці.
Інакш яно прывяло б
Да апраўданьня зла.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І пазнаеце праўду і праўда зробіць вас вольнымі". (Ян, 8; 32). Тады я падумаў сабе:*

Праўда – адна.
Але шмат хто марнуе жыццё
На пазнаньне мноства праўдаў.

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Я расцярушыў іх, як той пыл пад вакном; як балота вулічнае, таптаў я іх". (Псальмы, 18; 43). Тады я сабе напісаў:*

О, паэзія!
Толькі хто расцярушыць
ворагаў нашых?

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Дзеткі мае! Будзем любіць ня словам ці языком, але дзелам і праўдаю!" (Перш. пасл. Яна, 3; 18). Тады я падумаў:*

Любоў не чакае ўзнагароды.
Бо нават без узаемнасьці
Прыходзіць ад Бога.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Мы ведаем, што кожын, хто народжаны ад Бога, не грашыць; а народжаны ад Бога захоўвае сябе, і ліхі не зачэпіць яго". (Перш. пасл. Яна, 5; 18). Тады я падумаў сабе:*

Рызыка без патрэбы –
Ня Боская справа.
Але ратуючыся,
Чалавек аддае сябе
Волі Божай.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Каб і далей вас навучаць Эвангельля, а не хваліцца прыгатаваным чужой меркай”. (Др. пасл. Паўлы да Карын., 10; 16). Тады я сабе напісаў:*

Лепш моўчкі жыць па мудрасьці,
Чым хваліцца начытаным.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „І як зьняло чацьвёртую пячаць, пачуў я голас чацьвёртае жывёлы мовячы: Ідзі ды глядзі”. (Адкр. Яна Багасл., 6; 7). Тады я сабе напісаў:*

І ўбачыў я тут сьвет сучасны,
Разбэшчаны і самадавольны,
І пекла йдзе за ім.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І затрубіў першы Анёл, і стаўся град і агонь, зьмешаныя з крывёю, і выпалі на зямлю; і траціна дрэваў згарэла, і ўся трава зялёная выгарэла”. (Адкр. Яна Багасл., 8; 7). Тады я падумаў сабе:*

Нашае – гэта тое, што з намі было.
Маючы мінулае – спаткаем будучыню,
Якая для Бога таксама ўжо была.

*2004 г.*

## Уяўленьні

*Простая думка, якая ўражвае найбольш – гэта тое, што калі б ляцець хутчэй сьвятла, можна дагнаць сваё мінулае. А гэта значыць, што нічога няма немагчымага ў Бога. Думаючы гэтак, сабе запісаў:*

У адну ваду ступаеш бясконца.
Вечны паўтор.
Але пражываеш жыцьцё – аднойчы.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Бо калі сэрца нас асуджае, дык тым болей Бог, бо Бог большы за сэрца нашае і ведае ўсё". (Перш. пасл. Яна, 3; 20). Тады я сабе запісаў:*

Толькі праз сэрца
Ёсьць сувязь з Богам.
І ў сэрцы – Бог.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І прыходзіць за ім Сымон Пётр і ўваходзіць у магілу ды бачыць: ляжыць адна палатніна". (Ян, 20; 6). Тады я падумаў:*

Надпрыродная зьява
Можа толькі ўмацаваць веру,
Але ня даць яе.
Бо вера жыве ў душы.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „слова здаровае, беззаганнае, каб супраціўнік быў асаромлены, ня маючы нічога благога сказаць аб нас". (Пасл. Паўлы да Ціта, 2; 8). Тады я сабе напісаў:*

Пра важнае
                    цяжка сказаць адно слова
І лёгка – шмат.
Але вага аднаго
                    можа пераважыць мноства.

*2004 г.*



*135. Нясьвіж. Абраз з галоўнага алтара ў фарным касьцёле. Фота 1964 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Тады сказаў Ісус увераваўшым у Яго жыдам: калі застанецеся ў слове Маім, дык запраўды вы вучні Мае". (Ян, 8; 31). Тады я сабе напісаў:*

Сын Божы прышоў да тых,
Хто верыў і чакаў.
Які сэнс быў прыходзіць да іншых?

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „а калі ходзім у сьвятле, як Ён у сьвятле, дык маем лучнасьць міжы сабою, і кроў Ісуса Хрыста, сына Ягонага, ачышчае нас ад усялякага граху". (Перш. пасл. Яна, 1; 7). І тады я ўспомніў:*

„Будзь добрай думкі," – сказала маці.
А гэта ж і ёсьць – хадзіць у сьвятле.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І усякі, хто мае гэту надзею на Яго, ачышчае сябе, бо Ён чысты". (Перш. пасл. Яна, 3; 3). Тады я падумаў:*

Маючы дрэнныя жаданьні,
Ніколі не адчуеш прысутнасьць Бога.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І глянуў я, і вось Ягня стаіць на гары Сыёне, і за ім сто сорак чатыры тысячы, якія маюць імя Айца Ягонага, напісанае на лобе іх". (Адкр. Яна Багасл., 14; 1). Тады я падумаў:*

Пажыўшы, убачыш:
Напісана ўсё у людзей на ілбе,
Толькі цяжка чытаць у самога сябе.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Фарысеі ж, вышаўшы, змаўляліся проці Яго, як бы загубіць Яго. Але Ісус, ведаючы, пайшоў адтуль". (Мац., 12; 14). Тады я падумаў:*

Зло трэба абходзіць
Дзеля вялікай мэты,
Каб перамагчы зло.

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Бо сабакі абступілі мяне, грамада злачынцаў аблягае мяне; пракалолі яны рукі й стопы мае". (Псальмы, 23; 17). І тады я сабе напісаў:*

Перад зграяй галоўна ня ўпасьць.
Бо тады, як ад голаду конь, –
Не падняцца.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „бо лепей бы ім не пазнаць шляху праўды, чым, пазнаўшы, адвярнуцца ад перададзенае ім сьвятое запаведзі". (Др. пасл. Пётры, 2; 21). Тады я сабе запісаў:*

Дрэннаму ўсюды дрэнна.
І нават пазнаньне дабра
Можа стаць горам
Для кепскага чалавека.

*2004 г.*

## Пятая пячаць

*Адчыняю Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І як зьняло Яно пятую пячаць, убачыў я пад ахвярнікам душы забітых за слова Божае ды за сьведчаньне, што мелі; і загаманілі голасам вялікім, мовячы:" (Адкр. Яна Багасл., 6; 9). Тады я падумаў:*

Людзі перасталі паміраць за слова Божае.
І доўжыцца пэрыяд зла.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Мы ведаем, што мы ад Бога, і што ўвесь сьвет ляжыць у зьле". (Перш. пасл. Яна, 5; 19). Тады я сабе запісаў:*

Думаючы быць першым,
Не сьпяшай заслужыцца ў сьвеце.
Бо на Небе
стаць можаш апошнім.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Дык вось, умілаваныя мае, як вы заўсёды слухалі ня толькі ў бытнасьць маю, але шмат болей цяпер, у час нябытнасьці маёй, са страхам і дрыжэньнем аб збаўленьні сваім старайцеся". (Пасл. Паўлы да Філіп., 2; 12). Тады я сабе запісаў:*

Калі маеш вялікую мэту,
Не кідайся ў бакі –
йдзі да яе,
Тады дасягнеш.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „і неба счэзла, як скручаны лісток, і кожная гара і востраў скрануліся з месцаў сваіх". (Адкр. Яна Багасл., 6; 14). І ўспомніў я далёкі час:*

Гарачае лета:
На дрэвах скручанае лісьце,
І ў паветры дым.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Як Яньні і Ямбр супраціўляліся Майсею, гэтак і яны супраціўляюцца праўдзе, людзі з папсаваным розумам, невукі ў веры". (Др. пасл. Паўлы да Цім., 3; 8). Тады я сабе запісаў:*

Разумны – хоча ведаць.
Дурны – ня хоча.
Таму дурня не навучыш.
Але калі не вучыць,
То дурняў стане шмат.

*2004 г.*

## Пяты Анёл

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „і дадзена ёй, каб іх не забівала на сьмерць, але каб мучыла пяць месяцаў; і мука ад яе, як мука ад скарпіёна, калі ўкусе чалавека”. (Адкр. Яна Багасл., 9; 5). Тады я сабе напісаў:*

Адчынілася дно.
Распаўзаецца дрэнь па Зямлі.
Але ня можа быць дно верхам.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Не адапхнуў Бог народу Свайго, які Ён наперад ведаў. Ці ня ведаеце, што кажа Пісаньне (у апавяданьні). аб Ільлі? Як той скардзіцца Богу на Ізраіля, кажучы”: (Пасл. Паўлы да Рым., 11; 2). Тады я падумаў:*

Калі ўсьвядоміць, што ўсе мы дзеці Бога –
Народ ня згіне.
Бо сэнс
          пераносіцца ў вечнасьць.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Валадар, зьлітаваўшыся над гэтым слугою, пусьціў яго і дараваў яму доўг”. (Мацьв. 18; 27). Тады я падумаў:*

Без дараваньня і літасьці
Жыцьцё заходзіць у тупік.
Бо чалавек важнейшы.
Але калі чалавек мераецца на чалавека,
Забойцу – няма дараваньня.
Бо ахвяра невінаватая.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „Ня робма і блуду, як некаторыя зь іх блудзілі і ў адзін дзень загінула іх дваццаць тры тысячы”. (Лічб., 25; 1,9). Перш. пасл. Паўлы да Карын., 10; 8). Тады я падумаў:*

Блудлівы сьвет не напраўляецца.
Ён можа толькі згінуць
(Калі ня прыйдзе з гары паратунак).
Але бяз кары няма паратунку.

*2004.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Бо будуць людзі самалюбнымі, срэбалюбцамі, пыхлівымі, гордымі, зламоўнымі, непаслухмянымі бацькам, няўдзячнымі, бязбожнымі, непрыязьлівымі, нязгодлівымі, абмоўцамі, нястрыманымі, жорсткімі, ня любячымі дабра, здрайцамі, напастлівымі, надзьмутымі, будуць больш любіць раскошу, чым Бога”. (Др. пасл. Паўлы да Цім., 3; 2,3,4). Тады я падумаў:*

Воблік рэгрэсу – страта
Боскага ў чалавеку.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „А ўсялякі дух, які не вызнае Ісуса Хрыста, што прышоў у целе, ня ёсьць ад Бога, і гэта дух антыхрыста, аб якім вы чулі, што ён прыйдзе, і цяпер ёсьць ужо ў сьвеце”. (Перш. пасл. Яна, 4; 3). Тады я сабе напісаў:*

Ёсьць ідэі, што твораць традыцыю.
Бо ў традыцыі найлепей трывае дух.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „а хто выпаўняе словы Яго, у тым запраўды любоў Божая завяршылася: з гэтага пазнаём, што мы ў Ім”. (Перш. пасл. Яна, 2; 5). Тады я падумаў:*

Ведаць лягчэй, чым рабіць.
Таму ня кожны робіць, паводле веданьня.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Я ж кажу вам, што Ільля ўжо прышоў, ды не пазналі яго, а ўчынілі проці яго, што хацелі; так і Сын Чалавечы пацерпіць ад іх”. (Мацьв., 17; 12). Тады я сабе напісаў:*

Пацерпіць кожны, хто лепшы,
Калі ня прыйдзе ў сіле.
Натоўп ня любіць непадобных.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „Бо ведаю, што не жыве ўва мне (гэта значыць у целе маім). добрае; бо жаданьне ёсьць ува мне, але каб зрабіць добрае, таго не знаходжу”. (Пасл. Паўлы да Рым., 7; 18). Тады я сабе напісаў:*

Стварэньне культуры – гэта ёсьць
Разьвіцьцё і ўмацаваньне чалавечага духа.
Пачатак яго – таямніца.
Цела стала рэлігіяй бязбожнікаў.

*2004 г.*

* * *

*У палітыцы вэрхал вялікі. Стварылі Эўразьвяз. Адчыняю Эвангельле наўгад, дзе напісана. „І Давід кажа: Хай будзе ім стол іх сеткаю і цянётамі, і спакусай, і адплатаю;” Няхай зацьмяцца вочы іх, каб ня бачыць, і хрыбет іх няхай будзе сагнуты назаўсёды”. (Пасл., 68; 23-24). (Пасл. Паўлы да Рым. 11; 9, 10). Тады я падумаў:*

У тых, што адмовіліся ад Бога,
Вакол чаго закруціцца іх жыцьцё?”

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Але яны зь вялікім крыкам дамагаліся, каб Яго ўкрыжавалі. І перамог крык іхны і архірэяў”. (Лук., 23; 23). Тады я сабе напісаў:*

Калі ўсе пачынаюць крычаць,
Зацямняецца ісьціна.
Праўда патрабуе развагі.

*2004 г.*



* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Хто робіць грэх, той ад д’ябла, бо ад пачатку д’ябал грашыць. Дзеля гэтага і зьявіўся Сын Божы, каб зьнічтожыць дзела д’яблавае”. (Перш. пасл. Яна, 3; 8). Тады я сабе напісаў:*

Шлях да Хрыста адчынены.
Толькі йдзі.
Але вось жа не сьпяшаемся.
І жыцьцё йдзе бяз нас.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Але яны крычалі: ўкрыжуй, укрыжуй Яго!” (Лук., 23; 21). Тады я падумаў:*

Нянавісьць шэрых – вялікае зло.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Бо калі хоча воля Божая, лепей пацярпець за добрыя ўчынкі, чымся за благія”. (Перш. пасл. Пётры, 3; 17). Тады я сабе напісаў:*

Калі рабіць дабро і з цёмным злом змагацца,
То можна й бітым быць,
І моцна пацярпець.
Таму шмат хто стараецца быць добрым,
Ня церпячы.
У выніку – зло забірае сьвет.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Бо даволі ўжо, што вы ў мінулы час жыцьця паступалі паводле волі паганцаў, ходзячы ў нячыстасьці, пажаданьнях, п’янстве, банкетаваньні, піцьці і лёгкамысным служэньні ідалам”. (Перш. пасл. Пётры, 4; 3). Тады я сабе напісаў:*

Духоўнае жыцьцё чалавека
Мусіць быць у суладдзі з прыродай.
Але не павінна прырода
Кіраваць вечным духам.
Бо гэта – сьмерць.

*2004 г.*

## Панадворак перад храмам

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „а панадворак, што перад храмам, ня ўлічвай, ды ня мерай яго, бо ён дадзены паганам: і месца сьвятое таптаціімуць сорак два месяцы". (Адкр. Яна Багасл., 11; 2). Тады я сабе напісаў:*

Можна зьберагаць храм,
Жывучы на падворку.
Але лепш, калі ў храме быць.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „Яны маюць уладу замкнуці неба, каб ня падаў дождж у дні прарочаньня іхняга; і маюць уладу над водамі – пératвараць іх у кроў і біці зямлю ўсялякімі плягамі, колькі б хацелі". (Адкр. Яна Багасл., 11; 6). Тады я падумаў:*

Колькі каму дадзена,
столькі й панесьці можна.
Але ёсьць людзі,
што топчуць дар Божы.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Ён жа сказаў: сьцеражыцеся, каб вас не збаламуцілі, бо многія прыйдуць пад імем Маім, кажучы, што гэта Я; і гэты час блізка. Не хадзеце сьледам іх". (Лук., 21; 8). Тады я падумаў:*

Ня блудзіць той,
Хто йдзе сьледам праўды,
Хоць праўда і даверлівая.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Але кажу: ці ж Ізраіль ня ведаў? Першы Майсей кажа: Я збуджу ў вас рупнасьць не праз народ, – узлую вас праз народ бязглузды". (Другазак., 32; 21), Пасл. Паўлы да Рым., 10; 19). Тады я падумаў:*

Калі бязглуздасьць вакол,
То лепей рупіцца аб разуменьні,
Чым на дурных злавацца.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Дзеля гэтага кажу вам: усялякі грэх і ганьбаваньне даруюцца чалавекам, а ганьбаваньне Духа не даруецца чалавекам”. (Мац., 12; 31). Тады я сабе напісаў:*

Прапаганда бязбожжа
Ёсьць ганьбаваньне Духа.
І дзіўнаназіраць,
Як хрысьціянскі сьвет
Становіцца бязбожным.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Калі падваліны будуць раскіданы, што рабіць пабожнаму?” (Пс., 11; 3). Тады я напісаў:*

Дзяржава і мова,
Што стаяць на гісторыі, –
Вось падмурак наш.
Беражэм Беларусь, калі хочам быць!

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад, дзе напісана: „Госпад ведае разважаньні мудрых, што яны марныя”. (Пс., 93; 11). Тады я падумаў:*

Няма горай – займацца ня тым,
І ў канцы – зразумець,
Калі час мінуў.

*2004 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Дзеці Божыя і дзеці д’яблавы пазнаюцца гэтак: кожын, хто ня робіць праўды, ня ёсьць ад Бога, таксама як і той, хто ня любіць брата свайго”. (Перш. пасл. Яна, 3; 10). Тады я напісаў:*

Ёсьць краіна,
Дзе, думаюць, што свабода
Вышэй за праўду.
Але калі вышэй за ўсё свабода,
То на справе
Найвышэйшым становяцца грошы.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „І вось тое абвяшчэньне, якое мы чулі ад Яго, і абвяшчаем вам: Бог ёсьць сьвятло, і няма ў Ім аніякае цемры”. (Перш. пасл. Яна, 1; 5). Тады я падумаў:*

Трэба любіць хараство, чысьціню і праўду.
Гэта брама ў сьветлы шлях.

*2004 г.*

## Паўла

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Аляксандра, меднік, шмат зрабіў мне благога.Няхай дасьць яму Госпад паводле ўчынкаў яго!” (Друг. Пасл. Паўлы да Цім., 4; 14). І тады я падумаў:*

Перш, чым дасьць Бог Аляксандру,
Ён Паўлу Аляксандра ўжо даў.
Тут сэнс Гасподні.

*2004 г.*

## Пасланец

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Яго Бог правіцай сваёй узвысіў на Правадыра і Спаса, каб даць Ізраілю пакаяньне і адпушчэньне грахоў”. (Дз. Ап., 5; 31). І тады я сабе напісаў:*

Калі нам у бядзе
Хтось працягне руку,
Кажуць: добры вось чалавек,
Не разумеючы, што паслаў яго Бог.
Гэтак і мы:
Праз Пасланца можам аддзячыць Богу.

*2004 г.*

* * *

*Думаючы пра Айчыну, адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Тады ўзьняўся вялікі плач усіх, і, кідаючыся на шыю яму, цалавалі яго”. (Дз. Ап., 20, 37). Тады я сабе напісаў:*

Лепш быць апошнім,
бяз рацыі,
Але каб жыла
Бацькаўшчына,
Чым першым і мудрым,
А Беларусі – няма.

*2006 г.*

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад, дзе напісана: „І супачываўшыя разам зь Ім, пачалі гаварыць сабе: „Хто Ён такі, што і грахі адпускае?" (Лук. 7; 49). Тады я падумаў:*

Зайздрасьць і здрада – гэта тое,
Што ўсьцяж перасьледуе лепшых.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і чытаю: „Хто мае Сына, мае жыцьцё; Хто Сына Божага ня мае, ня мае жыцьця." (Перш. Пасл. Яна, 5; 12). І тады напісалася мне:*

Цёплы дожджык на сьвітаньні
Мокрым лісьцем шапаціць.
Нядзеля.

*2004 г.*

* * *

*Адчыніў Эвангельле наўгад і думкам сваім у адказ прачытаў: „Трапіўшы ж на касу, пасадзілі карабель на мялізну: і нос, завязшы, аставаўся нерухомы, а карно разьбівалася сілаю хваляў". (Дз. Ап; 27:14). І тады я сабе напісаў:*

Там, за хвалямі,
Бераг Радзімы
Мне відаць у дажджлівай імгле.
Там, за хвалямі, пахне мне дым.
Там, за морам,
Мне чуецца голас: „Рубон!"
І сьцелецца вецер у полі...

*2004 г.*



# Месяц

* * *

Ноч. Месяц над туман**а**мі.
За Гаўёю пад лесам
Іржэ жарабец.
*2004 г.*

## Адцьвітаюць сады

Пад Месяцам
у ценю дрэў
Усьцілаюць пялёсткі траву.
Майская ноч.

*2004 г.*

* * *

Поле ў начы.
Над цьвітучай грачыхай Месяц вісіць.
І мядовы пах.

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы,
Як праз цьвет яблынёвы
Прабіваецца Месячка бляск?

*2004 г.*

* * *

Ці чулі вы,
Як у ценю Месяца
Пад старымі вольхамі
Па каменьнях плюскоча Гаўя?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы,
як у жніўні
Пад Месяц
Шэрыя гусі лятуць?

*2004 г.*



* * *

Ці бачылі вы,
Як лажыцца пад ветрам трава,
Калі набягаюць на Месяц
цёмныя хмары?

*2004 г.*

* * *

Узышоў месяц:
Пунька, адрына, штанкет.
Вішні цьвітуць.

*1996 г.*

* * *

Ці бачылі вы,
Як над крэйкай гумна
Павісае асеньні месяц?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы
На поплаве коней,
А ў небе – вясновы месяц сьвеціць?

*2004 г.*

## Сьветлай ноччу

Месяц высокі.
Брамку ў двор адчыніў.
Бразнула клямка.

*1996 г.*

* * *

Месяц над могілкамі павіс,
Нібы засеў у крыжах.
І цішыня-цішыня наўкола.

*1995 г.*

* * *

Ноччу марознай
Ці былі вы ў засьнежаным полі,
Дзе сьвеціць бліскучы месяц?

*2004 г.*





* * *

Ці плыў з вас хто
Па начной Гаўі
Праз месячны шлях на вадзе?

*2004 г.*

* * *

Ці чулі вы салаўя
Над возерам ноччу,
Калі ўзыходзіць месяц?

*2004 г.*

* * *

Ці ехалі вы ноччу
Па дарозе пустой,
А насустрач месячка сьвеціць?

*2004 г.*

* * *

Ці бачыў з вас хто,
Як пачынаецца зацьменьне Месяца
Над чорным асеньнім полем?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы,
Як праз зьледзянелыя шыбы
Сьвеціць марозны месяц?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы:
Між касьцельнымі вежамі
Месячка сьветлы плыве.

*2004 г*

* * *

Ці бачылі вы,
Як студзеньскай ноччу
Поўня над Вільняй сьвеціць?

*2004 г.*

* * *

Ці назіралі вы ўраньні
На сінім небе
Вясновы месяц?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы на сьвітаньні,
Калі на лужах лёд,
Выса́ка ў небе асеньні Ветах?

*2004 г.*

* * *

Ці былі вы ноччу ў садзе,
Калі вішні зацьвілі
І Маладзік маёвы сьвеціць?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы, як над полем бульбяным
Заходзіць асеньняе сонца
І ўздымаецца жоўты месяц?

*2004 г.*

* * *

Жнівень. Поле.
Над снапамі месяц сьвеціць.

*2004 г.*

* * *

Ці былі вы ўдома адзін –
І Месячка шлях на сьцяне?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы
Туманы над Гаўёй,
Калі ўзыходзіць месяц?

*2004 г.*

* * *

Машына гудзіць.
Нізка месяц вісіць.
Нібы стужка, бяжыць
Лесу піла.

*2004 г.*

* * *

Месяц бачыцца ў цішы,
І невідочны ў шуме гарадзкім.

*2004 г.*



* * *

Цямнее ў змроку разгалісты дуб.
Месяц плыве, салоўка пяе.
О, майская ноч!

*2004 г.*

* * *

Ці здаралася вам
Выдзірацца зь вячэрняга бору,
Калі месяц мігціць між ствалоў?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы
                    сьнежны Месяц,
Калі сьвеціць сонца,
І неба, як сіняе шкло?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы,
Як з-за шэрай смугі
Уздымаецца Месяц над морам?

*2004 г.*

* * *

Ці мерзьлі вы
Ў месячным полі зімой,
Калі няма куды дзецца
І забірае адчай, калее душа
І прыгожа іскрыцца сьнег?

*2004 г.*

* * *

Ці бачылі вы Месяц
Над узараным полем,
Калі ахінае зямлю
Марозны
              асеньні змрок?

*2004 г.*

## Месяц у лістападзе

Пранізьлівы вецер.
Усплывае ў цемры
Чырвоная палавінка.

*1996 г.*

* * *

Іскрыцца сьнег пад Месяцам.
Марозная ноч.

*1995 г.*

* * *

Ужо сьвітае майскі ранак
І бляднее Месяц,
А салавей пяе.

*2004 г.*

* * *

Млын стаіць. Вада шуміць.
І Месяц над вадой.
І галасы ў памяці маёй.
І летня ноч над галавой –
Айчына.

*2004 г.*

# Фатаграфіі

## Фатаграфія

Мінае час –
і фатаграфія шчыміць.

*2000 г.*



*142. 1955 г. 10 клас. Першы пасьляваенны выпуск Суботніцкай школы. (Арх. З калекцыі Юзафа Русакевіча).*

## Летнім днём

Поўдзень.
Праз сосны на гары
Блішчаць Дрывяты.

*1995 г.*

## Душа рэчаў

Часам можна адлюстраваць
душу рэчы,
Калі ня бачыш рэч, але сузіраеш
яе абрысы.
Гэта можа толькі фатаграфія.

* * *

Ты хочаш глядзець на дрэва,
А разглядаеш сукі.
І толькі фатаграфія
можа бачыць усё.

* * *

Калі хочаш убачыць рэч,
Не прыглядайся на часткі.
Але праз часткі
можна зьведаць агул.

*2002 г.*

* * *

На фоне муроў
Акацыі белай каравы камель.
Манастыр.

*2002 г.*



## Дзень у лістападзе

Ветрык праз плот даляцеў
З-за голых ствалоў на зах**о**дзе,
Нізкага сонца бляск
                    асьляпляе зрок.

## Пакінутая сядзіба

І над запусьценьнем
                    яблыня цьвіце.
Сіні лішайнік на ссохлых суках.

*2003 г.*



## Карціны перамен

Жоўты клён прамільгнуў
за вакном цягніка,
Як страла.
І сухая трава,
І вада
Сіняя, нібы ўльтрамарын.

*2001 г.*

## З году ў год фатаграфую вакол дому

Кожны дзень цераз брамку іду
І здымаю цьвіценьне, кустоўе, вярбу,
Сьнегавы лістапад.
Назіраю: зьмяняецца сьвет.
Хоць зьмяняюся толькі я.

*2000 г.*

## Раніцай іду ўздоўж Клявы́

Ледзь залоціцца сонца ўсход.
Узьдзірванелы адкос ракі.
Як салдаты, ядлоўцы стаяць.

* * *

Набрыняла сьвятлом
Магнолія пад сонцам.
Пялёсткі на сіняй траве.

*2003 г. (З цыклу „ Магноліі")*

## Зьняўся на пашпарт

Вось мая фатаграфія,
Зь якой нечакана
Глядзіць на мяне
Пажылы чалавек.
А калісь і па ёй
успомню былое.

*2001 г.*

## Малы верш

Траціна ёсьць фатаграфія,
напісаная словам.
І найвялікшым фатографам
быў Басё.

*2002 г.*

## Драбінкі

Скручанае лісьце драбінак
Чырванее марозным днём.
Не пасьпела апасьці.

*2002 г.*

## Люблю чорна-белую фатаграфію

У каляровым фільме,
Як зьвязаны ў руках,
Нібы ў нагах закуты.
Няма прастору, вышыні
І для пачуцьцяў
шлях замкнуты.
Прывык пісаць сьвятлом я
творчы знак,
Паразрываўшы путы.

*2001 г.*

## Засьнежанае возера

Угінаецца пышна чарот.
Нібы заяц пушысты зімой
Па полі бяжыць.

*2002 г.*

## Фатограф паэту

Ты хочаш прыгожа пісаць
аб харастве.
І расквечваеш слоўны запас.
Я ж хачу выявіць
сутнасьць красы,
Што існуе бяз нас.

*1984 г.*

## Разьзявякі

Спыняцца і глядзяць:
Маўляў, навошта я гэта здымаю,
І, не зразумеўшы, ідуць далей.



*148. Родная карціна. 2000 г.*

* * *

*Г. Ліхтаровічу*

О, вялікая фатаграфія,
Найвялікшая!
Ты ўзвышаеш паэзіі дух,
Прыглядаешся да Сусьвету.
Але вершам кранаеш душу,
Калі будзяцца думкі
Пра вечнасьць.

*2002 г.*

## Фатаграфія - 2

Паэтам мусіць быць
Ня толькі той,
хто вершы піша,
Але і той,
хто чытае.

## Фатограф

„Усьміхніся”, – сказаў фатограф таму,
Хто ў жыцьці не сьмяяўся
(Які вясёлы чалавек!).
Але больш пасьлядоўны той,
Хто застаўся сабой.

## Любімыя краявіды

Хутар у жыце. Сасоньнік.
Аблокі, як караблі.
Віленшчына, мілая і харошая.

*1995 г.*

* * *

*Ля Саколкі пад Беластокам на рэчцы Саколка асушаны стаў. Павуціньне ў шыбах разьбітых былога млына. І выплыў мне ў памяці з-пад Ліпнішак вобраз далёкі.*

Маленькая Апіта*,
а які разьліў.
І канца не відаць.
Млын дзераўляны.

## Сярэдні фармат

Нішто так ня люба рабіць,
Як здымаць 6х9.
Адчыняецца новы сьвет.

*1996 г.*

## Перабіраю фатаграфіі

Калісь у кавярні сядзеў
І проста так
Узяў і сфатаграфаваў суседні столік,
А цяпер разглядаю –
Аблічча часу.

*1995 г.*

* Назва рэчкі

## Палесьсе

На тарфяных палях
Вясеньні разьліў.
Шэрыя гусі сядзяць.

*1995 г.*

## Краявід Бацькаўшчыны

*Бывае краявід шчыміць Боскай маркотай. Прыўкраснае замілаваньне. І далёка-схавана трымціць касьмічны халадок, быццам нейкі іншы сьвет адчыніўся ў прыродзе. Гэта дыханьне нашай сярэдняй поўначы, подых восені. Вялікія мастакі ўмелі яго адлюстраваць.*

*Бывае прырода напоўнена Боскай урачыстасьцю і здаецца, што пад воблакамі сьвяточны дзень, гучыць узьнёслая музыка, а за плячыма крылы. Цеплыня. Гэта павеў вясны, вяртаньне сонца, трыюмф лета. Лета сцьвярджае вечнасьць.*

*Але найчасьцей бывае, што краявід кліча, цягне ў патаемную далячынь, як магніт, за зялёнае жыта, за сіні лес і хвалістыя горы, за далёкія дрэвы на небаспадзе, напаўняе душу імкненьнем. Краявід – дзе лятае душа.*

*Толькі няпроста выявіць гэта ў фатаграфіі. Але можна, калі ня быць скутым і ўмець уплываць на тэхніку. Гэтак думаючы, я напісаў:*

Усё звычайна тут і проста.
Вось наш узгорак, што за лесам.
Люблю адсюль глядзець у далячынь.
Сярод палёў, жытоў і пералескаў,
На самай кромцы небаспаду,
У мгле блакітнай і смузе
Таемны, мройны і далёкі
Хвойны лес сінее.
Гара ўзвышаецца над ім.
Што за гара? –
Так прыцягальныя яе абрысы,
Так вабяць да сябе.
Пайду ў шлях, спазнаю
І на вяршыню ўзыйду.
Наперад гляну
І азірнуся ўсьлед сваёй дарозе,
Каб ацаніць набытак для душы.

І вось прыйшоў і азірнуўся.
Сярод палёў, жытоў і пералескаў,
На самай кромцы небаспаду,
У мгле блакітнай і смузе
Далёкі, мройны і знаёмы
Таемна хвойны лес сінее,
Гара ўзвышаецца над ім.
І прыцягальныя яе абрысы
Так вабяць да сябе...

*1983 г., Суботнікі*

## Тонкія колеры-1

*Тонкія колеры,*
*нібы ружы цьвет –*
*Вобраз мары пра рай.*

* * *

*Тонкі колер – гэта яго пачатак.*

* * *

*Колер памірае ў цемру*
*І нараджаецца з сьвятла.*

* * *

*Тонкія колеры – гэта сфэра нябачнага.*
*Іх выяўляе фатаграфія*
*І бачыць – відушчы.*

* * *

*Тонкія колеры,*
*як каханьне юнацкае –*
*Хараство ў чысьціні.*

* * *

*Тонкія колеры – гэта дзяцінства,*
*Што жыве вечна.*

*2003 г.*

## Тонкія колеры-2

Каб зразумець колерную фатаграфію, мала толькі ведаў і мастацкай адукацыі, трэба пачаць здымаць на колерную эмульсію. (Тут я не кажу пра электронную (лічбавую). аснову. Але сутнасьць тая ж – гэта колерная субстанцыя). Фатографа, выхаванага ў клясычнай фатаграфіі (гэта значыць у чорна-белай), тут адразу падсьцерагаюць няўдачы.

Фундамэнтальны прынцып палягае на тым, што *колерная фатаграфія пішацца колерам, а чорна-белая (клясычная). пішацца сьвятлом.*

Практычна, нельга напісаць чорна-белую фатаграфію колерам. Нічога добрага ня выйдзе. Гэтак жа нельга (як правіла). добра напісаць колерную фатаграфію толькі сьвятлом. У неразуменьні гэтай фундамэнтальнай асаблівасьці прычына бальшыні няўдач.

Праўда, у рэдкіх выпадках удаецца сумясьціць цьветапіс са сьветапісам. Але дасягненьняў тут ня шмат. Звычайна атрымліваем пры сумяшчэньні гэтакую клясычную фатаграфію, але ў колеры. Толькі тады з фотакарціны часта зьнікае абагульненьне вобразу і таямніца выявы (падвойны плян альбо падтэкст).

У натуральных сюжэтах натуральныя колеры дэмаскуюць усялякія недамоўленасьці, сымвалізм і падвойныя пляны. Зьнікае клясычная ўмоўнасьць выяўленчых сродкаў, і вылазіць банальная „натурэль". Збалянсаванасьць колеру са сьвятлом (калі гэта ўдаецца). звычайна мала што дае, хіба што прыгожы від, які неглыбока кранае душу, бо зьнікае якраз душа вобраза. Мы бачым выразную рэпрадукцыю рэчаіснасьці, ня больш. Выяўленьне эстэтычнай, вобразнай сутнасьці рэчаў і зьяваў у такіх умовах – няпростая задача.

Сітуацыю ратуе мікшыраваньне колераў, што часам дасягаецца, напрыклад, расфакусоўкай аб'ектыва (здымкай у нярэзкасьці). ці іншымі мэтадамі (мяккімі насадкамі, сеткамі, здыманьне прымітыўнай оптыкай і г. д.). Такі падыход вымагае вялікага вопыту, добрай мастацкай інтуіцыі і пачуцьця меры.

Здымаючы такім чынам, паступова пачынаеш пераконвацца, што рэзкасьць выявы ў колернай фатаграфіі найчасьцей зьяўляецца першым яе ворагам, бо перашкаджае якраз выявіць і ўспрымаць колерную гармонію ў шмат якіх сюжэтах, асабліва зьнятых з „чорна-белым" падыходам.

Праўда, колерны фатаграфічны натуралізм таксама можа быць выразным выяўленчым сродкам эстэтычнага вобразу. Толькі тэматычная шкала ягоная даволі вузкая. А зрэшты – як і ўсёй колернай мастацкай фатаграфіі (калі параўноўваць яе з чорна-белай).

* * *

Ёсьць яшчэ адзін аспэкт фатаграфіі, які мала залежны ад творчасьці фатографа – успрыняцьце фатаграфіі ў грамадзтве, узровень грамадзкай мастацкай культуры. Тут паўсюдна марная справа. Мас-культура шырока акупавала фатаграфічны працэс у сваіх інтарэсах. У выніку грамадзкі ўзровень ведаў, разуменьня і запатрабаваньняў да мастацкай фатаграфіі вельмі не высокі. Дакладней, ён стлумлены, збочаны мас-культурай, што яшчэ горай за звычайнае бескультур'е, бо ўсяляе ў сьведамасьць чалавека фальшывае перакананьне ў тым, быццам ён мае адэкватнае паняцьце аб фатаграфіі, грунтуючыся на ўзорах рынкавай фатаграфічнай вытворчасьці.

Тым ня менш, творчая фатаграфія заўсёды выклікала нязьменны грамадзкі інтэрас з прычыны, перш за ўсё, шырока распаўсюджанага фотааматарства. На жаль, цяпер узровень фотааматарства моцна падрэзаны аўтаматызацыяй фотакамэраў, аўтаматызацыяй фота-сэ-

рвісу і камэрцыялізацыяй такім чынам асноўных запатрабаваньняў аматарскай фатаграфіі. Фатограф-аматар перастаў вучыцца. Бальшыня задавальняецца ўменьнем націскаць спускавую кнопку. Цяпер гэтага дастаткова, каб атрымаць адбітак.

* * *

Фатаграфія ёсьць выяўленчая творчасьць, зь якой ніякая іншая творчасьць ня можа параўнацца, бо не валодае асаблівасьцю эстэтыкі, якую я б назваў якасьцю „трансцэдэнтнага гістарызму".

Фатаграфія здольная адбіваць сутнасьць рэчы ў неасэнсаваным адчуваньні, акамуляваць перанос душы ад зьявы да яе адлюстраваньня.

Нам шматкроць прыходзілася глядзець на фатаграфію сябра ці блізкага роднага нам чалавека, якога бачылі кожны дзень, і характар ягоны ня ёсьць для нас сакрэтам. Фатаграфія ягоная нам мала што кажа, пакуль ён ёсьць.

Але вось яго няма. Раптоўна памёр. Ці загінуў трагічна. Побач застаецца ягоная фатаграфія, шэрая і звычайная. Але як жа нечакана пачынае яна „гаварыць", як раптам пачынаеш бачыць тое, чаго ня бачыў раней, колькі шчымленьня і адкрыцьця, як трымае яна нашу ўвагу і наш пагляд, нібы магніт.

Гэта робіцца ня толькі з фатаграфіяй знаёмай асобы, але і з рэчамі, інтэр'ерамі і краявідамі, сфатаграфаванымі даўно і зьвязанымі з нашым існаваньнем. Чым далей у часе, тым мацней перажываньні і рэзананс у нашай душы. Нязначнае і звычайнае, зьнятае *тады*, – робіцца шматзначным і амаль сымвалічным, калі сузіраем *цяпер* на даўняй фатаграфіі. Тут выяўляецца таямніца, магія *мінулага часу* (які не спыняецца, але фатаграфія яго ўмоўна спыніла).

„Магія часу" адбіваецца ў фатаграфіі наймацней і зьвязана з суб'ектыўным успрыняцьцем, асэнсаваньнем і перажываньнямі. Яна выяўляецца ў кантэксьце самаіснага існаваньня асобы, у плыні ейнага лёсу. Але час – катэгорыя аб'ектыўная. Таму ўспрыняцьце магічнай эстэтыкі фатаграфіі ёсьць агульным для ўсіх і грунтуецца ня толькі на суб'ектыўных дачыненьнях. Тым больш, што няма рэзкай мяжы паміж вечным існаваньнем, вечным парадкам і ўнутраным сьветам асобнага чалавечага духа, які ёсьць таксама часьцінкай агульнага. І менавіта таму самыя неверагодныя фантазіі і перажываньні аднаго могуць стаць зразумелымі і дарагімі для іншых.

Вось мост праз Вяльлю і муры касьцёла, асьветленыя заходнім сонцам на фатаграфіі Вільні канца XIX-га стагоддзя. Цяпер, гледзячы на адбітак рэчаіснасьці стогадовай даўніны, пазнаеш яе і з хваляваньнем усьведамляеш, што мінула сто гадоў і што як гэта мала, усяго толькі ўчора.

Містыка мінулага часу і спыненае імгненьне – гэта тое, чым палоніць і трымае душу фатаграфія, калі аддаляецца ад пачатку. Яе вобразна-псіхалягічная сістэма пагрунтаваная якраз на гэтай якасьці і, практычна, незалежная ад фатографа, які, аднак, прыўносіць у фатаграфію (калі ён мастак). вобразна-эстэтычны кшталт. І тады адна фота-карціна можа сказаць

больш, чым сотні мэтраў рухомай кінастужкі зафіксаваных мінулых падзей. Бо каб адчуць і зразумець мінулы час, зусім ня трэба ўзнаўляць ягоную люстраную плынь рэчаіснасьці. Дастаткова стварыць яе вобраз, карціну. Спыненае імгненьне ў форме эстэтыкі скажа больш, чым сузіраньне ўзноўленага і рухомага працэсу не існуючага ўжо быцьця.

Кіно ня ёсьць спыненым часам, а толькі адлюстраваньнем ягонай плыні. Таму яно ня мае іманэнтнай сьпірытуальнай працягласьці ў часе. Кіно валодае іншай сістэмай каардынатаў, чым фатаграфія.

Каб выклікаць медыятацыю і ўражаньне, раўназначнае фатаграфіі, кіно мусіць сягаць па сродкі эстэтычнай вобразнасьці. Па-за эстэтыкай само па сабе тут (у кіно). не выяўляецца гэтак моцна, як у фатаграфіі, і не маніфэстуецца фэномен прысутнасьці мінулага часу. Праўда, эстэтычнымі сродкамі ў прынцыпе любое мастацтва можа яго выявіць (асабліва музыка і паэзія). Але гэта ўжо асаблівасьць эстэтыкі, а не выказьнік вобразнай зьявы ці нават, можна сказаць, роду дзейнасьці.

Роды дзейнасьці (нават калі гэта не мастацтва), зьвязаныя з прадметнымі рэальнасьцямі мінулага часу, выклікаюць аднолькавыя альбо блізкія (зблізаныя). псіхалягічныя перажываньні. (Тут зазначу, што мастацкае ўражаньне грунтуецца на паяднаньні эстэтыкі і псіхалёгіі.)

Самым яркім прыкладам такога зблізанага перажываньня зьяўляецца археалёгія. Мой калега-археоляг пастаянна паўтарае: „Адкрыцьці робяцца ў цішыні”. Гэта значыць, вечарам, пасьля тлумнага працоўнага дня ён застаецца адзін у раскопе сам-на-сам з расчыненым часам, з рэчамі і прадметамі, што ўзьніклі зь небыцьця праз друз і пясок. Пачынаецца медыятацыя, асэнсаваньне, узьнікаюць гіпотэзы, робяцца адкрыцьці і высновы па правілах клясычнай навукі, але магія даўніх прадметаў, зачараваньне містыкай гісторыі, відочнай у раскрытай зямлі, такое моцнае, што пачынаецца трымценьне душы.

Вось гэтае „трымценьне душы” цягне, як магніт, штурхае ў раскоп, каб дакрануцца рукой да таямніцы часу. Там (у раскопе). зусім ня так, як на паверхні. Там, стоячы на драўляным васьмісотгадовым насьціле вуліцы старажытнага Менска, можна, як ва ўяўнай машыне часу, адчуць сумяшчэньне эпох, на імгненьне быць нібы ў двух вымярэньнях. Капнеш рыдлёўкай чорную зямлю, і запахне хлявом. Гной, жоўты, як тытунь, нібы цяперашні, імгненна чарнее – дзьве секунды – як фатаграфія ў цёплым праяўніку.

І зноўку ты – ў першым вымярэньні. Зьвініць піла. Васьмістагодні зруб. Пілуем кругля-кі. І пахне смолкаю сасновы водар хвоі. Гэта той пах – схаваны вецер. Вызваліўся з-пад пілы і прыляцеў з лясістых над Нямігай гор, пад пераззвон мячовы, зьмяшаўся з горкім дымам Менска спапялелых сьцен...

Гэта ж не фантазія – рэальнасьць. Гэта ж тут, цяпер пахне далёкая Бацькаўшчына, вечная і несьмяротная.

Не замінайце ветру. Ня рушце магіл. Ня йдзіце ў Нямігу. Не зжынайце залом Усяслава. Нават ворагі, спыненыя, павярнулі тады. Не рабеце ахвяр.

Ня слухаюць, ня чуюць, не разумеюць. Ня любяць духу, што пахне смалой і хлявом...

* * *

Самае вострае і надрэальнае ўражаньне, якое выклікае археалёгія (працэс, прадметы), – гэта *адчуваньне спрэсаванага часу*. Рацыянальна думаючы, чалавек успрымае даўніну, як вельмі далёкую і безадносную мінуласьць. Але сузіраючы археалягічныя прадметы (і асабліва прадметы-творы вобразнага мастацтва). і знаходзячы там зразумелае падабенства свайму часу і свайму вопыту, гэтым самым чалавек нібы сьцірае адлегласьці. Мінулае ўспрымаецца, як нядаўняя сучаснасьць, і толькі розум, рацыё, рэгулюе дыстанцыю.

З уласнага вопыту магу засьведчыць надзвычайнае ўзьдзеяньне, якое зрабілі на мяне так званыя „фаюмскія партрэты". (Мне надарылася глядзець унікальную выставу гэтых партрэтаў у нью-ёркскім музэі). Уражвае ўсё: рэалістычная вобразнасьць (надзвычай блізкая да сучаснай), фарбы, манера напісаньня (таксама „сучаснага" кшталту), прадметнасьць. Пакажы гэтыя партрэты чалавеку менш дасьведчанаму – ніколі ня скажа, што тут старажытны Егіпет. Скажа: „Эўропа, XX-е стагоддзе". У лепшым выпадку – некаторыя эўрапейскія маргінальныя накірункі XIX-га стагоддзя.

Гэта ашаламляе якраз мастацтвазнаўцаў. Мяне зьдзівіла яшчэ тое, што ў шмат якіх фаюмскіх партрэтах адчуваецца (і маецца). мастацкая вобразнасьць пазьнейшага візантыйскага хрысьціянскага жывапісу.

Але ня гэта галоўнае, што да тэмы маіх развag. Найбольш пранікае ў душу тое, што пачынаеш адчуваць і разумець чалавечую сутнасьць тых людзей, чые вобразы адлюстраваныя на пасьмяротных партрэтах, дзе мастак ставіў задачу адбіць падабенства і рэаліі муміфікаванай асобы. Часам здаецца, што чуеш іхныя галасы.

* * *

„Адкрыцьці робяцца ў цішыні." У цішыні прыходзіць Бог, і сьветлы Анёл, і добрае натхненьне. О, жывая, Боская цішыня! Дзесьці побач, дзесьці тут існуе вечнае жыцьцё, што вагаецца на стыку сьветаў, ці на стыку сьвятла і несьвятла, ці на стыку эпох, пакуль з жоўтага ў чорны ператворыцца земскі прах...

Толькі раз я застаўся ў курапацкім раскопе, адзін, сам на сам з шкілетамі, вечарам папрацаваць у цішыні. Інфармацыя, ці назавём гэта агульным словам „нешта", было настолькі моцным, што назаўтра (і потым на доўгі час). узьнікла штосьці накшталт разблакіроўкі ўспрыняцьця.

Сонечнай летняй раніцай, едучы на працу ў Курапаты, у напоўненым аўтобусе я глядзеў на доўгія сьветлыя і шаўкавістыя валасы дзяўчыны, што была перада мной. Я ня мог адарваць погляду ад гэтых валасоў, аж пакуль да мяне не дайшло, што дакладна такія доўгія і сьветлыя валасы былі на прастрэленым жаночым чэрапе, які я выцягнуў з-пад пяску і завалу касьцей у раскопе. Я паглядзеў на дзяўчыну цалкам, на яе твар і фігуру, і ўбачыў яе шкілет. Побач стаяў другі шкілет, які прыціскаўся да яе. Гэта быў, відаць, „сэрцовы" хлапец дзяўчыны – ранішнія закаханцы. Яны замілавана паглядвалі адно на другога.

Памятаю, што аднačaснае бачаньне шкілетаў і целаў людзей, якія прыціскаюцца і неўпрыкмет датыкаюцца губамі адзін да аднаго, выклікала ашаламляльнае непрыемнае ўражаньне, нібы я ўбачыў, як цалуюцца мерцьвякі. Навокал сядзеў, стаяў натоўп – аўтобус шкілетаў. Нібы ўвесь курапацкі раскоп паўстаў у жывых.

Я паглядзеў у вакно. Бачаньне шкілетаў то зьнікала, то зьяўлялася зноў. Памятаю, што мяне гэта не зьдзівіла і ня ўразіла. Я толькі падумаў, што трэба ўважліва жыць па Запаведзях, каб ня стаць шкілетам.

Пра бачаньне я нікому не расказваў, бо расказы пра паўмістычныя зьявы не даюць ніякага добрага выніку, акрамя шкоды апавядальніку (яму проста ня вераць).

Калі расчышчалі першы пласт расстраляных у курапацкім раскопе і відаць была сітуацыя, размовы, як правіла, спыняліся. Гаварылі мала, у паўголаса. Так складвалася само сабой.

Разам з намі, археолагамі, працавалі крыміналісты з пракуратуры, зь міліцыі, прысутнічалі грамадзкія назіральнікі і назіральнікі ад мясцовых уладаў. Чаго толькі ні прыходзілася бачыць крыміналістам, прывыклым думаць і апэраваць сухімі катэгорыямі Карнага кодэксу.

Аднойчы на дне раскопа я замалёўваў на мілімэтроўку раскрыты пласт забітых. У гары шумеў вецер у хвоях і лісьці бяроз, бесклапотна ляталі сінічкі.

– А й тады гэтак птушкі сьпявалі, – пачуў я ўгары.

Загартаваны пракурор Язэп Бролішс стаяў над раскопам і задуменна глядзеў на вяршаліны хвой. Гэта ён сказаў. Чалавек быў у двух вымярэньнях...

Ня дзіўна, што археалогія спарадзіла так званы „археалягічны рамантызм”, заснаваны на містыцы, легендах і ўяўленьнях. У навуковым сэнсе гэта пустацьвет, шкоднае аматарства і дылетанцтва, награмаджэньне глупстваў (пра „касмадромы”, пустыні Наска, напрыклад і т.п.). Але зьмест у тым, што існуе аснова (магія рэчы, расьцягнутая ў часе), якая выклікае такую калянавуковую зьяву, на мяжы фальклёру і прыгодніцтва, імкненьне містыфікаваць незразумелае і фантастычна растлумачыць непазнанае.

Вядома, на сьвеце шмат ёсьць рэчаў („дружок Гарацыё”), што ніякой вучонасьці ня сьнілася. Але не пра гэта мая гаворка. Я кажу пра тое, што відавочнае і рэальнае, даступнае кожнаму чалавеку.

* * *

Курапаты і археалёгія ў пэўным сэнсе дапамаглі мне зразумець таямніцы мастацтва фатаграфіі як найвялікшага мастацтва. Яе ўражаньне („шчымленьне душы”). зьвязанае з катарсісам. Катарсіс жа (нагадаю). злучаны з катэгорыяй трагічнага. Фатаграфія ў сфэры рэальнага фатаграфічнага вобразу (карціны). гэтак жа, як Курапаты ў сфэры рэчаіснасьці (і ўвогуле, археалёгія, гісторыя, старына), адлюстроўвае калізію паміж сьмерцю і вечнасьцю, паміж канцовым і бясконцым. Гэтая калізія ёсьць найвялікшая таямніца, якая датычыць кожнага канкрэтнага чалавека і зь якой вынікае зьява і паняцьце трагічнага, зьмест вышэйшасьці і разьвіцьця чалавечага духу.

Мінае час

і фатаграфія шчыміць.

Шчымленьне ўзьнікае ад пачуцьця адплылага часу, што захаваўся ў адбітку прадметнай рэальнасьці. Яна як бы існуе і не існуе. Пераходны мамэнт. І чалавек на мяжы цяперпічыны і мінуўшчыны, якую ня можа ўтрымаць, але ўспрымае, як будучыню, павернутую назад. Гэта ёсьць праява вечнай чалавечай душы, абцяжаранай пачаткам і канцом фізічнага існаваньня. Гэта ёсьць сьведчаньне чалавечага духу, які імкнецца да паяднаньня мінулага і будучага, да гармоніі з самым сабой.

*2004г., Нью-Ёрк – Варшава*



* * *

Сціраюцца словы
                              і даты
І толькі карціны Айчыны
У памяці маёй
                              жывуць.

*2007 г.*





*151. Цьвітуць мірабэлькі. 1997 г.*

## Красавік у Варшаве

Кволы цьвет мірабэлькі
Спадае на дол
Пры сьвятле ліхтароў.

*2001 г.*

## Ветрык

Пялёсткі пад ветрам –
Ляцяць матылькі.
Павей, павей, вішнёвы зграй!

*2001 г.*



## Фотаапарат

І ты па сьвеце блукаеш,
Нязьменны сябра,
У кішэні маёй.

*2002 г.*

* * *

Белая вішня! О, вішня цьвітучая!
Пад белаю вішняй
Спынімся ў чысьціні.

## Вогнішча

Як павольна згасае полымя,
І шэрым попелам
Пакрываецца пражыты дзень.



* * *

Лісьце чаромхі
мокрае пад дажджом.
Узьляцеў верабей –
І стрэсьліся кроплі ў траву.

## Летняя плынь

Выскачыў ліпе́нь –
І схапіў матылька.
Пляск над вячэрняй Гаўёй.

## Цёплай восеньню цьвіце рабіна

І што ты зацьвіла?
На якую яшчэ бяду?
А мо’ гэта сьнег?

*2002 г.*

* * *

Плывуць, плывуць аблокі.
Ніяк ня выскачыць
З-за хмараў Месяц.

*2002 г.*

* * *

Ноччу, калі адчыніў балкон,
Месячнае сьвятло
Дарожкай убегла ў пакой.

### Канец лета

Жоўтая вяргіня
Нікне пад дажджом.
Жнівень –
шчымлівы месяц.

*2001 г., Вільня*

* * *

Якое кароткае лета:
Бацян малады
Прабуе крыло.

*2001 г.*

* * *

Пасьля халоднага туману
Абвялы бульбоўнік зрудзеў.
Вась і лету канец.

*2001 г.*

* * *

Пусты агарод і капусныя пні.
Восень.

*2001 г.*

## Каня

Над лугам дажджыстым
Голас кані вецер адносіць.
З чым параўнаць
          тваю песьню?

*2001 г.*

* * *

Старая яблыня
          сьціdae лісьце
На чорную ральлю,
Нібы асеньні цьвет.

## Асеньні віхор

Ляціць гэты вецер,
Як цемра варон, –
          разарваныя хмары.
Ужо ведаю я:
          ноччу сьнег ападзе.

*2002 г.*

## Бачу самотнага чалавека з катом

Усё, што ў яго ёсьць, –
Гэты ласкавы кот,
Якому нічога ня значыць
          беднасьць людзкая.

*2002 г., Вільня*

## Праполка

Абполеш расток –
І зь нябыту выходзяць
мае буракі.
Як нялёгка даецца культура.

* * *

І ўсё ж такі бяз думкі
Карціна не жыве,
Таксама, як і верш маленькі.

*2004 г.*

* * *

З паўзмроку набягае хваля
І сьціхае ля ног,
нібы сон.
Зорка над акіянам.

*2002 г.*

* * *

О, як дрэвы шкамутае вецер!
І здаецца здалёк,
Што імкнуцца яны
ўвасобіцца ў хвалі.

* * *

Вясновы цьвет
Пад белым сьнегам.
О, маладосьць!



* * *

Вецер падзьме,
І зь вяршыні сасны
Ападае на дол
пералётны дождж.

* * *

Бліснула маланка.
На імгненьне пасьвятлела неба.
Грымотная ноч.

## Едзем праз ноч

Цемра за шклом.
Здалося – бяскрайнія воды.
Аж не – толькі мокры асфальт.

## Ліпнёвы вечар

Зялёная крапіва
Перад захадам сонца
Сьцішылася пад сьцяной.

* * *

Хутка сьвітаньне.
Над пустой дарогай
Вісіць адзінокі месяц.

* * *

Што мне нагадвае
Гэты апалы сакуры цьвет?
Ах, так! Грачыха цьвіце.

*2002 г.*



*157. Апалы цьвет. 2004 г.*

## Дарога праз ручаёк

Прайшла чарада –
І зноўку крыштальна
Бруіцца крынічны струмень.

## Адцьвітае магнолія

Вецер вятрыць.
І зьлятаюць на дол,
нібы лодкі,
Магнолій цяжкія пялёсткі.

* * *

Памятаю час,
Калі ўсюды былі чыстыя воды.
О, які гэта быў час!

*2003 г.*

* * *

О, месяц прыўкрасны!
Немагчыма пагляд адарваць.
Узыходзіць над жытнім полем.

*2003 г.*

* * *

За полем, дзе бульба цьвіце,
Пад асінавай дранкай мой дом.
Ветрык паўдзённы.

*2004 г.*

## Музыка Стомы

*Слухаючы музыку Мікалая Стомы, уяўляецца мне Беларусь – першародныя згукі, якімі гучыць наша зямля і якія чуеш найперш, як прыходзіш у гэты сьвет. Дзівосная музыка любай зямлі, як перадаць цябе ў словах! І ўспомніў я далёкія карціны:*

А ў Беларусі сінія асмужаныя далі.
І толькі ў Беларусі
Кліча далячынь, нібы магніт.

* * *

Верасень. Жоўтае сьвятло.
Бульбянішча пустое.
Далёка
          ймчыцца гнеды конь.

* * *

Дарога праз выган
                    спадае за небаспад.
За небаспадам
                    сабачка брэша,
Нібы зьвініць асеньні бом.

* * *

Клёп-клёп –
Пад клёнамі за Клявой
Далёка касец
                    касу клепле.

* * *

Талы сьнег і вясновае поле.
І шэрая гусь
                    адзінока-далёка
Крычыць на краі вады.



*158. Мікалай Стома, 70-я гг. (Арх.)*

* * *

Праімчаўся цягнік ля вакна ў начы, нібы сьмерч.
Пакінуў толькі колаў стук
І горкі дым над полем.

*2003 г., Варшава*



*159. На верандзе пасьля дажджу. 1999 г.*

## Пачаўся травень

Сеецца дождж.
На вішнях белыя пумпуці.
Чаканьнем жыву.

*1996 г., Менск*

## Еду ў Сурвілішкі

На ровары з гары
Спускаюся да Клявы.
Разбураны мост,
сонца заходзіць.

*1996 г.*

* * *

У прыўзьнятым настроі
Дзяўчына прайшла.
Новая сукенка.

*1996 г., Менск*

* * *

Ноччу ўсхапіўся пад шум дажджу.
Мокрыя шыбы.
Ліхтар за вакном дрыжыць.

*1995 г., Менск*

## На зыходзе лета

Вечарам бура. Цёмная ноч.
На раніцы ўстаў:
Чыстае неба. Мілавіца блішчыць.

*1996 г.*

## Старыя дзьверы

Жалезная клямка
Сьцерлася, нібы нож.
Колькі ж рук за яе ўзялося?

*1995 г.*



*160. „Беларускія дзьверы”. Сьвіран у Майшаголе. 2006 г.*



* * *

Перабіраю бульбу.
Крыльляў шум у гары.
Праляцела птушка.

*1996 г., Менск*

## У грыбах

Сыраежкі абыякавыя,
А баравікі выклікаюць азарт.
Вось табе й грыбы!

*1995 г.*

## Азёрная далячынь

Мне здалося:
Белыя гарлачыкі на сіняй вадзе.
А гэта – белыя чайкі.

*1995 г.*

## Задрамаў ля вогнішча

Гарыць агонь нясьпешна ў кастрышчы,
Нібы мая душа,
Горнецца да зямлі, засынае.

*1995 г.*

* * *

Хлеб з гарчыцай пажаваў –
Вось і добра.
Чым не абед?

*1996 г. (З цыклу „ Студэнцкі час”)*

## Бульба

Пуста ў доме, як у кішэні.
Бульба варыцца –
Усё спакойна.

*1996 г. (З цыклу „ Студэнцкі час”)*

## Разумнікі

Як добра
з разумным пагаварыць:
І час не змарнуеш,
І розуму набярэшся.

* * *

І тое праўда:
Лепш з разумным памаўчаць,
Чым з дурнем нагаварыцца.

* * *

Школьнага сябра спаткаў.
Пагаварылі і разышліся.
Разумныя людзі шмат не гавораць.

*1995 г.*

## Зазямленьне

Гледзячы пад ногі,
Ці ведае хто
Пра неба над галавой?



*162. Лістоўніца ў праменьнях сонца. 1998 г.*

## Асеньні поўдзень

Промні ў лісьцях,
Як хвалі ў моры,
мігцяць –
Сонца асеньняе.

*2003 г.*

* * *

Сто гадоў ня бачыліся.
Анітрохі не зьмяніўся сябра.
О, каб мог бы я ў ім
убачыць сябе.

* * *

Той лес, дзе з табою былі,
Ужо пастарэў
На дзесяць гарушчых гадоў.

* * *

Дождж прашумеў.
Уздымаецца пара.
Але ўспаміны не мінаюць так хутка.

*2002 г.*

## Маравія

Як бясконца паўзе цягнік.
Чужыя краявіды
Скарачаюць шлях.

*2002 г.*

## Чужыя краявіды

Рыжая трава да небаспада.
І такое можна пабачыць,
Едучы праз Маравію раньняй вясной.

* * *

У чыста-белым пышным сьнезе
Гракі купаюцца,
Чорныя, нібы вугаль.

*2001 г.*

* * *

Карлікавая бяроза
і так пахілая,
А тут яшчэ й сьнег
На галаву зваліўся.

*2002 г.*

## Сьветлая раніца

Што гэта за сьветласьць добрая ў доме?
Аж гэта ноччу
Упаў на зямлю першы сьнег.

*2004 г.*

## Сьнежань

Вецер дыхне –
Зялёнае лісьце плакучай вярбы
Ляціць на марозны сьнег.

## Падае сьнег

Разьвіднела.
Ціха кружацца сьняжынкі.
І ўспомніў я вішняў цьвіценьне.

*1995 г.*

* * *

Першы сьнег.
Чысьціня-белізна.
Нават шкода ступаць.

*1995 г.*

## Адліга

Праз зімовае возера
Сарока ляціць,
Павольна, як страказа.

*2002 г.*



## Густы сьнегапад

Угінаецца гольле, як крыльлі млына.
На лістоўніцы сьнег веснавы.
І шчыміць мне з зімой расставаньне.

* * *

Сярод зімы, як пацяплела,
Канадзкі клён зацьвіў фарсіста.
Ну і дурны ж ты, браце, дурны.

*2002 г.*

## Халодная ноч

Зсякаецца дождж з тэлефонных дратоў.
Дарожка ад ліхтароў.
І ўспомніў, як печка гудзе.

*2003 г.*

## Пераходны стан

Неба, як малако, –
                        утапілася сонца.
І ветрык трывожны
На перамену вее.

*2003 г.*

## Вечар у Нью-Джэрзі

Месяц над полем,
                        нібы над Гаўёй.
Толькі што там за дом непадобны
Пад лесам?

*2003 г.*

*164а. Краявід з зімоавга сну. 1997 г.*



## Травеньскі стан

Душны дзень, вясеньні гром.
Над вечар град стукоча ў шыбы,
І пахне сьнегам у паветры.

*2002 г., Нью-Ёрк*

* * *

Набракла сакура дажджом.
Бела-ру́жавы цьвет
Калышыцца ветрам, як цэп.

*2004 г.*

## Пасьля дажджу

Прашумеў па тратуары з градам дождж.
Пабітая вяргіня,
Паламаная ветрам, ляжыць.

*2004 г.*

## Іду праз лес

Кладзецца прамень
між стваloў
На зялёны мох.
Сонца заходзіць.

*2004 г.*

* * *

Бачу здалёк:
Баравік у белай сухой траве.
І ня рушуся зь месца,
зачараваны.



## Восень залатая

Узьляцела сарока
На жоўты клён.
І пасыпаўся лістапад.

*2004 г.*

* * *

Круглы ліхтар
Цьмяна, як некалі ў Вільні, гарыць.
Асеньні мрок.

*2003 г.*

* * *

Ліхтар у цемнаце.
Ты, як надзея.
І матылькі лятуць.

*2003 г.*

## Ўвесну

Дзесьці на кудру ў палях
Заблукаў адзінокі качар
І крача цэлую ноч.

*1995 г.*

* * *

На фоне лесу нізка,
Нібы вялікія матылі,
Праляцелі белыя лебедзі.

*1995 г.*

* * *

З усяго нябеснага хараства
Найпрыгажэйшы ёсьць
жніваньскі месяц
Вечарам нізка
над зжатым полем.

*2001 г.*



* * *

Месячнай ноччу
Пераходзіў я ў брод Гаўю
І жменю вады зачарпнуў
Разам з поўняй.
Люляецца срэбраны круг.

*2003 г.*

## Начны вецер

Асеньняй ноччу
Пад ветрам
Узіраюся ў хуткія хмары.
Як імклiва ляціць месяц,
Як чорна-белы сон.

*2001 г.*

## Адзінокая гусь

Халоднай вясной
На праталіны ў полі
Апусьцілася шэрая гусь.
Пэўна, сілы няма.
Адляцела яе чарада.

## Вяртаюся з дарогі вясной

У сьветлым лесе,
Дзе цьвітуць ландышы,
Я прыпыніўся,
Каб чаромхі букет наламаць
Для каханай.

*1995, Менск*



## Хмарнае надвор'е

Дожджык вясеньні шуміць.
Што ты робіш цяпер адна?
Можа, як і я,
Праз мокрыя шыбы
Глядзіш у начное вакно.

*1995 г.*

## Сьпякотны поўдзень

Лета. Горача і суха.
Цень пад дрэвамі.
І ад праменьняў блікі на траве.
Чмель басавіты
Гудзіць у глухой крапіве.

## Хлеб

*Чым далей жывеш, тым больш прыгадваеш дзяцінства. Аднаго разу я запісаў:*

Хлебчык упаў мне з рукі.
Пакаціўся пад стол.
– Падымі й пацалуй, –
Сказала бабуля, –
Дар Божы.

*2002 г.*

## Гартаю альбом

Гледзячы на фатаграфію цьвітучай яблыні,
Успомніў я раптам юнацтва:
Усё, што на мне, куплена маці.
Ад’язджаю ў горад
І думаю пра самастойнасьць.

*1995 г.*

## Імгненьне з жыцьця ліса

У сьвятле фар
З цемнаты ў цемнату,
як страла,
Прамільгнуў праз дарогу ліс.
Так і стаіць уваччу,
Калі ўспомню далёкі час.

*1995 г.*

* * *

Ля касьцёла цьвінтар –
Залацісты дыван.
Палы ліст і туман.
Як бы хтосьці шаптаў,
Пакідаючы гэты сьвет.

## Царква ў Гайленд-парку

Сьпяваем гімн наш беларускі.
І бляск праменны ў вітражах,
І раніца сьвятая,
Й галубы,
І сьлёзы ў сябра на вачах.

*2003 г.*

## Рака Дэлавэр

Па старой праіндзейскай рацэ,
Між лясістых гор,
На фарб**о**ваных лодках
Плывуць з рогатам бледнатварыя,
Кока-колу п'юць.

*2003 г., Канэктыкут*

## Папугай

З клеткі адкрытай
Вылецеў папугай.
Пасядзеў на вішні маўчком
І зноў у клетку палез карміцца,
Дурань.

*1995 г.*

## Крывыя людзі

Чалавек, што жыве па праўдзе,
Ня стане хлусіць.
Бо ніхто не хавае справядлівасьці.
Але часам хлусяць так сабе,
Ад крывой душы.

*2004 г.*

* * *

Божая кароўка
                    ня ўзьлезе ніяк
На кончык травы.
Назіраю.
А ў думках далёка: Айчына.
Апошнія школы пазачынялі.

*2003 г.*

## Восень над палямі

Колькі разоў давялося мне чуць,
Як восеньскім змрокам
У небе
Крычыць адзінокая гусь.
Вось і цяпер
голас яе
вецер даносіць.

*1995 г.*

## Вецер

Цікае гадзіньнік
у цішыні.
У чужым доме,
У чужой краіне.
Сьвішча за шыбамі
Вецер асеньні.

*2006 г.*

# (З ЦЫКЛУ „ОТ ДОБРА”)

## „От добра”

*Некалі пачытаў я пару японскіх вершыкаў пра тое, як гэта добра, калі добра. І так мне тое пісаньне спадабалася, што й я напісаў, небарака. Бо нідзе няма так добра, як добра на Беларусі, дзе людзі вясёлыя, хоць і часу няма.*

* * *

От добра, калі на Каляды
Да дзядзькі прыедзеш,
А там парсюка закалолі,
Частуюць кілбасамі, вантрабянкай.
Гаворым сабе, разважаем.

*1996 г., Менск*

* * *

От добра,
Калі з сябрам спаткацца –
Тое ды гэтае,
А жонкі на кухні гамоняць,
І яечня сквірчыць.

* * *

От добра,
Калі, бывала, ў нядзелю
(Ці йшчэ бо калі)
Надакучлівы госьць прыпляцецца,
А цябе якраз дома няма.

* * *

Як добра,
Калі, бывала, ўзапрэлы бяжыш
І бачыш хвост адыходзячага цягніка.
А потым акажацца, што твой
Стаіць на іншай платформе.

* * *

Як добра,
Калі ў летнюю сьпёку
Парасон з сабою возьмеш.
Пасьля абеду дасьць дождж,
А ты йдзеш сабе, і хоць бы што



*169. Перапужаная чайка. 2002 г.*

* * *

От добра,
Калі, бывала, куры кудахчуць –
Ну, думаеш, шашок.
Ускочыш у хлеў з калом,
Аж гэта яны так сабе.

* * *

Як добра,
Калі ноччу марознай са станцыі йдзеш, –
Далячынь працінае вятрыска, –
А выпадковая машына спыніцца,
І падкінуць цябе па дарозе.

* * *

От добра,
Калі нахварэешся,
Наляжышся, напакутуешся,
А потым выздаравееш
І выйдзеш на двор.

*1995 г.*

* * *

От добра,
Калі пасьля доўгай вандроўкі
Вяртаешся,
А жонка цябе спатыкае
І пацалункамі абсыпае.

* * *

От добра,
Калі да раніцы пішаш,
А потым скончыш,
Выцягнешся на канапе
І спакойна засьнеш.

* * *

Бывае ў поўным тралейбусе
І зусім ужо немагчыма
Стаяць на адной назе.
А працісьнешся неяк, станеш на дзьве,
Дык от добра.

* * *

От добра,
Калі раненьнка ўскочыш,
І на працу бяжыш.
А там акажацца, што нядзеля,
Выходны, і ніхто не працуе.

* * *

От добра,
Калі студэнтам будучы,
Прыгожую дзеўку ў кіно запросіш,
А ў старым піджаку
Пад падкладкай рубель знайшоўся.

* * *

От добра,
Калі пойдзеш у краму капялюш прымяраць,
А ён каштуе так танна,
Што ты за адну зарплату
Яго адразу і купіш.

* * *

От добра,
Калі разамлеўшы ад жары,
Цэлы дзень на даху дранку прыбіваць,
А потым
У празрыстай Гаўі паплаваць.



*170. Беларускія прыпеўкі. 2003 г.*



*170а. Беларуская полька. 2003 г.*

* * *

От добра,
Калі сьпяваць часам хочацца,
Аж тут Вулька ідзе.
Дык насьпяваешся, накрычышся,
Аж аскому наб’еш.

* * *

От добра,
Калі цэлы дзень
Галодны на марозе швэндаешся,
А потым прыйдзеш дадому,
І кіслай гарачай капусты зьясі.

* * *

Як добра,
Калі на двары мароз,
А ўдома цёпла.
Сядзіш сабе ля вакна
І спакойна гэтак на сьвет Божы глядзіш.

* * *

От добра, калі ў шэсьць раніцы
Трох маскалёў
Прынясуць табе позву ў ваенкамат,
А потым аказваецца,
Што гэта не табе.

* * *

От добра,
Калі лятучы ў Парыж,
Ссабойку са скваркай возьмеш.
Сядзіш сабе ў гатэлі й жуеш,
Пакуль вустрыцы паднясуць.

## Інфляцыя

Як добра.
Бывала, купляючы кільку,
Забудзеш мільён у малочным пакеце.
Вернешся, а ён на прылаўку ляжыць.
І ніхто ня ўзяў.

* * *

От добра, калі бывала ў юнацтве
Рыбы бідон наловіш,
Ды вялікай,
А маці тады толькі чысьціць
Ды хваліць цябе, ды пахвальвае.

* * *

От добра, калі бывала
У чужым застольлі сядзіш:
Усе п'яныя,
А ты – цьвярозы.
І зматываешся неўпрыкмет.

* * *

От добра, калі бывала ўлетку
На беразе рэчкі сядзіш.
А жонка сабе плавае, плавае
Ды нагамі малоціць, пырскае
І рагоча сабе, заліваецца.

*1995 г.*





*172. Вежы касьцёла ў Слабодцы. 1968 г.*

# Вершы васьмідзесятых гадоў



## (З ЦЫКЛУ „О, БЕЛАРУСЬ, МАЯ ЛІТВА!”)

* * *

Паміж гор і лясоў
У абдымках галін
Узвышаюцца вежы
Вышэй верхавін.
О, Бацькаўшчына,
Любая і прыўкрасная!

## Хараство

Адгрымеў маёвы дождж
над жытам
З бліскавіцамі.
У глыбінь небаспада сплыла
цёмна-сіняя хмара,
Над узгоркамі
Вясёлку вісець пакінула.
Апантана зьвіняць жаўранкі –
Не нацешацца.

*1984 г.*

## Мілавіца

Ціха зорка ўзышла ў вакне –
Мілавіца.
Колькі згадак прынесла
з сабой.
Выйду на ганак –
І думаю пра Багдановіча,
Гледзячы ў сіняе неба.

*1985 г.*



## Ноччу іду па зімовым лесе

Вецер начны наляцеў
На засьнежаны ельнік,
На дуб векавы.
Зашумеў, як жывы.
Цьмяна выглянуў месяц з-за хмар.
Агартае дрымота мяне і спакой --
Прачынаюцца продкі ў крыві.
Дружа, лес дарагі,
Пагаворым на мове з табой.

*1984 г.*

## Коні

*(практыкаваньне на беларускую тэму)*

Цёплы туман па даліне Гаўі
Плыве, нібы рэчкі дух.
І пранесьліся коні
ў тым тумане.
Толькі пошчак чуваць,
Толькі грывы відаць...

Ах, вы коні, мая доля,
Ах, вы коні, мае мары –
Толькі вырвуцца з-пад сэрца
І раставлі ў тумане.

Век жыві на Беларусі –
Ні дабавіць, ні адбавіць:
Кожын сам сябе шануе,
Кожны сам сваіх нясла віць.

Ах, вы коні, мае птахі,
Аднясіце мары ў вырай,
Хай з далёкае старонкі
Над Айчынай пралятаюць,
Паскідаюць пёркі гускі,
Можа песьняй стануць.
Можа стануць маім лёсам,
Можа я прад доляй вінны.

Князь Вялікі Вітаўт слынны,
Леў Сапега, Радзівіл
Дзясьніцай ворага трымалі,
Ніхто сьвятынь
ня мог крануць!

Цяпер забылі іх імёны.
Перад чужынцам каркі гнуць
„Адукаванцы”, лаўрэяты,
Антыхрысты, бюракраты...

Ах, вы коні, мае птахі,
Дзе вы, мае песьні?
Мне раней бы,
Ці пазьней бы
Нарадзіцца ўвесну,
Разам з вамі ў пагоні
Праляцець над полем.
І пад Вільняй крутагорай
Адпачыць на волі.
Пранясьліся коні ўлегцы.
Аніхто ня бачыў.
Туман ярам, туман ярам...
Коні вараныя...

*1988 г.*



## Туга па роднай старане

Што можа быць страшней
У роднай старане
Тугі па роднай старане.
Што можа быць цяжэй
За адзіноту
Не ў адзіноце.
Пагавару я сам з сабой,
І не ў самоце дзень міне.
Што можа быць цяжэй
Тугі па роднай старане.

*1981 г.*

## Зімовая ноч удома

Месячны бляск на падлозе
І цень крыжавіны вакна
Мройна спаўзаюць
пад цёмны парог.
Усяленская ціша ў доме начным.
Срэбрам іней блішчыць
на галінах рабін.
Выглядаю на двор:
Аж іскрыцца асьнежаны тын.

*1983 г.*





*177. Зімовая „Ганна” і „Бернардынец”. Вільня. 2000 г.*

## Дыфірамб Вільні

Ты ўзьнята крывіцкімі даланямі
Над вечнаю плыньню Вяльлі,
О, Вільня, ты наша надзея і сіла,
Воля і слава!
Ты здароўе наша,
Ты наша збаўленьне,
Ты зорка ў кароне
Найлюбшае нашай Літвы,
Ты сэрца наша жывое,
Вырванае з грудзей.
Стагоддзі тапталі дарогі к Табе,
Ўсе шляхі вядуць да Цябе…
Не пакрые трава нашы сьцежкі,
Пакуль мы жывём...
Пакуль пульсуе кроў…
Пакуль ёсьць Беларусь...
Гучна сьпяваю я
Песьню хвалы.

*1983 г.*

## Шыбеніцы

Што наканавана тым,
Што забылі
Пра шыбеніцы на плошчах?

*1986 г.*

## Млын

Вольха старая высока расьце,
Вяршыня яе ў млыновым вакне.
На выспе
шалёваны гмах.
Вадаспад.
Шыбы ў муцэ.
Мох на сьцяне.
Жорны гудуць.
Белая пена плыве па рацэ.
Патанае альховае лісьце ў вадзе...

*1985 г.*

## Паўдзённая цішыня

Вось затока Гаўі.
У люстры вады нерухома застыла трысьцё.
Раскрываецца белы гарлачык,
І крылы стракоз шапацяць
над плакучай вярбой.
Не гайдаецца бурая раска
Ля сьцябла асакі.
Моцна плюснуў шчупак.
Гэты гук, нібы стрэл у цішы.

# (З ЦЫКЛУ „КРАІНА”)

## Раніцай за сталом

Надта люблю глядзець
на касьцёл, –
Радасна сказала маці.
Серабрыстая вежа ў вакне.

*1987 г.*



*178. Суботніцкі касьцёл. 1965 г.*



## Праз вакно назіраю за бусьлянкай

Такі лівень,
Што схаваўся сьвет.
А бусьліха ж сядзіць.

*1992 г.*

## Сьвежы вецер

Маліньнік пад ветрам
бялее ля вольхаў.
Першы шквал.
Навальнічная хмара плыве.

*1987 г.*

## Асеньняе падарожжа

Гудзіць матор.
Зьмятае вецер скручанае лісьце
З асфальтавай шашы.

*1987 г.*

## На прыёме

Якія халодныя вочы
ў гэтага бюракрата.
І рука, нібы рыба.
А распытвае пра здароўе.

*1988 г.*

## Размова з тутэйшым бюракратам

Гэй, бюракрат!
Скажы на мове пару слоў.
– Не могу-у.

*1986 г.*

## Камунізм

Увесь час адно і тое ж:
Хлусяць, хлусяць, хлусяць.
Нават праўда здаецца хлусьнёй.

*1987 г.*



## Гракі

Ударыў мароз –
І сьнег зацярушыў замерлыя сосны.
Прыляцелі гракі пад вакно.
Цэлы дзень на галінах сядзяць,
Унурыўшы дзюбы ў пер’е.

*1986 г.*

## Гляджу з вакна на сіні лес

Раніцай шэрыя хмары на ўсходзе
Зь ветрам хутка бягуць.
Рэдзенькі сьнег
Наўскос працінае пад елкамі цень.
Раптам ясны прагал
Над вяршынямі сіняга лесу –
Пырснуў сонца прамень,
асьвятляе сьняжынкі:
Нібы лета дыхнула
з-за хмар.

*1983 г.*

## (З ЦЫКЛУ „АКУПАЦЫЯ”)

### Мэлёдыя гучаньня

Чуваць галасы
за вагоннай сьцяной.
Не разьбіраю слоў,
Але ведаю, што свае.

*1987 г.*

### Сквер

Вунь бачыш на лаўцы
Уедліва „Праўду” чытае дзядок.
Замухрышка.
За Сталінам колькі зглуміў людзей.

*1987 г.*

### ЦэКа

Доўгі калідор, усланы чырвоным
радном сінтэтычным,
І дзьверы з чырвонага дрэва,
Паркет, габелены, кандыцыянеры,
А дух, нібы ў труне,
І цішыня магільная.
Эх, засьпяваю я песьню народную:
– Гэй!
Павылазілі мерцьвякі
з шмараваных дзьвярэй
І люта глядзяць на мяне,
губы сьцяўшы.
А я ж яшчэ і не сьпяваў,
Толькі думаў запець, хвароба на іх.
Дзе тут выхад?
Мо’ ўжо зачынілі!

*1984 г., Менск*

## Падарожжа ў краіну мёртвых душ

Я вярнуўся ў край, дзе быў адсутны.
Там я спаткаў сваё першае каханьне.
Яно глядзела на мяне пустымі вачніцамі
І шваргатала.
Тады я пайшоў да старой яе маці
І спытаў:
– Чаму шваргоча мёртвая галава,
Хіба мала слоў?
– Усе шваргочуць, – пачуўся адказ.
І я ўбачыў пустыя яе вачніцы.
Тады я пайшоў да прашчура гэтых людзей
І сказаў:
– Ты мудрэц. Чаму шваргочуць усе?
Але прашчур быў глухі
І нічога ня чуў.
Я напісаў на пяску свой зварот,
Але прашчур быў сьляпы
І нічога ня бачыў.
Тады я кінуўся да немаўля ў калысцы
І доўга казаў яму словы,
Але немаўля не разумела мяне.
І я ўбачыў пустыя яго вачніцы.
І, як ад сьмяртэльнага холаду,
Зьледзянела мая душа...
Але хіба можна забыць
Першае сваё каханьне.

*1983 г.*



# Прывід Рэйтана
*(Прыпавесьць)*

Аднойчы восеньню, калі было сыра і нудна,
І бясконца ішоў дождж,
Усе сказалі:
– Пойдзем тапіцца, – і накіраваліся да рэчкі.
– Спынецеся! – сказаў Адзін
і стаў у дзьвярах.
– Хіба ня міла вам жыць?
– Надакучыла, – адказалі ўсе, –
Пойдзем разам.
– Жыцьцё – гэта дар, а ня наша ўласнасьць, –
запярэчыў Адзін, –
Не баіцеся Бога.
– Не вучы нас, як жыць! – закрычалі яму, –
Прэч з дарогі!
Але Адзін лёг упоперак на парозе.
– Ідзеце праз маё сэрца, якое баліць за вас.
Гэта моцна раззлавала ўсіх.
– Ён плюе супраць ветру! –
закрычалі вакол.
– Ён супроцьставіў сябе ўсім.
– Гэта вораг усіх, – сказаў нехта.
– Хто адданы народу, той ідзе зь ім у воду!
– Пакараць яго! – залямантавалі наўкола.
– Сьмерць таму, хто стаіць на нашым шляху!
– Утапіць! – прысудзілі суддзі.
Аднаго схапілі і кінулі ў вір.
І не ўсплыло яго цела...
А была восень.
Бясконца ішоў дождж.
І было гэтак сыра і нудна,
Што ўсе разышліся,
упэўненыя,
Што цяпер іх жыцьцё
палепшыцца.

*1984 г.*



*182. Сакавік у Суботніках. 1959 г.*

## Каўчэг

Неба ў хмарах.
На гары
Завіхаюцца цесьляры.
Будуюць каўчэг.
Рагоча пастух
Пад гарой
З транзістарам „Акіян”,
Тыцкае пальцам з дна акіяна.
Вялізнае стойла кароў –
Жуюць і жуюць сваю жвачку…
Галубка і галубку, сабачку
І жменю зямлі,
Не стаптанай капыцьцем,
На борт аднясіце.
А ветразь хай будзе вам зь лёну.
Спачнуць у ім душы
Памерлых, забітых, загнаных
За долю, за волю,
За прышласьць сваю –
Вязьмо безыменных паэтаў.
О, Беларусь!
Як кужаль Твой белы
Напоўнены ветрам!
Як неба Тваё пачарнела!
О, скарб наш апошні –
На тысячы ветразяў
праведных душ.
Ці чуеце горнія песьні?
Хутчэй завіхайцеся, цесьлі.

*1987 г.*



## Мне б дажыць

Чым больш жыву –
Тым болей страт.
І зашываюцца сябры
па хатах
Між жонак і дзяцей...
А мне б дажыць,
Мне б толькі ўбачыць
Мой народ свабодным!
О, воля наша нарачона!
Мне б толькі дачакаць,
Як здохне зьвер чырвоны.

*1987 г.*

## Прадчуваньне бяды

Бачу мноства пачвар пад дрэвамі.
Рабая сьвіньня ў гамаку
Задзірае ўгару капыты.
Сноўдаюцца каросьлівыя сабакі,
Гаўкаюць на ўвесь лес.
Ляжыць кілбаса ў дэкальтэ.
Рохкаюць япрукі,
Рыюць пад дубам карэньні...
А вецер у хвоях шуміць,
Трапеча ў лісьцы асін.
І ніякіх ім спраў да пачвар,
Да ўсіх.
Да пустых берагоў,
Да агнёў,
Што попельна ліжуць траву языкамі,
Да цынкаваных трун,
Што грымотна лятуць над палямі,
Да руін,
Да забытых сьвятынь...
Ужо даўно не жывуць чалавекі.
Зорка шчасьця ў глыбіні нябёс
адляцела...
І ніякіх ім спраў...
Толькі ў соснах высокіх
Вершаліны ссохлі
І лісьце бяроз пажаўцела.

*1985 г.*

## Вёска Зялёны луг
*(Апавяданьне)*

Дзе вёска некалі стаяла –
цяпер мікрараён.
З дамоў камфортных – від.
З вакон дзевятага паверху
Так вока суцяшае лясісты краявід...

Там чвэрць мільёна душ нявінных
Беларусоў – цьвет нацыі,
Пад шыльнікам ляжыць
Замучаных, забітых, скатаваных.
І вымірае памяць навакол
У вёсках здратаваных.

Пяць год перад вайной,
Штодня, штоноч
машынамі вазілі.
Вязалі,
ламалі рукі,
білі,
Сьмярдзючым коркам затыкалі рот,
Каб слоў ня чуць на мове людзкай,
І па-майстэрску ў галаву
Стралялі куляй з матам рускім.

Калі ж магілу напаўнялі,
Насьпех прысыпаўшы пяском,
Сасонку кволую страмлялі,
Ды толькі дрэўца не расло.

О памяць наша зямная!
Схаваў цябе лясны прасьцяг.
Як праваліліся пад вамі
Пяскі і нетры на касьцях!

Стаіўся сталінскі бандыт.
Хавае хвост забойца:
„Расьці, расьці, яловы лес,
Гуляй, гуляй, прапойца!”

Калі ж апошні сьведка дзён
У дол пясчаны зыйдзе,
Тады ізноў крывёй бакал
Налье сатрап і злыдзень.
І баль пачне
сярод чумы чырвонай,
Каб выпілі да дна
І вымерлі пад корань.

Мінае час і пакаленьні,
Але не стане кроў вадзіцай,
Хоць сто гадоў хай праміне.
Ня будзе нават камуністаў,
Ды не даруецца Маскве.

Зьвер зьвера пакрываў,
Масква Маскву хваліла.
Бяздоньне подлае хлусьні
Народы, душы затапіла.
Не забывайце ж памяці сваёй,
Каб зьверства
людзькасьць
не забіла.

*1988 г.*

## Дрэвы продкаў

Я прыйшоў у лес,
Дзе расьлі дрэвы маіх продкаў –
Кашлатыя яліны і сосны,
сьветлыя бярозы.
Добра гаварыць зь імі,
нібы зь дзядамі.
Чую раптам чужыя галасы
ў запаветных мясьцінах.
Чую сьмех нахабны.
Уяўляю іх п’яныя вочы
і круглыя каркі,
Абліччы, нібы мішэні.
І, як спружына,
імкнецца да зброі рука.
Толькі не было ў мяне
ніякай зброі,
Акрамя чаканьня,
Калі зь любоўю ішоў у лес,
Дзе расьлі дрэвы маіх продкаў.

*1984 г.*

## (З ЦЫКЛУ „ДНІ”)

### Водар настурцыі

Дожджык ноччу адшумеў.
Толькі выйшаў на ганак
чуць сьвет –
Тонкі водар настурцыі
ў летняй цішы
Над срабрыстай расой стаіць.

*1983 г.*

### Язьмін

Кожны дзень назіраю,
Як квітнее язьмін.
Сёньня прыйшоў –
абламанае гольле.

*1987 г.*

### Пад шум лістоты

Конік квола стракоча
ў жоўтай траве.
Адцьвілі сухавейкі.
Жнівеньскі вецер.

*1982 г.*



## Вечар на ўскраіне горада

Вечар надходзіць.
Сонца залоціць верхавіны хвой за вакном.
Фіялетавы дым над дарогай.
Самалёт праляцеў.
Трымцяць шыбы.
Адбіваюць вясёлкай барвяныя блікі.
Сьціх прарэзьлівы гуд.
Вось і першая зорка ў небе відаць.

*1984 г., Менск*

## Яблынёвае лісьце

Рэдкае лісьце яблынь
Відаць праз гардзіну вакна.
Трапеча на ветры.
Ярка мігціцца скрозь іх неба сівое.
Холадам вее.
А толькі ж учора нябёсы цьвілі,
І хадзіў я ў духмяную цень,
І спадалі пялёсткі ў траву.

*1984 г.*

## Ціхае лета ў жніўні

Падымаецца сонца павольна,
Саграваае бетон і траву.
Пакрываецца пылам асфальт.
Хтось зьдзічэла крычыць у двары.
Усе прывыклі.
Па справах ідуць і без спраў.
Дзед у футры старой апусьціў галаву,
Увесь глыбока ў думках сваіх,
Не зважае
І адсутна глядзіць на пясок:
Прасяваецца лёс.
Ружавее рабіна,
Цёплы ветрык у гронках
гуляе ігрыва.
Усё былое плыве прад вачыма.

*1984 г., Менск*

## Плот

Дашчаты плот перада мной.
Хачу абыйсьці –
Здаецца, ня будзе яму канца.
Бачу за плотам
Чыёйсьці паўгалавы.
Злосныя вочы глядзяць на мяне
І рука з цыгарэтай нэрвова дрыжыць.
Мінаю, нарэшце, глухую сьцяну.
У адкрытае поле іду.
Сьвідруе патыліцу позірк усьлед.
Назірае маю хаду.

*1983 г.*

## Жнівень

Ноччу з поўначы цёплы вецер павеяў,
Прынёс чорныя хмары.
Не ўвядзе мяне ў зман
Цёплы вецер паўночны ў жніўні.
Вось і ранак пачаўся халодным дажджом.
Белая пара стаіць над Гаўёй.
Тлумы шэрых шпакоў паляцелі на ржышча.

*1983 г.*

## Прыцемак халоднай восені

Запаліліся зоркі ў небе,
І холад павеяў зь цёмных палёў.
За сьпіною агні і цяпло пад страхой.
Тварам да ветру стаю.
Пах бульбянішча, мерзлай зямлі адчуваю.
Пошум крыльляў вышэй верхавін –
Шэрыя гусі лятуць.

*1984 г.*

# Аўтобус

Аднойчы ў аўтобус
Зайшоў чалавек,
Шэры і непрыкметны,
Як і ўсе, хто ехалі побач са мной.
Ня памятаю яго аблічча,
Не глядзеў яму ў вочы,
Ня чуў яго голасу.
Ведаў толькі пра яго прысутнасьць,
Бо стала кепска, непрытульна,
холадна і трывожна.
Ня мог сканцэнтравацца на думках,
Асэнсаваць уражаньні за вакном,
Адключыцца ад гаманы.
На прыпынку ён выйшаў
І зайшоў іншы,
Шэры і непрыкметны,
Як і ўсе, што ехалі побач са мной.
Ня памятаю яго аблічча,
Не глядзеў яму ў вочы,
Ня чуў яго голасу,
Не адчуваў прысутнасьці,
Бо сканцэнтраваўся на думках,
Радаваўся краявіду
І адключыўся ад гаманы.
А калі выходзіў,
Незнарок сустрэўся
Зь ветлым поглядам
шэрага незнаёмца.
І так пацяплела на сэрцы.

*1982 г.*





## Мой лес

У дарозе, ля горада, ў лесе,
Дзе поўна чужых людзей
Галёкала, ламала кустоўе і дрэвы,
Піло, ела, паліла агні,
Ляжала пад сонцам дармовым,
Засьпеў мяне дождж
Зь ветрам і градам.
У момант усё апусьцела,
І бурны струмень
Каляровае сьмецьце панёс.
І радасна мокнуць мне
Ў лесе маім,
І люба мне стыць
Пад ветрам і градам.

*1983 г.*

## Асеньняя ноч

Празрыстая, нібы шкло,
Асеньняя ноч стаяла.
Іду на балкон з цішыні.
Серабрацца ўнізе іголкі сасны.
Месячны бляск на бэтоне сьцяны.
Бачу, іней кладзецца на квет,
Ад дыханьня майго растае.
Хмарка шэрая Месяц схавала,
Пасохлыя астры
На зьмерзлых сьцяблах.
Над Зямлёй, нібы сон,
Асеньняя ноч маўчала.

*1985 г.*

## Верасень

Шэлест кволага лісьця асіны
І халодная сінь угары.
Тлее сонца ў смузе на заходзе.
Пах верасны.
Чапляецца плашч мой за гольле
шыпшыны.

*1983 г.*

## Згукі

Ападае на дол
Вечарам з клёна апошні ліст,
Гайдаецца, доўга ляціць.
Беспрасьветная ймгла на Зямлі.
Раптам дзесь, нямаведама дзе,
Загучэла мэлёдыя Сольвейг,
І пачулася музыка Грыга.
А мо' гэта прысьнілася мне?
Груша грабае гольлем
па голай сьцяне.
Павуціньне ляціць пуцявінай.
Моцна сэрца забіла ў скронь,
І зьмянілася сьвету карціна.

*1983 г.*

## Камяні

Гучыць Купалавая ліра...
О, колькі камянёў паэту
На галаву, на рукі белыя, ў душу...
За тых, што ў голадзе, ў сярмязе,
За тых, што вышлі зь небыцьця
І пнуць купалава нагамі,
Шукаюць панскага жыцьця.
„Яшчэ бізун замала хухаў,
Замала пёк рабоў пакорных...”
Замала сыпаў соль на раны –
Так напаілі ўсіх атрутай,
Ажно патомак яшчэ п'яны.

Гучы, Купалавая ліра.
Гучы на грузах забыцьця.
Гучы для тых,

Хто „край зьніштожыў
І к цемрам вечным кладкі мосьціць...”
Гучы, хаўтурная Куцьця.
Пад крыжам бацькі-самагубцы
Не, не заплача рэнегат.
Забойца брата, здраднік маткі,
Як з чэрні чэрнь, так з ката кат.

Гучы, Купалавая ліра.
Гучы над подлаю кляцьбой
Прысяга вернасьці мамоне –
Жабрацкі сьцяг над галавой.
Усё ўзяць, схапіць, дай мне, маё,
А нашага – нічога.
Шпурнуў пад ногі казнакрад
Прадзедавыя гусьлі,
Што славу продкам ракаталі.
– Вперёд, вперёд! – гнюсавіць рот
І ... растапталі капытамі.

Гучы, Купалавая ліра.
Над пілавіньнем дзён забытых,
Над нематою душ забітых.
Як перад сконам рагаталі.
Віруе п’яная гульба –
Учора матку пахавалі.

Гучы, Купалавая ліра.
Гучы над магіяй ракет.
Йшчэ камсамолец Швондрык Веня
Сказаў усім, што Бога нет.
Дзе храм стаяў, дзе пелі Псальмы,
Зіяе чорная дзіра.
Паганцы, ведзьмы, скамарохі –
Шалее Лысая гара.

Гучы, Купалавая ліра,
Шугай, як полымя, з грудзей.
Глядзіце ўсе – ілжэ з трыбуны

Перакананы прахіндзей.
„Слуга народа”, дабрадзей
Да скону мову зьневажае,
Ён першы вораг і зладзей.
Вось іншы выхадзец з народу,
Той растлусьцелы маладзік,
У крэсла тулава ўшчыміўшы,
Ніяк ня вырве свой „язык”.

Гучы, Купалавая ліра.
Гучы над трунамі надзей.
Дзе сад квітнеў, расьце кукольле
Над запаскуджаным дунаем,
Дзе дух лунаў – сядзіць жывот
І ўпраўляе тваім краем.

Гучы, Купалавая ліра.
О, колькі камянёў...

*1987 г., Менск*

## Цьвіце груша

Зацьвіла груша пад вакном.
Пасьвятлела ў хаце маёй.
Толькі ўдома мяне няма.

*1985 г.*





## Вярба

Парахнее вярба пры дарозе,
Ломіцца крохкае гольле.
Наляцеў вецер цёплы заходні –
Застагнала ў камлі так жалобна.
Пазьляталі гракі зь верхавіны,
Абваліліся долу лісты,
Абсыпаецца цьвіль і кара,
Вось абрынецца ўніз,
Ужо скрыпіць, як іржава піла.
Пазіраю трывожна ў вакно.
Адляцелі вятры сорак раз,
Белы сьнег ападае зь нябёс,
Абсыпае маю галаву.
А дрэва старое стаіць і стаіць
на шляху,
Дзе іду без сьлядоў.
Штось слабее мая хада.
Азірнуцца хачу,
Ці жыве пры дарозе вярба?

*1984 г.*

## Пахаладаньне

Халодныя дні, вецер паўночны.
Толькі і радасьці мне:
Цэлае лета цьвіце язьмін
І буйна расьце трава.

*1985 г.*

# (З ЦЫКЛУ „ПЕРАХОДНЫ СТАН”)

## Страла

Нацэліў вастрыё стралы
У неба.
І звонка зазьвінеў мой лук.
Імкліва пёркі зьніклі ў бяздоньні.
Куды ж ляціць страла?
О, цяжкае зямное прыцягненьне!
Ты падаеш назад.

*1982 г.*

## Халодная раніца

На жоўтых вяргінях – раса.
Туман над іржышчам.
Вось і гэтае лета мінула.

*1982 г.*

## Вішня

Вішня ля дарогі
так шчодра зацьвіла.
Куды вы сьпяшаецеся,
гледзячы пад ногі?

*1987 г.*

## Думаю аб мінулых днях

Бліснула маланка.
І асьвяціла Тваё аблічча –
Вобраз у маёй галаве.

*1985 г.*

## Выпадковасьць

Перабег цераз вуліцу ў дождж.
На секунду зірнуў – лісьце ліп.
А сёньня ўспомніў ізноў.

*1985 г.*

## Лінія дня і ночы

Толькі патух на вежы
Апошні прамень –
Месяц чырвоны ўсплыў.
Цень вечаровы
                    гусьцее за храмам
У суччы брызглін.

*1987 г.*

## Цікаюць ходзікі

Цікаюць ходзікі ў цішыні,
І жоўтыя цені ад лямпы настольнай,
Быццам хмары, вісяць на шпалерах.
Мо' сплываюць па шыбах
                    халодныя кроплі,
Можа, вецер асеньні шуміць у лясах,
Можа, гусі ляцяць паднябесьсем?
Не, дарма, мне здалося ўсё.
Сьцелецца ліпкая ноч, нібы сон,
Цікаюць ходзікі ў цішыні,
І жоўтыя цені
                    вісяць на шпалерах.

*1984 г.*

## Пустэча

Вось абвуглены дуб.
Вось зьнявечаны крыж.
Як адбудаваць храм,
Якога няма?
Гэй, вы!
Перастаньце галдзець!
Вароны на цьвінтары.

*1987 г.*

## Рабства

– Чаму ў вас
такія распусныя дзеці
растуць?
– Мы вучым свабодзе, –
Прамовіў мне з гонарам раб.

*1988 г.*

## Зязюля

Няма больш шчымлівай пары –
Куваньня зязюлі вясной.
Раз, два, тры...

*1987 г.*

## Цёплая ноч

*Калісьці даўно, у апошнюю ноч жніўня, я прышоў на бераг Дрывят. Вецер з гаркавым дымам прынёс з палёў подых восені, і такая журба наплыла на мяне. Шкода, што канчаецца лета, што так хутка праносіцца час... Можа там, на другім канцы Сьвету, за мільярдамі зор, такі ж, як і я, на беразе возера. Ці спаткаемся мы калі з табой? І тады напісаў я сабе:*

Нябачныя хвалі шумяць,
І конікі ў палыне.
А як там?
Над магілай
забітага сябра.

*1987 г.*

## Галька

Плюскаюць хвалі ў бераг марскі,
Коціцца галька ўсьлед за вадой
Тысячы год.

*1985 г.*

## (З ЦЫКЛУ „ЗАЦЕМКІ”)

### Раздумляю
### перад кустом лазы

Цёплы дожджык дыхнуў з-за Пцічы.
Мільгае, пласкочацца лісьце лазы.
Квітнеюць лугі, сітнягі...
Прырода патрабуе адзіноты,
Каб захапляцца яе красой.
Аднак, ходзячы ў гэтым раі, уяві –
Ты адзін на Зямлі.
Сонца памеркне ад жаху.

*1985 г.*

### Загана

Чаму непрыемна аблічча
з адбіткам заганаў?
Чым агідная загана?
На ёй відаць
пячатка сьмерці.

*1986 г.*

* * *

Самая вялікая радасьць
Дасягаецца ў сумоўі зь людзьмі.
Самая журботная думка,
Што непакоіць, –
Як будзе потым,
Пасьля жыцьця.

*1983 г.*

# (З ЦЫКЛУ „ЖЫВАЯ СІЛА”)

## Жывое

Думаю пра магчымасьці духу.
Кволы расток таполі
Асфальт праламаў.

*1986 г.*

## Хіба ня бачыце?

Вы ўсё пра каханьне
Складаеце радкі.
Жадаеце, каб вас кахалі.
А хіба ня бачыце,
Як высахла без любові
Наша Зямля?

*1987 г.*

# (З ЦЫКЛУ „МЕНСК”)

## Шэрая патыліца

Я пайшоў пагуляць
па любімых мясьцінах.
Але на Дамініканскай
Заўважыў перад сабой
шэрую патыліцу.
Яна засланяла муры.
Тады я спусьціўся ўніз
у Траецкі квартал.
Але нічога ня ўбачыў
з-за шэрай патыліцы.
Зайшоў у карчму –
Шэрая патыліца загарадзіла вакно.
Тады я загаварыў з сябрам.
Але ніяк ня мог убачыць
яго аблічча.
Замінала патыліца.
Нічога ня зробіш.
Ехаў дадому і назіраў,
Як трасецца перада мной
шэрая патыліца.

Аж вушы варушацца,
нібы лакатары.
Вышаў раней,
так спракудзілася.
Прыйшоў,
а на лесьвіцу не прабіцца,
У дом не зайсьці –
адна патыліца.
І тут я ня вытрымаў.
Як даў па патыліцы,
Толькі гузікі зазьвінелі.
І падумаў:
От дурны,
трэ' было адразу даць.

*1986 г.*

# (З ЦЫКЛУ „РАДЫЯЦЫЯ")

## Далёкі атамны выбух

Мой дом – мой замак
і цямніца.
Пыл радыяцыі
і вецер за вакном.
Бязьлюдны сад,
дзе заліваюцца яшчэ шпакі.

*1986 г.*

## Гама

Дзесьці ў Маскве
Рэпеціруе гамы
Вова-вундэркінд.
А ў Хвойніках з дрэў
Абсыпаецца гама-дождж
На гора маёй зямлі.

*1987 г.*

## Радыяцыя – 1

Апускаецца атамны пыл
на Зямлю.
Яшчэ радыё грае
і песьні пяюць.
І белы голуб
сеў на падваконьнік.

*1986 г.*

## Крык

Пачуўся крык у зьсечаным лесе.
Я азірнуўся –
Прада мной доўгая вуліца:
Пад сонцам сьпякотным
Плойма народу плыве.
„Стойце! – пачуўся ізноў гучны крык, –
Куды йдзяцё?!”
Але ніхто не спыніўся.
Толькі вецер гарачы павеяў зь бялёсых нябёс,
І ледзь чутна зямля затрымцела.

*1983 г.*

## Кавалёк

На траве – кавалёк.
Дакрануўся рукой – сядзіць.
Пэўна, хворы.

# (З ЦЫКЛУ „ЧУЖАЯ ВАЙНА”)

## Вяртаньне з Аўганскай вайны

„Іванька малодзенькі
Ідзе невясёленькі...”

*(З народнай песьні)*

Іванка вяртаўся.
Як здоўжыўся шлях над гарамі.
Дзе Вы, бацька мой любы
І маці мая любая,
Што на заводзе футаралаў
Фарбуе тэлевізары...
Як гайдаецца цынкавы мой самалёт
Над Дзьвіной,
Як воблакі серабрацца...
А вунь у садочку дзяўчына мая.
А вунь на парозе матуля мая.
А вунь каля брамы мой бацька стаіць...
Не спаткай, не глядзі на мяне да
сьвітаньня.

Не кладзі мне
чырвоныя кветы.
Лепш хай прыме труну
той маскаль-ваенком.
Мне яго не дастаць з таго сьвету.
Паслухайма...
Як чыркаюць вераб'і на могілках
У бэзавых кустах,
Як лісьце шуміць у тапалі.
Там, далёка, ў пустыні сухой,
Дзе вецер гарачы на волі,
Плача Фатх і бедная Сулейма
Над сынам сваім у юдолі.
Праклінае мяне ў труне.
Праклінае мяне ў палёце.
Праклінае мой край,
Праклінае народ мой харошы.
Зірні.., як ластаўкі ў небе лунаюць
Над правадамі.
Напэўна, заплоцяць Табе за мяне.
Талоны на грэчку і льготы...
– Кончаем обряд, – ваенком
загадаў, –
Он долг свой отдал.
Он умер, как все патриоты.

*1988 г.*



*188. Расейцы. З цыклу „Акупацыя". 1964 г.*

## Дзень вечны – дзень апошні

Адгрукатала кананада,
І танкі адышлі.
Крывёй сьцякаючы на полі,
Адзін ляжыць
Яшчэ жывы.
Імгліцца майскі дзень,
Аблокі, канае кволая душа.
Сьпявае шпак,
Вітае раньне,
І нізка-нізка над вадой
Гарэзы ластаўкі ляцяць.
Пэўна, перад дажджом.

*1982 г.*

## Вы

І вы баіцеся вайны?
А завошта сынок
Забівае людзей у гарах?

*1987 г.*

# (З ЦЫКЛУ „ПАГАНСКІ ДУХ”)

## Асеньні змрок над Клявой

Гадзюкай плыве Кляв́а
з Клявіцы ў Гаўю
І зьнікае ў змрок.
Як луска, зьзяе стужка яе
ў асеньніх лугах.
Лес кляновы даўно не шуміць.
Зьнік дазваньня, пасох.
Спарахнелі пашчэмкі дзікоў на кары.
Толькі верас і жоўтыя травы шумяць,
І кустоўе лазы.
Хаваецца сонца ў чорнай ральлі.
Патухаюць чырвоныя хмары,
Сінеюць, бягуць над лясамі.
Вецер птушкай начной
Над халоднай вадой
адлятае.

*1984 г.*

## (З ЦЫКЛУ „ЛІСТЫ ДА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ”)



### Іду пехатой

Не сьпяшаю дамоў.
Яшчэ сонца высока –
                    пагодныя дні.
Разглядаю наўкол
                    далягляды Твае і лугі.
Доўга стаю пад сасной.
Уецца стужка Гаўі,
Палошча на дне вадзяную траву.
Усё відаць з вышыні.
Пыл курыць на дарозе.
Далёка за купамі дрэў
Чую трактара стрэкат.
Прывык да яго,
Нібы даўняга сябра сустрэў.
Гуляюць вятры на гары –
Песьні коніка ў шэлесьце траў.
Іду цераз поле, каменьні, імхі,
                    баразной.
Ах, як шкода,
                    што ўсё праміне –
Сьмерць разлучыцць з Табой.

*1985 г.*

### Сьвятло любові

Як добра сузіраць
Ціхую Тваю красу;
Твой погляд,
                    поўны пяшчоты і ласкі.
Быццам срэбныя промні
                    ў майскую ноч
Плывуць з-за празрыстых хмар.

*1985 г.*

## (З ЦЫКЛУ „КРЫМ”)

### На магіле Багдановіча

Пад дрэвамі,
дзе цень халодных
надмагільляў
Каток ласкавы падышоў
І замурлыкаў ля нагі.

*1992 г., Ялта*

### Ялта

Сьпякота. Адчыненыя дзьверы.
Бадзяюцца расейцы
па магазінах,
Усім нездаволеныя.

*1992 г.*

### У ханскім палацы заходжу ў пакой фантанаў

Толькі жорсткі,
чульлівы ўсход
Мог прыдумаць
сьлязы фантан.
Задуменна гляджу
на крывы ятаган,
Ручка зашмальцавана.

*1992 г., Бахчысарай.*

### Маўзалей Джаныке Ханум, 1437 год

Разрабаваны расейцамі.
За плату
аглядаюць нашчадкі
Брыдоту продкаў.

*1992 г., Бахчысарай.*

# Кветкі, дрэвы і травы

## Мірабэлькі

Далёка ўнізе,
                на схіле гары,
                                раніцой
Я ўбачыў і зьняў,
                як цьвітуць мірабэлькі.

*2001 г., Варшава*





## Кветка

Пунсавее, як Боская кроў.
Гарачая, як каханьне.
Прыўкрасная, як маладосьць,
ружа чырвоная.

## Барвовы цьвет

Як высакародна цьвецiцца
Дзiкая ружа
На фоне кляштарнай сьцяны!

*2002 г.*



*198. Тульпан бел-чырвона-белы. 1999 г.*

## Тульпан

А гэты белы тульпан,
Нібы сабака,
ласкавы і кудлаты,
Галаву апусьціў.

*2002 г.*



*199. Магноліі ружовы цьвет. 1999 г.*

* * *

Цёплы вецер шумліва падзьмуў.
Паляцелі магнолій пялёсткі –
Залатыя рыбкі.

*2003 г.*

* * *

Ветрык адбег,
І нарцыс паваліўся,
Хлопчык маленькі.

*2002 г.*

* * *

Шасьціканцовы нарцыс,
Як зорка Бэтлеему,
Сьвеціцца ў ценю травы.

*2002 г.*





## Вішневы цьвет

О, сакура ружовая!
Ты, як пышная цеплыня!
Але белая вішня – паўночная краса,
Чыстая, як сьвежы вецер.

*2002 г.*



209. Па дарозе ў Вільню блакітны сон. 2000 г.



210. Трысьнёг над возерам. 1998 г.



*214. Восень у Нью-Джэрзі. 2003 г.*



*216. Асеньні эцюд з дрэвамі над вадой. 2001 г.*



*220. Зімовае поле па дарозе ў Вільню. 2001 г.*



* * *

Жоўтая бяроза
Ў белым тумане́,
Як ведма, растала.

*2003 г.*

## Цьвітуць дрэвы

Вішня – як цёплы вецер,
Як дождж веснавы.
Яблыня – Боскі касьцёл
Прамянее сьвятлом.

*2000 г.*

## Раньняя ціш

Мятліца схілілася
Пад цяжарам расы.

## Ружовая вішня

Дзесяць дзён на чужыне
Цьвіла японская сакура.
І вось апаў
яе прыгожы пустацьвет.
Дыван пялёсткаў,
як ружовы сьнег.

*2002 г.*

## Вяргіня

Жоўтую вяргіню град так змалаціў,
Што ці падымецца йшчэ?
Паламаны куст.

*2002 г.*

## Думаю аб прыўкрасным

Найцяжэй у колеры фатаграфаваць кветкі.
Хоць, здавалася б, -- проста.
І як мне душу тваю зразумець, ружа!

## Цьвіценьне

Спачатку цьвіцее лаза і падбел,
Сон-трава і белыя мірабэлькі,
Жаўцяцца латаці ля самай вады.
І сінія пралескі.

І тады расьцьвітаецца белая вішня.
Пырскае ўсьцяж, нібы град,
За адну толькі цёплую ноч.
А ў мокрых лясах апусьціліся вішні на дол:
Курасьлепак зграй –
Пад дубамі і вольхамі
Цьвеціцца белы шум.

На палях і на межах старых, наўзбоч
Адзінокія грушы цьвітуць.
Ападаюць пялёсткі на крушні,
У каменьне, у ральлю
І на леташні ліст.

А затым распускаецца яблыні бель.
О, квітней, каралева садоў,
Ружовая і прыўкрасная!
З чым параўнаць цябе,
Вечнае хараство?
Хіба з Раем?
Хіба зь Беларусяй...
А ля ног тваіх,
Нібы сонцаў мільён,
Адуванчыкаў жоўты дыван.
О, сонечны луг!
Па золаце йду,
Дзе над рэчкай чаромха шуміць,
І квеціцца шыпшына,
І курганы маўчаць...

І зацьвітае бэз.
І напаўняе Боскі водар сьвет,
Як звон касьцельны.
Гэтак пахне вясновае неба ў траўні
І з маёвай хмары пералётны дождж.

Глядзіш – і бяліцца палатном,
Нібы кужаль, нібы лён,
Арабіны цьвет між лісьця.
Палымнее дзікаружа, распускаецца язьмін –
Увабралася лета ў сілу.
Цьвітуць лугі і травы.
Белы цьвет-фіялет
І блакітная плынь,
І лілея плыве.
Ужо лета буяе,
Ужо лета ідзе.

Зацьвітае пышна ліпа.
Гуд пчаліны, мёд ліпнёвы,
Пух таполі, водар поля,
Ветру пах з далёкіх лукаў
І бульбяны небакрай.

Толькі лета – а ўжо жнівень.
Зацьвітаюць сухавейкі
Й піжма жоўціцца здалёк,
Ля дарог і ля чыгункі,
Дзе па рэйках колаў стук.
Ужо жоўтая юргіня
Адцьвітае пад вакном
І астры белыя дрыжаць,
Як першы сьнег у чыстым полі,
Як першы сьнег у полі...

*2002 г.*

## Цьвітучая ноч

Старая груша ў начы,
як воблака, цьвіце.
Ваконца адчыніў –
Плыве вясновы пах.

*1995 г., Менск*

## Клён

Убачыў,
Як плаўна спадае з клёну
Апошні ліст,
Шапочучы па суках.

*1995 г.*

## (З ЦЫКЛУ „БЯРОЗА”)

* * *

Бярэзьнік пад Суботнікамі.
Ці расьце там яшчэ хоць дрэўца?

*2003 г.*

* * *

Паслухайце, як гучыць:
Бяро-о-о-за.
Век бы глядзеў, каб вярнуцца
Туды,
    дзе бярозавы гай.

*2003 г.*

### Еду аўтобусам

Праплыла бяроза ў вакне.
Гольле ніцае,
Вецер калыша.

*2003 г.*

* * *

Прасыпаўся сьнег на бярозу.
Імгненьне – растаў.
Кроплі блішчаць.

*2003 г.*

### У лістападзе выйшаў на двор

Сёньня бежавы небаспад.
Трапеча бярозы ліст.
Гольле, як пасмы дажджу.

*2003 г.*

## Вясновы прастор

Жаўранак засьпяваў.
Зьвініць паветра,
                    рунь бяз краю,
І ў полі – бярозавы гай.

*2004 г.*

# (З ЦЫКЛУ „ЖОЎТЫЯ НАРЦЫСЫ”)

* * *

Гнецца, гнецца кволы нарцыс
Пад ветрам,
                    што дзьме з акіяну.

*2002 г.*

# (З ЦЫКЛУ „МАГНОЛІІ”)

* * *

Вечар маёвы спадае, як цьвет на траву.
Ружавее магноліяў рай,
І сьціраюцца фарбы ў цішы.

*2003 г.*



## Ападае магнолія

Вечарэе ў траўні.
Прыляцелі гусі,
Пёркі паскідалі.

*2003 г.*

## Іду па задворках

Абсыпала магнолія пялёсткамі пустэчу.
І занядбаны дом,
І беднае жыцьцё
Чужое, як рыдван.
Мне штосьці дрэннавата:
Тут вось бяда людзкая,
А я перад красой спыніўся.

*2003 г., Бруклін*

# Запісы

## Мастацтва

У мастацтве не павінна быць
Нечыстаты.
Вобразы, што засяроджаныя на нізкім,
Паніжаюць.
Бо хараство – гэта шлях Ісьціны,
Што вымагае ўзвышэньня.
І толькі зло
Шукае красу ў паскудстве.

*2002 г.*



* * *

Самае дзівоснае мастацтва,
Самы дасканалы вобраз,
Самае высокае хараство –
Прырода.
Тут Боскае стварэньне.
Мы ў ёй, як частка Духу.
Будзьма ўзвышаныя
ў доме сьвятым.

*2002 г.*

* * *

Паэт, пішучы,
Павінен адчыніць душу.
З зачыненай душой
Ня трэба ў словах мудрагеліць.
Аддаў – маўчы,
Пакуль не напоўніцца духам істота.

*2003 г.*

## Мастак

*На тым, хто творыць, мастацтва вобразы стварае, на тым, хто піша (нават вершы), на тым, як на настаўніку, ляжыць адказнасьць перад іншым. Думаючы гэтак, я напісаў:*

Ня трэба брацца за пяро,
Каб векавечыць
Дрэнны стан малога духа
І множыць там памылак рой,
Свае сумненьні ў вечнай праўдзе,
Расчараваньні ў харастве.
Мастацтва ў тым, каб праз красу
Вялікі Боскі Дух убачыць,
Пазнаць праз вобраз рукатворны.

*2003 г.*

## Падмена

*Катэгорыя агіднага ня ёсьць сфэрай мастацтва. Але форму літаратуры і мастацтва крадуць людзі з папсаванай душой і скрыўленым розумам дзеля самасцьвярджэньня. „Творчасьць" такіх – гэта вершаваньне гразі, цынічнае выяўленьне распусты і заганаў душы. Адсутнасьць цэнзуры і свабода друку абяззбройвае грамадзтва перад агрэсіяй нізкіх людзей, празь якіх і адбываецца распаўсюджваньне і ўсталяваньне зла.*

*2004 г.*

## Пісаньне сьвятлом

*О, вялікая фатаграфія, – адзіная і непараўнальная, якая адбівае сьвет, як створаны ён Богам, дазваляе зазірнуць у сутнасьць рэчаў і (о, дзіва!) – спыніць імгненьне часу!*
*О, незвычайная, вялікая справа, найвялікшая з усіх мастацтваў!*

*1996 г.*



*224. 1957 г. Студэнты зь Віленшчыны. (Арх. З калекцыі Юзафа Русакевіча).*



*225. 1955 г. Дзяўчаты зь вёскі Даўгялаўшчына (каля Суботнікаў) на фэст каля касьцёла. (Арх. З калекцыі Юзафа Русакевіча).*

## Колерная фатаграфія

*Не захапляцца стракатасьцю. Не захапляцца батанікай. Не рэпрадукаваць прыроду. Мусіць быць балянс, дапасаваньне колераў, адлюстраваны стан прыроды. Бо ў гэтым адбіваецца ў прыродзе Боскі Дух.*

*2002 г.*

## Каляндар

*Мне любая зіма – сьнегапад; лятуць, гайдаюцца сьняжынкі.*
*Жаданае лета – шапаценьне дажджу і белыя воблакі над вадой.*
*Сьветлая Вясна – цьвіценьне вішняў і адуванчыкі пад платамі.*
*Восень... – найчасьцей мне душа шчыміць, бо час навявае маркоту, трывогу і жаль.*

*1995 г.*

* * *

І так заўсёды:
Як лета хіліцца ў дол –
Маркоціцца душа,
І зноў вясны чакаю.

## Дрэнныя перамены

Раней дзявочы ідэал –
Дабро і ласка, позірк мілы
І цнота ў постаці, душа.
Цяпер – нахабная распуста
З стракатых вокладак глядзіць.
І нешта страшнае, як цемра,
Паўсюдна вылезла з нары.

*2003 г.*

## Рэгрэс

Лібэральныя ідэі
Так разбэсьцілі людзей,
Што яны ня здольныя
Ні на што ідэальнае,
Ні на якія маральныя абавязкі,
Ні на якія ахвяры.
Навошта, калі ўсё дазволена,
Нават грэх.

*2002 г.*

* * *

Стаўка распусных зроблена на свабоду.
Распусным чалавекам хочуць перакуліць сьвет.

* * *

Лібэралізм – гэта новае паганства.

*2004 г.*

## Дараваньне

Дараваць можна
дрэнныя ўчынкі.
Але не даруюцца
дрэнныя зьявы.

## Па дарозе чую

– Глядзі, во, ведзьма на плякаце.
І ўсьмех злавесны.
– Й сапраўды.
А гэта ж Монна Ліза
З цяпершчаны прышла.

*2004 г., Нью-Ёрк*

## Запісаў наўзбоч

*Калісьці, гадоў 25 таму, напісаў працу (якая, вядома ж, загіне, як шмат што) пра мастацка-вобразнае выяўленьне і ўспрыняцьце. Тут зазначу, што мастацкае ўражаньне грунтуецца на паяднаньні эстэтыкі і псіхалёгіі. Псіхалягічныя перажываньні могуць выклікаць розныя роды дзейнасьці, сітуацыі, прадметы. Гэтую асаблівасьць якраз выкарыстоўваюць усялякія антымастацкія накірункі (маскультура, кіч, дэтэктывізм і г. д.), якія ў сваім рамястве эксплуатуюць псіхалягічны аспэкт уражаньня, імітуючы эстэтыку альбо цалкам адмаўляючыся ад яе. Заканамерная канцэнтрацыя ў гэтай „спэцтворчасьці" (ці агулам – бізнес-творчасьці) крыміналу, жорсткасьці, крыві, забойства, гразі, паскудства і ўсялякай дрэні, якая па сваёй сутнасьці (гэта катэгорыя агіднага) не ўтрымлівае нічога эстэтычнага, але робіць вострае (шакуючае) псіхалягічнае ўражаньне. Шкода ад такой антыэстэтычнай дзейнасьці і „рынкавай творчасьці" для духоўнай культуры і прыгожага разьвіцьця чалавека велізарная.*

*2006 г.*

* * *

Тып чалавека эпохі адбіваецца ў рэкляме.
Там ён найлепш відаць.

*2004 г.*

* * *

Беларус зь вёскі
Новы Двор:
„А што нам улада –
Мы пры любой уладзе жывём".

*2006 г.*

## Заняпад

Раней сьпявалі,
як працу канчалі.
Цяпер – як гарэлкі пап'юць.
Якія сьпевы – такія й песьні.



*226. Галоўны фасад касьцёла ў мястэчку Шумск (Віленшчына). 2006 г.*

* * *

Моладзь – без ідэалаў.
У народа – якая будучыня?

* * *

Справа відушчых
Не абурацца сьляпымі,
А дапамагчы ім бачыць.

* * *

Калі хочаш адпакутаваць –
Нарадзіся беларусам.
Адпакутуеш, душа,
на векі вечныя.

*2002 г.*

* * *

Дэмакратыя – сродак геапалітыкі.

* * *

Пахавалі Купалу,
Пахавалі Быкава,
Пахавалі вялікіх.
Але Беларусь не памрэ.
Бо яны жылі для Беларусі.

*2004 г.*

## Грамадзтва земляробаў

Людзі, што працуюць на зямлі,
Ня могуць быць злымі,
Бо йдуць дарогай Боскага стварэньня.
На зямлі – канчаецца пэрыяд дзікасьці.

*2002 г.*

* * *

Запусьценьне ёсьць вобраз пустаты.
Адзіночная камэра – увасабленьне.

* * *

Над магілай напісана: „МУХА”.
Усьміхнешся хіба,
Бо й Муха чалавек.

* * *

Дурань дашукваецца сэнсу
Там, дзе яго няма.
Так узьнікла псэўданавука.

*2004 г.*

## Руціна

Заўтра на прыём
З нагоды нараджэньня
чыёйсьці каралевы,
А чаравікі ўжо пацяклі.
Вось табе й на!



*227. Зімовае сонца. Парыж. 1998 г.*

## Сустрэў Віцьку

Віцька казаў,
Што ніколі, ні пры якіх абставінах
Ён бы Бацькаўшчыну не пакінуў.
Але навошта Віцька такое казаў?
Ён жа нікому не патрэбны,
Ніколі ня жыў для Бацькаўшчыны,
Не стаяў за народ,
Не займаўся палітыкай,
Не ваяваў з ворагамі,
Не стаяў перад выбарам
І ня ведае, што гэта такое.

Толькі я гэтак падумаў,
Ідучы па Брадвэі,
Аж бачу, Віцька бяжыць:
– „Здрастуйця", Станіслававіч.
Каб гэта дапамаглі мне тут неяк застацца,–
Загаварыў ён з ходу. –
Я ж во таксама ў дэмакратыі быў
І ўсягды за вас галасаваў.
– Што ты нарабіў, Віцька! –
Занепакоіўся я, –
Трэ' было за Лукашэнку.
– Дык, калі чэсна, Станіслававіч,
За яго й галасаваў, гада.
Абяцаў многа – ня даў нічога.
– Дык што рабіць? – Пытаю.
– Уцякаць трэба зь Беларусі.
– Навошта?
– А жыць як?
– Ну, дык а як жыць?
– Вось калі б вы тагды
Не сталі настойваць
На беларускай мове
Ды аб'ядналіся б з Кебічам,
То сталі б прэзідэнтам.
Тады б іншая справа, –

Зрабіў мне камплімэнт Віцька.
– Але тут ангельская мова, – кажу.
– А я на Брайтане прымясьціўся.
Там па-руску гавораць.
Беларус не прападзе, –
Узбадрыўся Віцька. –
Работы я не баюся,
Магу хоць вуліцы падмятаць.

*2006 г.*

## Абавязак і воля

*Ёсьць дачыненьні асабістыя, за якія сам адказнасьць нясеш і волю гартуеш. Але ёсьць – грамадзкія, дзе абставіны вышэйшыя за волю тваю і адказнасьць твая застаецца. Гэтак думаючы, я напісаў:*

Ці можаш падставіць шчаку левую,
Калі ў правую б’юць?
Дзеля Бога – магу,
Каб учынкам сябе не панізіць.
Але калі забіваюць народ –
Без ваганьня страляцьму.

*2003 г.*

## Парада

Калі хочаш даведацца
Пра культуру чалавека,
Дай яму ў рукі добрую кнігу
І паназірай,
як ён стане яе гартаць.
Але зважай:
Для кнігі гэта можа быць небясьпечна.

* * *

Калі людзі пачынаюць дыскутаваць пра недыскусійныя рэчы – гэта азначае, што нехта зь іх хоча разбурыць прадмет дыскусіі.

*2004 г.*

* * *

*Беларуская нацыя трымаецца цяпер на беларускіх жанчынах, якіх даў нам Бог. Гэта відавочны вывад, да якога прыходзіш нават без аналізу, а проста, назіраючы наша жыцьцё. Агрэсія скалечаных, перакуленых паняцьцяў лібэральнага Захаду, накіраваных на разбэшчаньне жанчыны, можа зьнішчыць беларускі народ. Беларуская жанчына – гэта апошні фарпост Беларускай нацыі.*

*2004 г.*

## Думаю пра Рыгора

*Як адышоў без пары на той сьвет Караткевіч, Рыгор Барадулін (неразлучны сябра Караткевіча) крочыў побач з Быкавым. Гэтак удвох яны й прышлі ў Народны Фронт і ахвяраваліся беларускаму нашаму Адраджэньню. Памятаю іх побач заўсёды ў першым радзе на соймах БНФ, маўклівых, засяроджаных і ўзьнёслых. І часта, калі ўзьнікалі вострыя мамэнты, ці запануе канфузьлівая маўчанка, Рыгор устаўляў вершыкам імгненны экспромт, ці бо паддакваў у рыфму сур'ёзнаму дакладчыку, выклікаючы выбух сьмеху і здаровы настрой.*

*Шчымліва ўяўляецца мне ўсё гэта тут, далёка, быццам магло б яно йшчэ вярнуцца... Гэтак думаючы, я напісаў:*

Паэт народнай весялосьці,
Рыгорка, браце наш адзіны,
Як слоўца скажа – усе рагочуць,
А сэрца плача па Радзіме.

*19.10.2004 г., Нью-Ёрк*

## Акупацыя

– Вы хто? – спытаў ахоўнік.
– Ісус Хрыстос.
– А пачэму разгаварываеце па-беларускі?

*2002 г.*



## Антыверш

*Вечная здрада эліты і пасіўнасьць нізоў – гэта, магчыма, псіхалягічны вынік асіміляцыі балтаў. Дамінацыя слабой асновы. Гэтак думаючы, я напісаў антыверш:*

Мадзее млявы дух дулебаў.
Наеўся гразі беларус.
Абы было, абы ўсё ціха.
У лес, у багну, у азярод
І галаву ў куст уперці...
– Там мой народ, там мой народ, –
Сьпяваў апошні бард паганскі,
Пакуль прышоў яго чарод.
Душой адпомсьціўся нашчадкам:
„Да ўсіх праблем мне дзела нет”.
І абсыпаецца лістота,
І нішчаць край,
І гіне сьвет.
Галота духа, пустацьвет:
„Мне дзела нет,
                    мне дзела нет...”

*(З цыклу „Антывершы”) 2002 г.*



*229. Тэхнагенны крвявід перад Нью-Ёркам. 1996 г.*

## Пішу па-руску

*Охо-хо, прачытаў я пераклад верша Рыльке на расейскую мову („Царь Вечер"). Чытаў-чытаў, аж заблытаўся. Век не чытаў такога перакладу. Пераймаючы стыль і лексіку, пераказаў я сабе гэты тэкст на паперы:*

Егда отдремлет дрёму,
Подъяв потир,
Издревле пьян протоиерей,
Смиренно очи потупя,
Блеснёт красавица Аврора,
Из рук младенца
Смирну сся.
Горит лампада возлелея,
Как над елеем искупленья.
Гнездится выпь
                    уж на сносях
И вдаль звезда её уводит.
Побольше б нам миротворенья
И мираносицев також.
Свалился с ног Бадья Дубина
Велика была кутерьма.
Грядёт, как нынче, в багрянице,
С утра мудрёно присмирев,
Как сон, в объятиях Психеи,
На холмах негу сохраня,
Проснёшся, блин...,
                    одна неприятность.

*(З цыклу „Антывершы") 2002 г.*

## Дні страт

*(са слоў савецкага чыноўніка)*

Ішла вайна. Жнівеньскім днём 1941 года ў эвакуаванае Міністэрства культуры БССР у Маскве прышоў стомлены чалавек з трагічным абліччам. Ён павітаўся з усімі ціха і папрасіў дапамогі, якая належыла ўцекачам зь Беларусі.
– Фамилия? – спытала начальніца за сталом.
– Янка Купала.
– Чем занимаетесь?
– Пішу вершы.
– Я спрашиваю, где работаете?
– Пішу вершы.
– Я вас русским языком спрашиваю: «Ваша профессия»?
– злосны пачуўся крык. Але чалавек з трагічным абліччам ня слухаў. Паволі пайшоў да дзьвярэй.

*1981 г.*

* * *

Толькі вольны чалавек
Жыць ня можа бяз Бацькаўшчыны.
Нявольнік любіць месца,
Дзе задаволеныя
Яго патрэбы,
І ня любіць сваю Зямлю.
Колькі разоў я назіраў тут гэта,
У краіне мігрантаў.

* * *

Пакуль йшчэ сілы ёсьць,
Пакуль жывы –
Зрабіць пабольш
Для Беларусі роднай.

# Вершы

## Паэзія

Паэзія – гэта стан душы.
Высокая паэзія ёсьць выяўленьне Боскага ідэалу.
Нізкая паэзія ёсьць адлюстраваньне чалавечых страсьцяў.
Высокая паэзія ўзвышае чалавека.
Нізкая – разбэшчвае.

*2000 г.*

## Пішу на раніцы

Вясной і летам доўгія дні.
Устаю, як адыходзіць змрок,
І пры адчыненым вакне,
Пакуль у доме сьпяць,
Вершы складаю
Сам для сябе.
О, найлюбшая
мая Беларусь!

*2003 г.*

## Пішу ў дарозе

Паэзія, нібы лякарства.
Як пішаш – і супакоішся, і плачаш.
І сьвет здаецца лепшым
Над безданьню трывог.
І ажываюць люстры дзён пражытых,
І летуценьні, мрояў рой,
Дзе ілюзорны сьвет са мной,
Як праўда, існуе, як рай.
Але хто там крычыць за вакном?
Спыняецца мой трамвай.

*2003 г.*

## 2002 год

*Чым больш вершаў, тым больш уцякае палітыка. Разумею, што трэба кідаць. Бо калі не змагацца, то як у няволі пісаць? Гэтак думаючы, я напісаў:*

Каб прыглядзецца, трэба спыніцца.
А як спынішся – зарастае шлях.
Што рабіць?
Ужо й ландышы адцьвілі.

*2002 г.*



* * *

Цэлую ноч,
пакуль вершы пішу,
Травеньскі салавей
несьціхана пяе.

## Час

Вершы пішу.
Пройдзе вельмі шмат часу,
Калі іх прачытаюць.

*2006 г.*

## Пяро

Вершы пішу
                    аб Радзіме.
Не забыцца б аднак
Абмакнуць мне пяро ў Гаўі,
Што ў вечнасьць плыве –
Акіян-мора.

*2006 г.*

# ЗЬМЕСТ

Зянон

*Дарога*
*(Вершы і фатаграфіі)*

*Надрукавана на сродкі і пры падтрымцы беларускай Фундацыі імя Рамуальда Траўгута і на сродкі аўтара*

Зянон. Дарога. Вершы і фатаграфіі: –
„Беларускія Ведамасьці”, Варшава;
Таварыства Беларускай культуры ў Летуве,
Вільня, 2007 г. 432 стар.: іл.
ISBN 9955 – 9337 – 9 – 8
УДК 882. 6 – 1 П 12



Мастацкі макет і афармленьне: З. Пазьняк
Кампутарны набор, карэктура: Галіна Палачаніна
Кампутарны склад па макету: Робэрт Стаховіч
Друк: QLCO. AR-W
Наклад 1000 асобнікаў
Аддрукавана ў лютым 2007 г. у Варшаве
Папера афсэтная і крэйдавая (устаўкі),
Фармат 50x70 cm 1/8 арк.
Ул. выд. арк. – 54
Ум. друк. арк. – 38

*Кніга зробленая паводле мастацкага прынцыпу,*
*распрацаванага мастаком Пятром Драчовым.*

„Беларускія Ведамасьці” – Варшава, вул. Ерузалімскія алеі, 125/127; Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве.
Вільня, вул. Бролю, 9–86

У моры шэрасьці і чужыны
Успаможэньне дае
Толькі Айчына,
Сьветлы вобраз яе ў душы
І найвялікшы Бог.

2002 г.